УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи)-5

Мельнікаў Ю.

М 31 Калі сны здзяйсняюцца... Кніга прозы / Ю.Мельнікаў. М. «Эксмо», 2006. 132 с.
ISBN 985-6576-47-4

Цешыць тое, што малады аўтар Юрый Мельнікаў, дасягнуўшы пэўнага поспеху ў паэзіі (апублікаваў вершы ў часопісе «Першацвет» і альманаху «Панядзелак»), пачаў пісаць празаічныя творы. Характары яго персанажаў даволі яркія, самабытныя, узятыя непасрэдна з жыцця, чым, як літаратар, захапляе і радуе.

Жыве ў Мінску.

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи)-5

М31

ISBN 985-6576-47-4

## АД АЎТАРА

Ніхто не аспрэчвае вядомай ісціны: пры жаданні напісаць уласную кнігу, неабходна навучыцца праўду жыцця асэнсоўваць пры дапамозе мастацкага слова, выяўляючы яе ў трагічных і гераічных варунках, надзіва багатай гісторыі роднага краю.

Дзесьці ў восьмым класе я сур'ёзна захапіўся матчынай мовай, усведамляючы, што родная літаратура — невычэрпная крыніца ведаў, захавальніца памятных дзеяў нашых далёкіх продкаў. Зразумела, мае тады наіўныя меркаванні, можа, і не спраўдзіліся б, калі б пасля заканчэння школы не паступіў на вучобу ў Мінскі дзяржаўны педагагічны каледж на аддзяленне беларускай мовы й літаратуры; далей — скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт (факультэт беларускай філалогіі й культуры). Адным словам, няспешна, разважліва, асцярожна і ўпэўнена ішоў да пастаўленай мэты.

Менавіта ў студэнцкія гады пачалі з'яўляцца ў друку мае творы. І вось — сталася так, што мне іх удалося сабраць пад адзіную вокладку... Што з гэтага атрымалася, дапытлівы чытач, спадзяюся, зразумее і асэнсуе ўсё сам.

Бясконца ўдзячны я Госпаду Богу за натхненне, за падтрымку — родным, сваякам і сябрам, выкладчыкам Валянціне Карлаўне Раманцэвіч, Аляксандру Віктаравічу Чэчату, Івану Іванавічу Казлоўскаму; а таксама пісьменніку Алесю Масарэнку — за дапамогу рэалізаваць мае творчыя задумы.

Юрый Мельнікаў

## Аповесць

# ВЕРАСНЁЎСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ

### 1. Заляцанні пана Штыкоўскага

Музыка аркестра зачароўвала сэрцы прысутных на вяселлі Рамуальда Штыкоўскага. Сталы прагіналіся ад заморскіх він, фаршыраваных парсючкоў, заліўнога акуня, прысмакаў, якіх не знойдзеш у сялянскай хаце. На свята з'язджаліся госці: важныя, нахабныя магнаты, што мелі ўладу ў імперыях, падобных на Рымскую ці Асманскую, тлустыя жорсткія прыгоннікі, чые мужыкі неслі падаткі й сваім лянівым гаспадарам, і каралю, які мала адрозніваўся ад паплечнікаў-васалаў, камандзіры жаўнерскіх атрадаў, чые падначаленыя агнём, мячом вынішчалі мужных паўстанцаў з бядняцкага асяроддзя.

Кожны багацей жадаў запрасіць людзей з чыстым сэрцам, светлым розумам і залатымі рукамі, без якіх свята — не ў радасць. Гэта былі знакамітыя асобы ў часы Сярэднявечча: святар праваслаўнай царквы ўсіх Пакутнікаў айцец Ігнацій, настаўнік брацкай школы Панцялей Сымон і вядомы ўсёй акрузе скрыпач Лявон Дзежка.

Рамуальд Штыкоўскі — чалавек багаты на грошы: іх столькі ў яго, хоць імі ў хаце сцены клей; але быў палахлівы на жарты ды ўсмешкі. Па разуменні пана, непакорнасць прыносіць страты, бо сяляне бунтуюць. Пасмяецца селянін на кірмашы з п'янога Рамуальда, той

няшчаснага пагоніць на стайню пад гарачы бізун ці ў турму, што знаходзілася ў адной з вежаў прыгоннай цытадэлі.

За злы нораў і шыбеніцы на шляхах гаспадара Вілейшчыны ў народзе называлі Д'яблавай Рукой. Штыкоўскі марыў аб уласным шчасці, а іншыя для яго — рабы. Яго знешнасць вабіла жанчын з Белай Русі, Украіны, Польшчы, што жылі ў дзяржаве, вядомай сучаснікам як Рэч Паспалітая.

Колькі каханак служылі распуснаму Рамуальду, гісторыі невядома. Яго арліны нос, пад колер лебяды, зялёныя вочы, белыя пухлыя рукі, што нагадвалі выцягнутыя з печы булкі велізарных памераў, быццам піўная бочка — тулава, спакушалі засцянковых шляхцянак і пекных паненак. Здаралася, што пан гойсаў на кані ў пошуках непрыемнасцяў за вясковымі прыгажунямі. Тады сяляне, навучаныя горкім вопытам, хавалі сваіх дочак у суседзяў, а самі браліся за зброю, каб выгнаць ліхога чалавека з вёскі.

Так бадзяўся па свеце нашчадак Крэза, пакуль яму не споўнілася сорак шэсць гадоў — узрост, калі дзетак гадуюць, а ён яшчэ падбіраўся да дзяўчыны, маладзейшай за Рамуальда ажно на чвэрць стагоддзя.

Настасся Кандрацюк з ранняга дзяцінства пазнала пакуты й радасць сялянскага жыцця, якія з мёдам не параўнаць, бо прыходзяць, не папярэдзіўшы, пакідаючы адмеціну ў душы, шчаслівую ці сумную, пры імгненным знікненні. Ад маці дзяўчыне перадалася таемная асцярожнасць, хараство, талент разумець мяжу дабрыні й зла, глыбокая мудрасць. Яе сэрца дыхала цеплынёй дзівоснай, пералíўнасцю боскіх адценняў кахання. Стан Насцёны нагадваў узыход сонейка; рукамі, працавітымі й пяшчотнымі, упрыгожваліся рушнікі,

сурвэткі, вязаліся ў бабкі снапы жыта, ад позірку мілай красуні дачасна паспявалі на градах гуркі, бульба, капуста.

Насця — старэйшая дачка слаўнай сям'і Кандрацюкоў, дзе быў бацька, маці, тры малодшыя сястрычкі, пяць брацікаў, адзін аднаго меней, — як грыбніца баравічкоў пасля цёплага дожджыка.

Яе бацьку часцяком збівалі панскія служкі за нязгоду з самадурствам няўрымслівай дынастыі. Маною адбіралі паны зямлю жыхароў вёскі Гліннае, палітую потам і крывёю, ганьбілі дзявочы гонар, каб хваліцца гвалтоўнымі подзвігамі перад магнатамі й каралём.

Старажытнаму сялянскаму роду лез смалой у вочы непісьменны й шалёны Рамуальд. Яго мэты не мелі рэчаіснага, а набывалі для Настулі-чараўніцы тузін хваляванняў. Штыкоўскі хацеў завалодаць не толькі сэрцам непадкупнай дзяўчыны, але і шнурамі сенакосу, ворыўнай зямлі, каб павялічыць надзел злыдню-аканому. Калі пан накіраваў сватоў да Кандрацюкоў, то яго сваякі ратаваліся бегам жвавых жарабят ад гарбузоў, што траплялі важкімі ядрамі на галовы няпрошаных гасцей.

Няўдачы не перашкаджаюць задуме, таму Штыкоўскі загадаў паўтарыць нашэсце. Відавочна, ён, убачыўшы ў сне нешта дзіўнае, прыкладзе ўсе намаганні, каб прыдбаць лепшых коней, добрую зброю, купіць стражнікаў на войны й міжусобіцы.

Наляцеўшы на сям'ю, што працавала талакой на жніве, прыслугачы Д'яблавай Рукі акружылі сялян. Навёўшы пікі на маці й брацікаў дзяўчыны, панскія падбрэхачы схапілі Настулю і кінулі на луку сядла. Пад моцным канвоем яны павезлі яе ў крэпасць з мэтай абмяняць палонніцу на семдзесят залатых дукатаў.

Штыкоўскі радаваўся, як малое дзіця з новай цацкі,

назіраючы з балкона гмаха на палявы гасцінец, дзе імчаўся атрад памагатых у пяцьдзесят вершнікаў з даўно чаканай здабычай. З вар'яцкім рогатам і свістам несліся гайдукі, чые дзеянні выклікалі ў бедакоў прагу ўзяцца за косы, вілы ды вісячую да пэўнай пары стрэльбу, каб задаць перцу ў пасці галодным драпежнікам. Праклён выказваўся ім штодзень і мацнеў, прыгадваючы казацкае войска ў сутычках з прыгнятальнікамі розных тытулаў.

Прывёзшы добрай душы дзяўчыну, гайдукі пакланіліся Штыкоўскаму, гамонячы:

— Ледзь злавілі царэўну-лебядзь, паважаны пане.

— Коні стаміліся ад хуткай...

— Падаем з сёдлаў... Пагублялі сілы, выконваючы даручэнні Вашай Высокасці.

Д'яблава Рука, не марудзячы, натхняе ваяроў:

— Стражнікі, у шарэнгу раўняйся, з абедам і пітвом спаткайся!

Адпусціўшы варту, Рамуальд на руках занёс Насцю праз ганак у палац, ва ўпрыгожаны золатам і срэбрам пакой. Там і распавёў з дзяўчынай размову.

— Прапаную стаць жонкай славутага рыцара Штыкоўскага. Зажывеш усім на зайдрасць: вершнікі ў ахове, брыльянты, грошы паплывуць, як акуні ў рацэ. Павандруеш па Еўропе — даведаешся пра свет болей, чым па кнігах.

Насця, няўважліва слухаючы бязглуздзіцы аматара спакушаць дзявочыя сэрцы, спакойна вымавіла:

— Цікава гаворыш, быццам на ішаку ваду вязеш... Ды чуць мне ўсё гэта непрыемна, час траціш дарэмна. Ісці да цябе ў жонкі, што шыла кінеш у пячонкі, каб мець фанабэрыстага мужа, то сэрца не дужа.

Насця змоўкла, не беручы на веру ніводнае слова крывасмока і авантурыста. Ёй адразу ўспомніўся любы

Панцялей, з якім прыходзіла на святы й танцы, якога пакахала за мужнасць, вясёлы настрой і спагаду.

Аднак вернемся на два гады назад. У ваколіцах Гліннага ды Вілейкі не было, здавалася, такой мілай і шчырай дзяўчыны, якой з'яўлялася Насця. Заўсёды радая дапамагчы матулі прасці кросны, паглядзець за маленькімі брацікамі й сястрычкамі, на градках парадак навесці, — здаецца, не было такой працы, дзе не квітнеў бы талент слаўнай прыгажуні.

З дзіцячых гадоў падабаўся ёй Панцялейка. Падабаліся яго спевы й аповеды. Кожную сустрэчу з ім забыць ужо было немагчыма. Калі прыйшоў час юнацтва, даверыла сваё трапяткое сэрца Панцялею, тады ўжо выпускніку брацкай школы. Пакляліся яны берагчы таемнае каханне. Ды сапсаваў настрой пан Штыкоўскі, неспадзявана завітаўшы да вялікага дуба, дзе мілаваліся яны. Накінуўся Рамуальд на Панцялея, але юнак не разгубіўся, выхапіў панскую шаблю, якой і параніў яе ўладара. Два тыдні хварэў Штыкоўскі, збіраўся пакараць хлопца, але не на жарт перапужаўся: гэтак можна пазбавіцца стайні й гумна, што раптам згараць уначы. Аняго ж — прычапіся да сына казацкага старшыны, зусім застацца лёгка без маёнтка. Таму Д'яблава Рука захаваў недавер да закаханых, імкнучыся пры нагодзе адпомсціць ім.

А вось жаданне помсты ў нашай гераіні ўзнікла тады, калі яе бацька расказаў, што дзед стаў рэкрутам за нявыплату чыншу Альфрэду Штыкоўскаму. Выходзіла, што пляменнік пераплюнуў дзядзьку па жорсткасці.

Штыкоўскаму не даспадобы цішыня Насцёны, і ён, нервуючыся, прагугнявіў просьбу. Затым выняў з ножнаў палаш і, кладучы зброю пры левай руцэ, паказаў крамневы пісталет, што зноў заняў месца ў кішэні.

Адчуўшы дзявочае здзіўленне, пан залямантаваў, нібы певень прад куркамі:

— Не хочаш па-харошаму, добраахвотна, то пасядзіш тыдзень у цямніцы, пакуль розуму набярэшся, а там — выйдзеш маёй жонкай. Выбар, Насця, у цябе ёсць: жыццё пад дахам з заможным чалавекам ці пакаранне перад хлопамі.

Насцёна ўсміхнулася з планаў Рамуальда і выказала абурэнне:

— Калі ты вядомы, што той пень сасновы, шукай сабе выбранніцу з магнацкай дарогі, няхай жа гарыць гарам дурня абяцаная воля, дзе бізун палюе за словам.

Не чакаючы нічога кепскага, Штыкоўскі заўважыў, што хутка застанецца з носам, калі працягне тачыць лясы з гэтай дзяўчынай. І ён паклікаў аканома:

— Дзе швэндаецца Бахус? Хай збан з віном абдыме, калі выканае волю сябрука!

Не паспела праляцець канарэйкай хвіліна, як прыплёўся, ледзь трымаючыся на нагах, галоўны панскі кат.

Варта падрабязней спыніцца на апісанні Качаргі. За пяцьдзесят з гакам гадоў Бахус служыў дзесятку багацеяў ды дзербануць любіў. Чаго ж адмаўляцца, калі за пітво не трэба плаціць са сваёй кішэні. У свеце, дзе з пашанай ставяцца да шабельнага ляза і адчайнай сілы, для яго не існаваў жах ні ў баталіях, ні ў здзеках над жыхарамі вёсак і мястэчак.

Аканом, прыкладваючы два пальцы да капелюша, спрычыніў:

— Ваша Высокасць, хто турбуе спакой нашчадка дзядзькі Альфрэда?

Рамуальд збянтэжана закрычаў:

— Насцю — у астрог, каб неба ў краты здалося.

Бахус зарагатаў на п’яную галаву:

— Няма лягчэй справы, чым гэтая, пане Рамуальд.

Штыкоўскі падштурхнуў служку, які пацягнуў у халодны пакой турмы дачку Янкі Кандрацюка. Качаргу акружылі чатыры гайдукі паўколам, аберагаючы, напэўна, яго ад справядлівага мужыцкага гневу.

Застаўшыся сам-насам, Штыкоўскі сур'ёзна задумаўся. Чорныя думкі насоўваліся тупой дзідай, не даючы ні кроплі розуму, каб не пачаць лаяцца, на чым свет трымаецца:

«Глядзі ж, уцячы хоча ад кавалера Рамуальда. Які ж я пан, калі дазволю так абражаць сямейную дынастыю. Мужыкі спяць у шапку наконт палявання, а там пазнаёмяць з асінай ці сасной за старыя грахі. Няхай ведаюць, што бязлітаснасць — мая зброя».

## 2. Сустрэча ў школе

Пакінем Д'яблаву Руку ў роздуме над асабістым лёсам і малазразумелай будучыняй, і паляцім на дыване-самалёце ў Вілейскую брацкую школу на ўрок чыстапісання да настаўніка Панцялея Сымона.

Да дваццацічатырохгадовага хлопца заўсёды хадзілі з крыўдамі, скаргамі й няўдачамі. Гэта быў высокі плячысты малады чалавек, з добрымі чорнымі вачыма, з чулым сэрцам, якое бадзёрыла вучняў, радавала мужыкоў. Вясёлы голас Панцялея знаходзіў падтрымку падчас Калядаў, Троіцы і ў Вялікдзень, дзе ён спяваў і граў на гармоніку. Залацістыя валасы віліся кудзерамі, прычосваліся ў любое надвор'е. Рукі хлопца ў мазалях ад фізічнай працы: ад касы, што летняй раніцай просіцца на пакос, ад сякеры, што рубіць галлё не горш, чым у панскіх палясоўшчыкаў, ад паслухмянага яму плуга. Настаўні-

ка ўхвалялі жыхары Гліннага як стралка, які з аднаго стрэлу пацэльна трапляў са стрэльбы ў мішэнь. А ў барацьбе і фехтаванні хлопец заўсёды трымаў марку перад прыслугачамі багатых людзей. У вольны ад працы й заняткаў час Панцялея цікавілі кнігі, якіх тады было мала, але тое-сёе ўдавалася прачытаць.

Архіп Сымон — чалавек служылы. З 1649 па 1657 гады з Палівадой, Галотам палохаў паноў, магнатаў, войтаў і цівуноў на лініі Бабруйск—Койданава—Заслаўе, падпальваючы маёнткі, фальваркі, замкі, палацы, наводзячы сапраўдны жах на іх гаспадароў. За смеласць і рашучасць, мужнасць і прадбачнасць абралі сяляне Архіпа казацкім старшыной. Вельмі хацелася старому, каб сыны выйшлі ў свет адукаванымі; веды ж на спіне цягаць не трэба, а жыццё сумнае: сёння — на кані, а заўтра цыгане вернага памочніка могуць сцягнуць.

Панцялей пасля брацкай школы паступіў вучыцца ў Віленскі калегіюм. Хлопцу сталі яшчэ больш давяраць, калі ён закончыў установу вальналюбства. На той віхурны час падобных поспехаў дасягаў не кожны.

Малодшы брат настаўніка наўздзіў патрапіў ісці бацькавымі сцежкамі. Як і Панцялей, атрымаў курс школьных навук, потым служыў у казацкай сотні й дапамагаў старому, беручыся за гуж, у нялёгкай справе. Радаваўся Архіп, пазіраючы на здольнасці сыноў: старэйшага ў рабоце з дзеткамі, малодшага — на ратным полі.

Сям'я Сымонаў жыла ў вёсцы Гліннае паблізу ад выгану, дзе праходзіў шлях з Вілейкі на Ашмяны.

Працуючы ў школе, настаўнік паважліва ставіўся да сваіх выхаванцаў, адначасова будучы справядлівым і патрабавальным. Што ж гаварыць, калі войска без дысцыпліны разбяжыцца, куды бура прынясе, то школьнікі й падаўна апярэдзяць салдат у даволі арыгінальных учынках і дзеяннях.

Выказвала падзяку Панцялею і Насця, бо хлопец навучыў яе чытанню і пісьму. З дзіцячых гадоў працягвалася сяброўства, моцнае і ласкавае пачуццё ўзаемнасці. Маладыя марылі аб вяселлі, што мусіла адбыцца дзесьці ў сярэдзіне кастрычніка 1659 года, на Пакровы.

Некалькі месяцаў заставалася да гэтага цудоўнага свята.

...Паказваючы на дошцы элементы правапісу беларускіх літар, Панцялей хадзіў па класным пакоі, час ад часу правяраючы работы малых выхаванцаў.

Загрукаталі жалобна дзверы. «Хто ж мог да мяне завітаць?» Такія думкі закранулі сэрца настаўніка.

— Перапісвайце словы з дошкі, я хутка прыйду, — сказаў ён вучням.

У калідоры Панцялей прыкмеціў Янку, які, трымаючы ў руцэ брыль, з адчаем сардэчным распавёў:

— Бяда звалілася на мае плечы, Панцялейка. Наляцеў Бахус-Качарга, аканом Штыкоўскага, на нашу сямейку са злыднямі-ваўкалакамі ды скраў... — у старога раптоўна паліліся горкія слёзы, — Насцю. Пакуль я за стрэльбу схапіўся, бандытаў і след прастыў... Ратуй, браток, сваю каханую ад ганьбы... Шкада, што ты калісьці не зарубіў гэтага прайдзісвета, цяпер бы ажаніўся з Насцёнай і жыў спакойна.

— Дзядзька Янук, дапамагу я табе, а пана Штыкоўскага не пужайся. Разам з маім бацькам збірай мужыкоў глінскіх у лесе. Закарцела Д'яблавай Руцэ на ражон цягнуцца, але мы зробім хітрэй за багацея.

— Няхай здароўе і сіла не пакінуць спагадлівага сына Архіпа. Петрусю скажыце, што без яго немагчыма вастрыць зброю на Штыкоўскага, — працягваў старэйшы з Кандрацюкоў.

— Да сустрэчы, дзядзька Янка, дабярэмся да ня-

годніка, які ласы да чужых дзяўчат. Пазыку трэба вяртаць пану ды такую, каб на ўсё жыццё запомніў.

Настаўнік развітаўся з мужным праўдашукальнікам, зайшоў у клас, дзе яго вучні выпісвалі словы, асвятляючы дзіцячымі ўсмешкамі спакой.

Янка Кандрацюк шыбаваў у бок Гліннага, каб паказаць неўзабаве Штыкоўскаму, колькі каштуе фунт ліха для гонару панскага. Сапраўды, цярпенне можа мець канец, калі багата нягод неспадзявана сустракаюцца на шляху да волі. Зведаўшы шмат пакутаў, Янка разумеў складанае становішча, у якім апынуўся. Панцялею ён верыў: калі малады настаўнік абяцае камусьці з сялян, то ўсё тое ж і зробіць. За сумленне і добразычлівасць яго ўхвалялі жыхары Гліннага.

Загучалі званы мелодыяй адпачынку, падобныя на музыку-салаўя. Панцялей звярнуўся да школьнікаў:

— Дзеці, вы свабодныя, заняткаў сёння не будзе. Прывітанне бацькам да свята ўраджаю.

Вучні хуценька пакінулі класны пакой.

Малады чалавек задумаўся, якім чынам можна падбадзёрыць Насцю. Вестачку трэба даць абавязкова. Ён ведаў, што варта запранаваць турэмшчыку кварту гарэліцы й пару дукатаў, ліст дойдзе да адрасата. Але рызыка тут ёсць: раптам які-небудзь адукаваны вартаўнік прачытае пісьмо, тады астрог будзе чакаць аўтара.

А калі не звяртацца да змрочных ахоўнікаў і паспрабаваць іншыя варыянты ліставання ў цямніцу, напрыклад, праз святароў? Панцялей дадзеныя акалічнасці трывала ведаў, неаднойчы выратоўваў сяброў ад бяды.

І ён сеў за стол, наблізіў чарнільніцу, узяў гусінае пяро і напісаў на аркушы паперы наступныя радкі:

«Дзень добры, мая каханая!

Вятры няўдач дыхаюць супроць нашых мрояў і імкненняў чысціні, збіраючыся зруйнаваць справядлівасць кахання. Выратую цябе з палону халадоў і цемры жахаў. Не бойся гіцаляў і іх памагатых. Чэрцям не дазволена псаваць настрой.

Твой Панцялей, 1659 год, жнівень, 27 дзень.

P.S. Ліст знішчы».

Пакідаючы двор вучэбнай установы, ля брамы Панцялей убачыў айца Ігнація. Святар здзівіў хлопца сваёй прапановай:

— Мой сын, нас запрасіў пан Штыкоўскі на вяселле ў свой родавы замак. Пойдзем туды, але Гасподзь і я хочам, каб ты пакляўся на крыжы, што выб'еш з каляіны памочніка Сатаны.

— Святы айцец, лоб ваўкалака даўно па гузаку сохне. Чым жа вас пакрыўдзіў гэты антыхрыст?

— Рабаўніцтвам у выглядзе падаткаў. Наклаў на царкву столькі падаткаў — з паветра дукаты робіць. А як табе Штыкоўскі дарогу перабег?

— Любую сцягнуў.... Цяпер вяселле наладжвае.

— Што рабіць думаеш?

— Насцю вызваляць. Хоць цяжка, але адступаць няма куды.

— Ці не трапім у пастку да звера, Панцялей?

— А калі ён да нас у клетку патрапіць, айцец Ігнацій?

— І такое можа быць. Паслухай жа мяне, старога: мечам размахвае Д'яблава Рука перад табой і Насцяй Кандрацюк. Пан не здаўмее, што ён трэці лішні, таму праўдамі й няпраўдамі дабіваецца свайго. Хлуснёй хваліцца перад жанчынамі й дзяўчатамі. Наступствы нянавісці тырана непрадказальныя.

— Айцец Ігнацій, пры сутычцы з Рамуальдам на чый бок вы станеце?

— Панцялей, у цябе з Настассяй адбыліся заручыны. Таму памятаеш мае абяцанні, шаноўны настаўнік?

— Вы казалі, што вяселле адбудзецца на славу нам і бацькам. Толькі ставіць палкі ў колы Штыкоўскі, ён чалавек неўраўнаважаны. Бойка — для яго дробязі. Шкада, не падрыхтуем стрэльбы на дурня з аркебузай.

— Не хвалюйся, значным справам свой час. Значыць, з Боскай воляй адолеем Д'яблаву Руку!

Малады чалавек выняў з плашча ліст, гаворачы святару:

— Перадайце Настассі падарунак, яна чакае вестачку ад мяне. Вы часта бываеце ў замку Рамуальда.

Настаўніка заінтрыгавала адносная лёгкасць у вырашэнні задачы са шматлікімі невядомымі. Здавалася, пытанням і адказам не хопіць яснага дня.

— Тваю просьбу выканаю, нягледзячы на пагрозлівыя выклікі ваяк Бахуса Качаргі. Пра асцярожнасць не забыў, шаноўны сябра?

— Пра гэта памятаю.

— Да сустрэчы на вяселлі.

— Навошта спяшыць, яшчэ збяромся ў глінскім лесе. А потым — у замку.

— Ці не пойдуць чуткі сярод панскіх стражнікаў, што айцец Ігнацій спачувае бедакам?

— Няхай па іх Пярун ударыць, калі так падумаюць. А веру на багацце Штыкоўскага не жадаю, не хачу мяняць.

— У лесе будуць дазоры з вясковых хлопцаў і мужыкоў, таму рабіце ўсё, што загадаюць, каб без прыгодаў дабрацца да прызначанага месца.

— Добра. Малюся за вас, маладых.

Сяброўства цэніцца сумленнымі людзьмі вышэй за бляск золата і выпрабоўваецца праз жыццёвыя поспехі й няўдачы. Абставіны складваліся на карысць

мужных людзей: пры падтрымцы святара варта рызыкаваць, а Янка апраўдае давер — Панцялей у гэтым не сумняваўся. Да таго ж шэсць дзён у запасе.

Настаўнік і святар развіталіся. Кожны з іх папраставаў сваім шляхам, мяркуючы ў хуткім часе сустрэцца...

### 3. Сонейку цесна за хмарамі

Сцежкі, гасцінцы, шляхі. Колькі іх раскінулася па родным краі, немагчыма пералічыць. Кожная дарожка можа вам распавесці пра змаганне беларусаў за свабоду, дзе пралілася кроў мужных людзей, дзе панам няўтульна адчуваецца, дзе цівуны баяцца бываць без моцнай варты, дзе стражнікі ходзяць, азіраючыся на ледзь чутны шолах дрэў ці кустоў.

Па адной з такіх сцежак ідзе з Вілейкі ў Гліннае каржакаваты, падобны на волата, мужык. Чорныя кучары выглядаюць з-пад саламянага брыля, на плячах — даматканая світка з чорна-чырвоным арнаментам, калашыны нагавіцаў здзіўляюць сваёй бялюткай чысцінёй, на нагах — сплеценыя з лыка лапці. Як вы здагадаліся, гэта Янка Кандрацюк вяртаецца ад настаўніка, каб параіцца з Архіпам, якім чынам зрабіць панскім прыслугачам неба ў фіялетавых хмарах.

Неўзабаве чуецца трэск галля, потым куванне зязюлі. Селянін раптам спыняецца. Хтосьці яго кліча:

— Гэй, дружа, куды спяшаешся?

— А ты кім будзеш, мілы чалавек? — спытаў Янка.

— Твой сусед, які марыць пажаніць свайго сына з пекнай Настай!

— Архіп, здарова! Вось не думаў убачыць цябе ў гушчары лесу. Чаму туляешся, што той бадзяга?

— Зайцоў страляю, не пакідаць гэтае дабро толькі Штыкоўскаму ды Качарзе.

— Твая праўда, казак. Ці хочаш Бахусу звярнуць шыю ў глінскай глушэчы?

— Ведаеш, з ім у мяне даўнія рахункі. Пакраў нягоднік, ліха яго матары, вясной у мяне парсючкоў, а сядзець ды глядзець на прайдзісвета прыкра. Таму я тут. І не адзін. Прадчуваў, што ў цябе, Іване, няшчасце здарылася. Нездарма ў Вілейку хадзіў. Раскажы мне, і я знайду нядобразычліўцаў там, дзе яны не чакаюць.

Янка коратка пераказаў гісторыю, дапоўніў аповед пра сустрэчу з Панцялеем. Па меры таго, як Архіп азнаёміўся з суседавай бядой, казацкі старшына зразумеў, што ніякага спачування панам і аканомам не прадбачыцца. А дапамагчы Янку не адмовіўся. Таму Архіп суцешыў сябра:

— Зараз вяртайся дадому, супакой жонку і дзетак, да мяне прыйдзеш заўтра з раніцы. Спадзяюся, што да нас далучыцца айцец Ігнацій і шмат мужных хлопцаў, якім надта надакучыла цярпець выбрыкі пана і яго хеўры.

У той самы час, калі Янка з Архіпам абмяркоўвалі ў лесе беды, з якімі сустрэліся, у Вілейцы, каля ўваходу ў царкву ўсіх Пакутнікаў, Панцялей убачыў свайго сябра, скрыпача Лявона Дзежку. Нямала здзівіліся маладыя людзі, настаўнік і музыкант, такому непрадбачнаму выпадку. Пажартаваць любіў Лявон, таму пацікавіўся ў Панцялея:

— Няўжо грахі адмольваць з’явіўся, святы чалавек?

— А як жа жыць, калі грахоў поўная фурманка? — пытаннем на пытанне адказаў хлопец.

Адвёўшы Панцялея на дарогу, скрыпач пачаў гаварыць упаўголаса тое, што яго турбавала:

— Учора вечарам завітаў у мой дом пан Штыкоўскі з аховай, загадаў, каб праз дзён пяць граў на ад-

ным вяселлі ў замку. Калі ж сумленне пачало ўзнікаць, то гэты лайдак паабяцаў выбіраць паміж тытулам прыдворнага музыкі альбо смерцю на палі. Жонка адразу ў слёзы, і я згадзіўся дзеля яе жыцця, хоць служыць ахламону няма ахвоты. Паміраць можна з музыкай. Праўда, не ўцямлю, навошта мне панскі хамут, калі без яго жыў добра: граў на скрыпцы ў мястэчках і вёсках, спяваў у царкоўным хоры, таму захацелася параіцца з табой наконт сумнай будучыні.

— Перад тым, як забаўляць пана, наладжвай скрыпачку на лясныя гукі птушак, карысна стане... Лявон, без цябе нашы задумы не здзейсняцца.

— Ясна, Панцялей. Толькі якую ролю наканавана сыграць мне?

— Раскажу пры сустрэчы ў мясцінах побач з Глінным.

— Зразумеў... Не след шпегам Качаргі працу даваць.

Праз некаторы час сябры апынуліся на кірмашы, а потым разышліся хто куды...

Прадчуваў Штыкоўскі, што ўласнае глупства дорага каштуе, ды бед новых пазбавіцца наўрад ці лёгка. Хваляваўцца была прычына: накіруе ён сваіх лёкаяў за падаткамі ў Гліннае і суседнія Калачы, ды ягоныя паплечнікі вяртаюцца ў замак ледзь жывыя... без зброі й коней. На роспыты пана адказваюць тое самае: паехалі з горада па гасцінцу, збочылі на лясную сцежку, а што было далей, не памятаюць. Нехта невядомы скідваў іх з коней. Пакуль гора-ваякі ачуняюць, азірнуцца навокал, а іх шаблі й кінжалы, пікі й стрэльбы быццам вяпрук з'еў...

Такія навіны не радавалі Рамуальда. Як жа — яго смелая армія наймітаў церпіць паразы ў сутычках, зусім

не падобныя на ваенныя бітвы. Неаднойчы ён чухаў патыліцу, разважаючы, з кім у апошні час пасварыўся ці каго ў нечым пакрыўдзіў. Вясёлага мала: калі так і далей пойдзе, то прыйдзецца новае войска набіраць. Ахвотнікаў ісці да яго на службу, што горкай рэдзькай пачаставацца.

Згубіў пан спакой, сон. Хвалюецца, лае лёс апошнімі словамі. Памылкі за імгненне не выправіш. Колькі тысяч дукатаў патрабуецца, каб паказаць свой ваярскі гонар перад славутымі магнатамі Рэчы Паспалітай. Ягоныя планы парушалі й парушаюць сяляне, змарнаваныя невыносным жыццём і цяжарам даніны. Штыкоўскі прытрымліваўся аднаго прынцыпу: палоннікаў з астрога не выпускаць, вяселле згуляе ў любым выпадку.

Ды не след заракацца раней часу фанабэрыстаму пану, бо каб сканаць не прыйшлося ад людской злосці-нянавісці.

...Цямнела. Набліжаўся вечар. На палянцы, атуленай з усіх бакоў хвоямі, чырвонымі языкамі гаманіла вогнішча. Тут сабраліся Панцялей, Пятрусь, Архіп. Праз колькі хвілін прыехалі Дзежка, айцец Ігнацій, Кандрацюк...

Перад прысутнымі з палымянай прамовай пачаў рэй настаўнік:

— Мае верныя сябры, нас аб'яднала агульная для ўсіх і кожнага паасобку бяда: пан Штыкоўскі, першы ў акрузе рабаўнік, гвалтам забраў у замак Настулю, дачку Янкі. Хачу пачуць парады ад вас, браткі-казакі. Ці згодзімся з вяселлем Рамуальда, ці пакажам, чым вартыя вілейскія, глінскія і калачоўскія мужыкі?

Пасля слоў Панцялея на нейкую хвілю ўсталявалася цішыня. Барацьбіты абдумвалі, як трапна выказаць уласны гнеў.

— Паганцам-нехрысцям — невылечная хвароба

і агонь у шыкоўныя харомы, а не глінскіх дзяўчат! — з насмешкай прагучаў голас Янкі.

— Лепш загінуць, чым прызнаць гулянку прайдзісвета! — пагрозліва выказаўся Архіп.

— Царква не дасць згоду, інакш святар згубіць прыхаджан і вернікаў, а Боская кара дакранецца да ўсіх, хто спрычыніўся да ўхвалення граху, — сказаў сваё слова айцец Ігнацій.

— Узяць у Д'яблавай Рукі грошыкі... і Насцю, калі завітаем у госцікі! — з посміхам скаламбурыў Лявон.

— Паколькі я са старэйшым сынам Архіпа і музыкам Лявонам будзем у замку па запрашэнні, дык нам няма чаго хавацца... — І далей айцец Ігнацій гаварыў, што ад аблогі карысці столькі, колькі ад казла малака.— Самі згадаецеся: высокія муры ўяўляюць крэпасць каменнай гарой, таму згуляем з Рамуальдам у хованкі. Атаманы, знаходзьце пазіцыі —і ні гуку ў вёсцы, ні ў ваколіцах...

І тут падняўся з месца Архіп. У мужнай постаці казацкага старшыны паўстанцы прыкмецілі чалавека надзейнага, сціплага, вопытнага камандзіра і выбітнага стралка з усіх відаў тагачаснай зброі. Яго прамова, рашучая і павольная, натхніла людзей гонару на смелыя ўчынкі, што адгукнуцца градам цяжкасцяў для навакольных багацеяў:

— Нашы паплечнікі, жартуючы са Штыкоўскім, на свяце вызваляюць Насцю, сялянскі атрад на чале з Янкам рушыць у крэпасць праз паўднёвую браму. Усе будуць у форме стражнікаў пана Кабыльскага. Як толькі будуць звязаны ваякі Бахуса Качаргі, трэба тут жа адчыніць мост з усходняй сцяны. Праз адкрыты ўваход казацкая сотня з Петрусём уступіць у бітву з харугвамі гасцей. Пасля штурму я з часткай480 вояў бярэм паўночны пад'езд, дзе найбольш умацаваная абарона. Выз-

валяем вязняў з панскага астрога, згуртоўваем сілы — казацкія, вясковыя, пад прыкрыццем руінаў збочым на прасторы свабоды. Паміж глінскім лесам і ўскрайкам Язэпавай багны ёсць сцяжынка, што вядзе ў такі гушчар, дзе схавацца могуць некалькі нашых аддзелаў... Туды ніякі чорт не сунецца. А ў ваколіцах Гліннага — мы гаспадары. Нас абяцалі падтрымаць мужыкі з Калачоў і асобныя вілейскія месцічы, якім надакучыў хамут Штыкоўскага і астатняга панства. Хлопцы, за справу!

— Бацька, які ўмоўны знак для наступу атрымае Янка?

— Матыў песенькі «Лятуць гусі з-пад Беларусі».

— Наладжвай скрыпачку, Лявоне, няхай рытм праўды саб'е з панталыку Рамуальда Штыкоўскага. Не заўсёды кату сырніца, а пану — новыя боты.

План паўстання засведчылі героі, дапоўніўшы дэталі варыянтамі на выпадак няўдач. Зразумела, усе шчырыя думкі запомнілі, не давяраючы паперы.

...Няма сумнення ў тым, што ў казематы няволі прыходзяць пісьмы ад людзей, якім асабліва давяраеш. Так здарылася з Насцяй Кандрацюк. Атрымаўшы ліст ад каханага, да яе вярнулася вера ў вызваленне з халоднай каморы, надзея на вяселле з Панцялеем, малатурботнае жыццё з любым, імкненні да выратавання ад нахабніка блакітных крывей. Дзяўчына марыла, каб пашанцавала бацьку ўбачыць непаўторны вясельны абрад, каб браты й сёстры змаглі патанчыць на свяце, каб маці не баялася за яе лёс. Што тычыцца зносін са Штыкоўскім, то Насця ўзненавідзела пана так, нібы бура вогненная ахапіла карабель пакутаў. Яна адчувала, што аднавяскоўцы пачастуюць ашуканца на банкеце, чамусьці названым вяселлем. Дзякуючы падтрымцы айца Ігнація і Бога, яна ведала, як паводзіць сябе на гульбе пана.

Усмешка натхнення заярчэла на тварыку чараўніцы, калі святар распавёў, што сярод гасцей будзе яе сябар, вілейскі настаўнік Панцялей Сымон. Насця тады шчыра сказала:

— Сонейку цесна за хмарамі.

### 4. На паляўнічага і звер бяжыць

Мінула колькі дзён пасля дамовы сялян і казакоў наконт справядлівага супраціўлення ў Вілейскай акрузе. Сёння адбудзецца шлюбнае свята Рамуальда Штыкоўскага і Настассі Кандрацюк.

Госці, якія час ад часу прыязджалі, размяшчаліся ва ўтульных пакоях, залах замка. Шмат варты прывезлі паны, баючыся казацкіх загонаў Міхненкі, Бутрыма, атрадаў шышоў і яшчэ невядома каго. Таму крэпасць Рамуальда ахоўвалася, нібы каралеўская рэзідэнцыя ў мірны час. У кожнай байніцы сядзелі лёкаі з мушкетамі, ля цытадэлі, дзе варушыліся артылерысты, прыцягнута і замацавана было сем марцір. З заходняй сцяны пагрозліва выглядвала зграя чорных гакаўніц, паказваючы сваю непрыступную веліч. Апрача існуючай ужо зброі недаверліва касіліся тры гарматы...

Памыляўся пан з памагатымі ды амаль і ўсе госці, што гульба працягнецца на тыдзень, што яго незлічонае багацце пераканае дзяўчыну хутчэй спяшацца замуж, што вяселле праграміць на ўсю Рэч Паспалітую. Нягледзячы на поўную таямніцу і не меншую асцярогу, Рамуальд не думаў, што яму нехта перасячэ сцяжынку. Штыкоўскаму здавалася: Насця належыць толькі яму, а для канкурэнтаў дастаткова свінцовага падарунка ці вострага палаша.

Няхай пан ледзь разбіраў лаціну, не складаў лістоў, аднак зброю выкарыстоўваў у зручны час. У магнацкім

свеце Штыкоўскі праславіў сваё прозвішча дуэлямі, сваркамі, звадамі, бойкамі, што ўзнікалі без патрэбных на тое прычын. Нашчадкі соцень знявечаных, закатаваных, забітых верылі, што спланаваныя і рашучыя дзеянні адвучаць Д'яблаву Руку ад благіх учынкаў. Аднак мы не будзем забягаць наперад наступным падзеям.

У зале, аздобленай сямейнымі гербамі, партрэтамі Штыкоўскіх, зброяй, сабраліся госці, запрошаныя гаспадаром. Панскія служкі дапамагалі ім заняць адпаведныя месцы за сталамі. Ля камінаў мітусіліся лёкаі, падкідваючы сухое галлё ў агонь, каб ніхто, крый Божа, не захварэў і не змёрз.

У кутку, каля партрэтнай галерэі пана, гучаў аркестр, які Рамуальд выпісаў ажно з Лівоніі, палічыўшы за небяспеку наймаць мясцовых майстроў ліры. Каб не ганарыцца багаццем, ён хацеў паслухаць мелодыі Лявона Дзежкі, якому імкнуўся даверыць тытул прыдворнага музыкі, калі апошні ўдала выканае жаданні маладых на вяселлі.

Трэба сказаць, што Лявон, старэйшы сябар Панцялея, зведаў у жыцці й добрага, і кепскага. Ужо з дзесяці гадоў Дзежка граў на скрыпачцы так, што яму не было роўных у акрузе. У дванаццаць трапіў пад гарачую руку пана Кабыльскага, ад якога праз год паспяхова ўцёк. Потым — вучоба ў Кракаўскай кансерваторыі, дзе Лявон хаваў сялянскае паходжанне, каб назапасіць грунтоўныя веды па музыцы — царыцы прыгожага мастацтва. Вярнуўся ў родныя мясціны, пайшоў гітарыстам у тэатр шляхціца Залятовіча, гаспадар якога не адрозніваўся ні літасцю, ні кемлівасцю. У 1657 годзе ажаніўся з дачкой цесляра Марыляй Гойшак, перабраўся ў Вілейку, там яго прыняў у царкоўны хор айцец Ігнацій. За дваццаць сем гадоў віхурнага жыцця Лявону ўпершыню ўсміхнулася прафесійнае шчасце.

Загадаў Рамуальд, каб Насці прывезлі шыкоўны шлюбны строй з Варшавы, ад мясцовых майстроў. Дзяўчына ў белай сукенцы прыгадвала прынцэсу, што выходзіць замуж не па сваёй добрай волі й згодзе.

Па правы бок ад Штыкоўскага і Насці сядзелі магнаты, шляхціцы, паны ды іншыя знакамітасці з багатых, а па левы — святар, настаўнік і музыкант, вышэйшыя чыны войска магнатэрыі й панства. Настаў момант, які вырашыць далейшы лёс герояў.

Д'яблава Рука запрасіў да сябе айца Ігнація, прашаптаўшы:

— Пачынай вянчанне!

Падыходзячы да іконы з выявай Марыі-Магдалены, святар паклікаў Настассю. Яго ўпэўнены голас чуўся ў далёкіх кутках залы:

— Сёння Бог з'яднае маладых, якія абралі цярністы вянок сумеснага жыцця на доўгія і шчаслівыя гады. Хрыстос звяртаецца да Вас, ці гатовы прызнаць адно аднаго і абмяняцца шлюбнымі пярсцёнкамі, каб зрабіць дзень вяселля неўміручым святам новай сям'і?

Штыкоўскі, выконваючы абрад, удумліва прамовіў:

— Так, айцец Ігнацій, стаміўся ад бясконцай адзіноты, а жыццё — палёт матылька.

Святар спакойна працягваў:

— Ад шчырага сэрца бярэш у жонкі рабу Боскую Настассю або з распусты?

Мроілася Рамуальду Штыкоўскаму, што святу канец. Ён з дрыжыкамі на сэрцы супраціўляўся царкве і патрыярхальным звычаям, кідаючы стрэлы атручаныя на нябачных ворагаў, думна прыгаворваючы:

«Святоша! Чорт у сутане з залатым крыжом на грудзях. Вось хто мне перашкаджае. Адгуляю вяселле, за цябе вазьмуся, вядзьмак!»

І на яве, і ў марах пан шукаў прычыну, магчыма,

не адну, каб весці гутарку з айцом Ігнаціем на шпагах ці пісталетах. Як жа ўтаймаваць чалавека, у якога багаты прыход на Вілейшчыне, які рупіцца пра жабракоў, нямоглых і бедакоў, забяспечваючы іх зернем і насеннем ва няўродлівыя гады. Самаўпэўненасці Штыкоўскі надаваў моц, каб запалохаць словам ці дзеяннем слабейшых за яго. Да больш уплывовых асобаў чапляцца ён не жадаў: гузакі на роўным месцы атрымаць лёгка, потым ад сораму нікуды не збяжыш.

Айцец Ігнацій павярнуўся да красуні й спытаў:

— Ці гатова раба Боская Настасся прызнаць навекі мужам раба Боскага Рамуальда?

Дзяўчына, на нейкае імгненне сустрэўшыся позіркам з Панцялеем, прашчабятала:

— Пры ўмове, якую пан Штыкоўскі павінен прыняць, калі ён разумны чалавек.

«Што ж скажа мілая сяброўка?» —захваляваўся малады настаўнік.

Заінтрыгаваў паноў, магнатаў і самога ўладара замка рэзкі, кручыністы паварот на вяселлі. Дзе ж такое было, каб абранніца капрызнічала ў такі адказны момант? Прыгадаем: Настассі выпала роля адцягнуць пільнасць і ўвагу Штыкоўскага, каб той не змог выклікаць бяду ў апошнія хвіліны. Прадбачлівасць паражэнняў не прыносіць.

Не марыў пан пра паласу непрыемнасцяў у час расставання з адзіноцтвам. Быццам праглядзеў вынікі на сто вёрстаў наперад, але прыпыніўся яго спрыт на хвалістай дарозе кахання. Цярпі, Д'яблава Рука, выкрутасы Насці, каб табе ліха ў чуб уплялося!

— Мая нявеста, рабі ўсё, што пажадаеш! — згадзіўся Рамуальд.

Дзяўчына ў дзівосным росквіце маладосці, непаўторна прыгожая станам, лёгка махнуўшы ручкай, анёльскім галаском шчыра праспявала:

— Зайграй, Лявоне, роднай зямлі продкаў сумленных песеньку, каб пачулі лясы, рачулкі вясёлыя, азёры ласкавыя, гаспадары пушчаў і дубраў, гаёў і бароў!

З неверагоднай дабрынёй палілася таемна-пяшчотная музыка жалейкі, вабячы радасцю жыцця навакольле, асалодай велічы — прыроду, неўміручыя надзеі на лепшае. Гукі, нібы струны ўпэўненасці, захаплялі сэрцы багацеяў і беднякоў, графаў і князёў.

Рамуальд стаміўся ад яскравых гукаў вясельнай песні, чакаючы канца варажбы Насцёны. Цяпер пахвалёны жаніх дапяў, што разам з войскам і зброяй не да перамогаў ні ў асабістым жыцці, ні на ратным полі.

Прысеўшы на лаву, стаў шукаць выйсця з забаўнага становішча: жаніцьбу задумаў ён; колькі хвілін — і ўжо муж Насці Кандрацюк, толькі здарыцца інакш, калі дзяўчына раптам назаве больш надзейнага — Панцялея ці Петруся, чым лясун не жартуе. Мабыць, Д'яблаву Руку заблыталі ў трох елках, каб не будаваў шкляныя замкі наконт вяселля, калі захочацца выбрыкі ў сілу пусціць, а шляхі адрэзаны.

Нібы гром у сонечны дзень, загрымела напружана гармата, спакой замкавых сцен абудзіла страляніна.

Рамуальд Штыкоўскі не ўцяміў адразу, чаму каменне з нябёсаў сыплецца. Але свядомасць хутка вярнулася, калі святар упаўголаса гаварыў пра небяспеку. Ён заўважыў: прапусціш хвіліну — не вернеш гадзіну, знікне з туманам шчасце маладых, таму спакойна прачытаў малітву:

— Дачка мая, няхай Бог дапаможа выбраць табе пачэснага мужа, каб любы абараніў каханне ад ганьбы, сораму і разлук.

Вясковая багіня пасля слоў святара вырашыла дзейнічаць хутка, каб Штыкоўскаму мала не здалося. Яна паклікала Панцялея і вымавіла:

— Вось мой каханы!.. Цяпер айцец Ігнацій асвеціць наша вяселле, якое згуляем у Глінным.

Пан закрычаў у роспачы:

— Здрада! Мяне смяротна пакрыўдзілі. Я выклікаю Панцялея на двубой, даказаць праўду пра нявесту рыцарскімі ўчынкамі.

Айцец Ігнацій заступіўся за настаўніка:

— Панцялей абраў у жонкі Настассю, маладыя кахаюць адно аднаго, то Хрыстос прызнае новую сям'ю. Калі хлопца разлучаць з дзяўчынай, то замак разбяруць да апошняга каменя, апошняй цагліны.

Штыкоўскі ў адчаі загадаў Качарзе прынесці палаш, каб забіць маладога чалавека, якога ўяўляў большым ашуканцам, чым сам. Ён збянтэжыўся, пачуўшы навіну пана Кабыльскага:

— Халопы занялі замак, мілы гаспадар. Апошняя вежа ледзь трывае, але з часам вывесіць белы сцяг!

— Няўжо? Дзе вартаўнікі?!. Куды падзеліся артылерысты?!. — голасам, падобным на скрып калодзежнага жураўля, праскуголіў пан.

З палашом панёсся ён на айца Ігнація. Хоць святар рахманы чалавек, аднак фехтавання законы засвоіў не горш за Боскія. Не адступіў ён з кінжалам у руцэ, адначасова змагаючыся з двума лёкаямі. Абараняў яго Лявон, які, паклаўшы ля іконы скрыпачку, так «зайграў» лязом алебарды, што стражнікі кінуліся наўцёкі.

Сустрэліся і госці з бояззю. Таму знакамітыя багацеі шпарка рабілі лататы, каб захаваць жыццё, зусім не імкнучыся навекі застацца на панскім вяселлі, якое варта параўнаць з вядзьмарскімі атрутамі.

Панцялей з Насцяй паказалі, як здольны дзеці сялян абараніць волю, калі навала лютасці цмокам прыпаўзае на землі жыхароў Рэчы Паспалітай. Ляцелі та-

леркі з ежай на графаў, князёў, не раз піка юнака пужала ваяк Бахуса Качаргі, якія, не вытрымліваючы атак, адыходзілі далей ад грахоў.

На галерэях, лесвіцах, каля ўваходаў на паверхі, працягвалася змаганне. Часам праціўнікі спынялі страляніну і пераходзілі ўрукапашную. Тады звінелі лёзы шабель, палашоў, кінжалаў, мячэй — усяго, што завастрылі кавалі перад боем. Ды пацярпела надта мала казакоў, навучаных горкім вопытам бітваў у ракавыя 1648-1651 гады, чым хаўруснікаў Штыкоўскага. Услед за фартэцыяй пана мужыкі пусцілі чырвонага пеўня ў шэрагу палацаў суседніх заможных рабаўнікоў.

Вечарам 4 верасня 1659 года малады настаўнік і яго сяброўка пад вартай больш за паўсотні стрэльбаў Петруся прыехалі ў Гліннае. Для іх пачыналася новае жыццё.

Праз колькі дзён над руінамі былога замка ганарыстага пана, нашчадка багатай шляхты, залунаў белчырвона-белы сцяг, а на фасадзе была прымацавана «Пагоня», з якой хадзілі на бітву яшчэ ў часы Грунвальда.

## 5. Эпілог

**Н**аступіў 1660 год. Вілейшчына загойвала раны леташніх хваляванняў. Мужыкі ўцякалі ад пакутаў на Хорціцу, у запарожскія стэпы. Тых, хто застаўся ў родных мясцінах, чакалі астрогі й вязніцы, рэкрутчына і жорсткія падаткі.

Напрыканцы аповесці хочацца згадаць пра далейшы лёс нашых герояў.

Бахус Качарга загінуў падчас баталіі ў замку Штыкоўскага.

Цяжка паранены Янка Кандрацюк неўзабаве па-

мёр і быў пахаваны на мясцовым кладзішчы..

Архіп Сымон даслужыўся да атамана, пасля чаго вярнуўся ў вёску, дзе пабраўся з маці Настассі, замяніўшы бацьку сям'і Кандрацюкоў.

Лявон Дзежка, жывучы ў Вілейцы, стаў вядомым лірнікам, набыў славу музыкі й спевака царкоўнага хора.

Айцец Ігнацій, заступнік беднякоў, пасля ранення ачуняў, застаўся ў горадзе і па-ранейшаму дапамагаў беднякам і цёплым словам, і матэрыяльна. Пасля яго смерці ў гонар мужнага чалавека жыхары Гліннага пабудавалі капліцу, назваўшы яе Ігнацьеўскай.

Пятрусь, пазбегнуўшы пакарання за мужыцкі бунт, паспяхова ўцёк да сваякоў-рамеснікаў у Нясвіж.

Пан Рамуальд Штыкоўскі яшчэ з паўгода цягнуў з сялянаў чынш, пакуль яго не забіў на дуэлі пан Кабыльскі: не падзялілі выйграныя грошы ў Свірскай карчме.

Настасся Кандрацюк выйшла замуж за Панцялея Сымона, і яны пражылі да сівых валасоў разам. Муж, атрымаўшы ступень прафесара вольных навук, чытаў лекцыі ў Віленскім калегіюме па старажытна-беларускай мове, лаціне і літаратуры антычных часоў.

Усё добра, што мае лагодны канец.

АПОВЕДЫ,

НАВЕЛЫ,

ЗАМАЛЁЎКІ,

ІМПРЭСІІ,

ЛЕГЕНДЫ,

КАЗКІ...

# МІНЁР

Мікіта Лапаць з пяшчотных гадоў дзяцінства імкнуўся здзяйсняць гераічныя подзвігі, каб у будучыні яго-нае прозвішча заззяла залатымі літарамі ў гісторыі. Сваю трыўмфатарскую ідэю Мікіта выношваў доўга, сур'ёзна, не жадаючы памылак у дробязях. Ідэалам Лапця з'яўляўся ці Шварцнегер, ці Брус Лі, ці іншыя вядомыя акцёры з Галівуда, якія перамагаюць прайдзісветаў у вестэрнах і баявіках.

Ужо пройдзены шлях выхаванца дзіцячага садка, за плячыма чатыры класы пачатковай школы, аднак далей наш герой сустрэўся з перашкодамі ў вучобе. Атруціла розум Мікіты лянота — не меў жадання штодзень рыхтавацца да заняткаў, хацелася вылучыцца арыгінальнымі ўчынкамі сярод аднакласнікаў і сцвердзіць асабістае задавальненне. Акрамя таго, запазычанасцяў па прадметах ён назбіраў столькі, што хапіла б на дзесятак абібокаў.

А заўтра зноў цяжкі дзень: па матэматыцы — кантрольная работа, па геаграфіі — самастойная, па рускай мове — дыктант... Няма радасці ад цяжару, калі вынікі не суцяшаюць.

Мікіту Лапцю прагульваць урокі, быццам сабак па акрузе ганяць: шанец на поспех забяспечаны. Аднагодкі яго руплівa даводзілі да ладу пісьмовыя працы, калі ў міліцыі раздаўся тэлефонны званок:

— Школа па вуліцы Лясной у сталіцы замініравана. Адпусціце школьнікаў на летнія канікулы!

Нямала здзівіліся гарадскія пінкертоны ад пачутай небяспечнай навіны.

Праз дзесяць хвілін вартаўнікі парадку прыехалі на месца здарэння разам з сапёрамі, пажарнымі й дактарамі. Настаўнікі, завучы, дырэктар адчувалі сябе больш-менш спакойна: колькі разоў прэстыжную ўстанову хацелі гультаі або спаліць, або ператварыць у руіны сярэдневечных замкаў...

Усе чакалі выбуху ў будынку школы. Лік перайшоў на хвіліны, секунды.

На шчасце, жахлівага з'явішча не адбылося.

Чарговы «жарт» бокам вылез для хлопца: сям'я Лапцяў заплаціла шмат грошай за свавольствы сына. Бацька паабяцаў дастаць са сцяны папружку, калі зноў паўтарыцца якая-небудзь трасца.

Пасля гэтага выпадку за Мікітам трывала зачапілася мянушка Мінёр.

## ЮЛЯ

**Ц**ёплы красавіцкі вечар прыгажосці, які не закрэсліць у свядомасці радасці сяброўства і таемнасці ласкавых агеньчыкаў-пачуццяў, што ўзыходзяць на небе шчырасці незгасальнымі зоркамі імгненняў. Шчасцем жыцця мільгацяць нашыя душы.

Чароўнае спатканне натхнення, дзе за гадзіны еднасці плывуць праменьчыкамі цішыні й спакою вернасці абдымкі, пяшчотныя прызнанні, хараства непаўторныя пацалункі. Гляджу на цябе, шчабятуння Юля, — і чую прывабную мелодыю чысціні, бачу блакітныя вочы сумлення, дакранаюся да сонечных локанаў, да гнуткага маладога стану, бяру твае рукі ў свае, дзе вусны спяваюць у такт спачувальнасці, збліжаючы рамантычны вечар з мілагучнай ноччу, дзе таньчыць Анёл любові, непадуладны Часу.

Дзесьці смяюцца званы неўміручасці, абвяшчаюць

жвавасць целарухаў, бадзёрасць і прыліў сіл узаемнасці, што прылятаюць, не пакідаючы лагоднага настрою на ложы варажбы. Толькі здзяйсненне нястомных мрояў адбываецца не ў казачным і фантастычным сне, а на яве.

## «ПОДЗВІГІ» ПРАВІНЦЫЙНАГА СУДДЗІ

Астап Кручок любіў хваліцца перад сябрамі, што ведае звыш сотні спосабаў, як дамагчыся поспехаў у дзяўчат і жанчын. У маладосці Астапа паважалі за характар Дона Жуана, за знешнасць Санча Панса ды за нораў Атэла. Заляцанні Кручка сталі прымаўкамі ў ваколіцах Заслаўя. Здавалася, не было сярод жыхароў мястэчка чалавека, які не апісаў бы рамантычнымі фарбамі подзвігі нашага героя.

Астап служыў памочнікам суддзі, таму юрыспрудэнцыю выдатна засвоіў, асабліва ў галіне сямейнага, гаспадарчага і адміністрацыйнага права. З дадзеным багажом ведаў заўсёды з кепскага становішча выйсце знойдзеш. Нягледзячы на сціплую пасаду, Кручок займаўся незвычайнымі справамі: з замілаваннем злучаў сэрцы маладых на вяселлях, з'яўляўся міравым пасрэднікам каханкаў, ганяў па акрузе няверных супругаў, браў пад абарону створаныя пры яго непасрэднай дапамозе сем'і...

Адным словам, дзейнасць Астапа прыносіла дабрабыт і карысць гараджанам. Часам яго сустракалі няўдачы, калі нечакана вешалі яму «ліхтары» пад вачыма няўдзячныя прыхільнікі, або калі не хапала сродкаў аплаціць паслугі Дыяніса.

Адсвяткаваўшы дваццаць сёмую вясну, Астап Кручок узяўся за розум — паклікаў у паплечнікі Гіменея, і

неўзабаве пабраўся з пекнай Ірынай Альхоўскай. Трапіўшы пад жончын абцас, юны правазнаўца пра выпіўкі й шумныя пагулянкі не ўспамінаў. Прадпрымальнасці Астапа зайздросцілі суседзі: выйграўшы запар некалькі гаспадарчых спрэчак, ён атрымаў неблагі ганарар. Тут жа набыў дом, гектар зямлі ды мінітрактар у дадатак. Жартуючы з калегамі, Кручок і занадта ўжо ганарыўся:

— На бюджэт спадзявайся, але ў абставінах не губляйся.

Ірына не засталася ў даўгу перад мужам — нарадзіла яму дзвюх дачок.

Паціху наладжвалася сямейнае шчасце Кручкоў. У іхнім доме заўсёды панавалі згода, узаемадапамога, шчырасць і вясёлы настрой.

Ірына з Астапам гадавалі дзетак. Ідылія бестурботнай радасці працягвалася два з паловай дзесяцігоддзі — да таго часу, калі ўзнікла неабходнасць рыхтаваць дзяўчатам, Вользе і Таццяне, пасаг да вяселляў.

Жонка Астапа — мудрая жанчына. Яна прапанавала ўдаламу супругу адзначыць на Каляды шлюбныя святы дачок. Ледзь да нябёсаў не дацягнуўся Кручок, пачуўшы пра такія жончыны замашкі:

— Мы ў трубу вылецім з выдаткамі. Закончацца каталіцкія Каляды, пачнуцца праваслаўныя, паміж імі — Новы год. Праз два тыдні Стары год правесці трэба. Пітва гасцям не хопіць.

Ірына здзівілася з Астапавай упартасці. Мусіла адпрэчыць прагматычныя меркаванні мужа:

— Выбірай, шаноўны пан Кручок, альбо мяне з дочкамі, альбо мех з гарэлкай і грашыма.

Ад сораму пачырванеў правінцыйны суддзя. Пачні ваяваць са сваякамі, абавязкова ў пляткарскія жорны трапіш. Учапіўся, аднак, у бойку з Ірынай, ды самога

аплявухай узнагародзілі. Вольга і Таццяна, сёстры-аднагодкі, паглядзелі на бацьку, абурыліся:

— Маці не крыўдзі, з нашымі клопатамі без канфліктаў разбярыся.

Хваляванні Астапа Кручка сягнулі за магчымыя межы. Трываў ён пяць дзён, а на шосты пра супярэчнасці не ўзгадваў нават: навошта дзецям далейшы лёс псаваць. З Ірынай зноў памірыўся, злітавацца прасіў. Усміхнулася жонка лагодна:

— Старэеш пакрысе, знікае былая слава залётніка.

Пасля гэтага Астапа Кручка быццам падмянілі: цішэй за ваду, ніжэй за траву стаў. Але зусім іншымі аказаліся яго адносіны да асоб прыгожых: кабет стаў прымаць за намесніц нячыстай сілы, а жончыны папрокі ўспрымае як падарожжа ў пекла.

А вы як лічыце?

## КАЛІ СНЫ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЦА...

Багдан Цугля бачыў кепскія сны ў ноч з чацвярга на пятніцу: яму здавалася, быццам у пад'езд заскочылі тры амбалы ў масках з пісталетамі, адмычкамі адкрылі паштовую скрыню, узялі «Аргументы», «Камсамолку» ды «Прэсбол» і спакойна ўцяклі ў невядомым накірунку. Наш герой спрабаваў дагнаць гэтых злыдняў, але куды там: аматараў пачытаць на халяву набярэцца столькі, хоць у кожны пад'езд выстаўляй узброеных вартаўнікоў. Багданава жонка бачыла пакуты мужа, хвалявалася: «Няўжо ў яго зноў непрыемнасці на працы?.. Цікава, каму закарцела перабегчы яму дарогу. Багдан такі спакойны й спагадлівы!»

Зранку ў пятніцу Багдан Цугля пачаў збірацца на працу: апрануў шэрую кашулю, плямісты бушлат з на-

лепкаю «Гарэнэрга», такога ж колеру штаны, узяў чамадан з электратэхнічным начыненем і пашыбаваў на прадпрыемства. Ён спадзяваўся, што перад выходнымі заявак па рамонце праводкі будзе дастаткова, каб забыцца пра жахлівы сон ды прыдбаць падарункі для жонкі — жанчыны ж так любяць прымаць разнастайныя прэзенты. Праўда, Багдан папярэдзіў Марылю, каб сённяшнюю пошту сама ўзяла са скрыні.

Аднак хада падзеяў аказалася зусім іншай, чым прадбачыла сям'я Цугляў: недзе а чатырнаццатай гадзіне ў дзяжурцы раздаўся тэлефонны званок — Марыля ў слязах паведамляла, што іхнюю прэсу нехта скраў, і пыталася рады, як болей не сустракацца з такой бядой. Багдан параіў жонцы правесці вышук, і тады, можа, якраз і трапяць на след рабаўнікоў.

Марыля за дзесяць хвілін паставіла на ногі бліжэйшае аддзяленне сувязі ў прамым сэнсе слова. Асабліва дасталася аддзелу дастаўкі: такой квяцістай лаянкі ў свой адрас паштальёны рэдка калі маглі пачуць. І ўсё ж работнікі пошты супакоілі Багданаву жонку, паабяцаўшы, што патрэбныя выданні яны знойдуць на наступны ж дзень, але заадно і параілі, што трэба неадкладна ставіць трывалыя дзверцы й надзейныя замкі.

Вечарам да Багдана завітаў яго сусед — былы аднакласнік Васіль Шпацыраў, студэнт каледжа сувязі й па сумяшчальніцтве паштальён. Марыля ўжо збіралася падрапаць твар Васілю, аднак Багдан не дазволіў псаваць настрой свайму сябру. Мужчыны вырашылі падрыхтавацца да знаёмства з няпрошанымі гасцямі, якія маюць сур'ёзныя намеры да выданняў у паштовых скрынях. У зале за сталом яны расклалі чарцяжы, прынеслі чамаданы з інструментам і пачалі тварыць.

Марыля час ад часу паспявала прыносіць гарбату ў шклянках ды печыва. Мінулі дзве гадзіны напру-

жанай працы, у выніку чаго Багдан і Васіль змайстравалі браніраваныя дзверцы з петлямі, у замок прымацавалі надзейную засаўку, якую ломам не вырвеш. Не выклікала праблем і сігналізацыя: у калідорчыку кватэры прыладзілі тры лямпачкі, што загараліся на дотык, удар ці спробу ўзлому скрыні. Злодзеяў на закусь чакалі моцны электрычны штуршок і галас сірэны, падобнай на брэх тузіна сабак. Ад нечаканага падарунку з боку мужа і сябра сям'і Цугляў Марылю напаткаў вясёлы настрой, чароўная ўсмешка заззяла зоркамі на яе твары.

На развітанне Васіль пажадаў Багдану і Марылі тэлефанаваць на пошту ці яму асабіста, калі гэтая сістэма спрацуе, каб паглядзець на вынікі. Можа, удасца іх прыстасаванне паставіць у серыйную вытворчасць.

Птушкай праляцеў тыдзень, на гарызонце і па календары зноў пятніца. Вядома, «старыя знаёмыя» не пакінулі па-за ўвагаю скрыню Цугляў, але такога супраціўлення ўласным дзеянням не чакалі, пасля чаго і апынуліся ў будынку, дзе неба ў клетку, а сябрукі ў палосачку. Шкадуюць, што так усё здарылася, і наракаюць на тое, што ў нецвярозым стане былі.

Узрадаваны Багдан натхнёна прашаптаў:

— Калі сны здзясняюцца, трэба не сядзець склаўшы рукі, а знаходзіць выйсце!

Шаноўныя падпісчыкі са шматпавярхоўных дамоў! У кожным пад'ездзе сярод вас ёсць Кулібіны XXI стагоддзя.

## ХАБАРУК І К.

Ігнату Хабаруку ўсміхнулася ўдача: за дзесяць гадоў працы нарэшце ўдалося з пастаўвога міліцыянта пераскочыць у крэсла начальніка па рэгістрацыі транспарту

горада С. Да службы ў міліцыі Ігнат ахоўваў кірмаш ад злодзеяў, адказваў за спакой бізнесменаў. Зразумела, на ранейшых пасадах з грашыма непрыемнасці адбываліся: то заробак не ўбачыш, то фірмы банкрутамі апынуцца. Улічваючы мінулы вопыт, з радасцю прынялі Хабарука спачатку рэгуліроўшчыкам у цэнтры мястэчка, потым стаў лавіць ліхачоў на шашы і прасёлках.

З ахвотай прыняўся за новую справу руплівы Ігнат. Чаму б і не выконваць свае абавязкі, калі заробак штомесяц усё больш і больш. Хабарук дарма часу не марнаваў — прыдбаў новы дом, не забыў прыгнаць сабе «Вольву» са Швецыі. Вы спытаеце, а за якія сродкі такое багацце магчыма? Трэба ведаць матэматычнае множанне і быць крыху прайдохай. Заможнасць прыносіць належныя вынікі. Яшчэ новаспечанаму прадстаўніку закона чарговае павышэнне настрой узняло.

Зусім пра іншае думаў Пятрусь Селівончык, майстар-будаўнік, папулярнасць якога відавочна па адрамантаваных гаражах і дахах, новых дамах, даведзеных да ладу яго ўмелымі рукамі. Павандраваў Пятрусь па Беларусі, Украіне, Венгрыі ды Польшчы, сваім мазалём забяспечваючы сямейны дабрабыт. Зарабіўшы пэўную колькасць «зялёных», з'ездзіў у Літву, адкуль вярнуўся на серабрыстай «Аўдзі». Нарэшце, ягоная мара здзейснілася: легкавіку заўсёды знойдзецца месца ў гаспадарцы: да сваякоў у суседні раён злётаць, з кірмашу прадукты прывезці... Толькі на транзітных нумарах да першага патруля ці рэкеціра даедзеш, як пашанцуе. Не надта вясёлыя перспектывы. Узяўшы раду ў жонкі , хутка сабраўся Селівончык, і ўжо праз пятнаццаць хвілін прыпаркаваў аўтамабіль каля ганку гарадской ДАІ. Не адну гадзіну згубіў ён у чарзе, пакуль да начальніка на прыём трапіў.

Ігнат Хабарук яго ветліва па плячы ляпае:

— Прывітанне, дзядзька Пятро! Жалезным канём абзавёўся?

— Няўжо ж я горшы за іншых?

— Паперы з табою: даведкі з мытні, з літоўскай паліцыі, тэхпашпарт, правы? — насцярожана пытаецца бамбіза ў пагонах.

— Без дакументаў ні туды, ні сюды — усё, канешне, пры мне! — жартуе Пятрусь.

Пагрозліва паглядзеў на Селівончыка Хабарук. Сказаў — як адрэзаў:

— Шыбуй у аддзел экпертызы, на трэці паверх, потым — зноў да мяне!

Засумняваўся будаўнік у паводзінах Ігната, але спрачацца з ім не стаў. Пашыбаваў да экспертаў. Там пачуў нешта арыгінальнае:

— Кузаў знаходзіцца ў вышуку, а рухавік — ад другой мадэлі!

Яшчэ раз паглядзеў на экран камп'ютэра Пятрусь, суадносячы факты. Калі была б падазронай машына, дык не — няма аніякіх звестак. Аднак дызельны матор з карбюратарным паблыталі аматары чужых грошай.

Эксперт сцяміў, што канфлікт з майстрам не пажаданы, таямніча прашаптаў:

— Паміж намі ўсё добра. «Аўдзі» — нармалёвая машына. Дзяліся банкнотамі.

Пятрусь спакойна разлічыўся, развітаўся і папраставаў да Хабарука. Ігнат яшчэ адзін сюрпрыз падрыхтаваў уладару легкавіка, патрабуючы «зайчыкаў» за праверку таксічнасці. Стрымліваючы эмоцыі, Селівончык настойліва запытаў:

— Ці магчыма за адзін раз усе выдаткі аформіць, каб потым з праблемамі не сутыкацца?

Не менш здзівіў адказ Хабарука будаўніку:

— Калі б не існавала сістэмы, хадзіць табе пешшу. Тэхагляд пройдзеш праз месяц, а цяпер пакідай машыну ў гаражы ці на платнай стаянцы.

Дома распавядаў жонцы Пятро пра пакуты шафёрскія. Суцешыла яго Алена:

— Не хвалюйся, мілы, прададзім мяхоў пяць бульбы, і тады шчасце трапіць нам у рукі.

Паслухаў Алену дзядзька, гаспадарчыя справы на выдатна выканаў.

Мінуў месяц. Зноў звярнуўся да Хабарука Селівончык, але міліцыянт быў у камандзіроўцы па абмену вопытам, якім чынам браць грошы з аўтааматараў, незнаёмых з заканадаўствам. Напрыканцы наступнага месяца шпарка абмінуў тэхагляд за дзень, дзе падарункам служылі беларускія нумары. Скончыліся дзядзькавы прыгоды. І гойсае ён па дарогах Беларусі, не прыгадвае старыя нягоды.

Ігнат Хабарук пасля сустрэчы з Петрусём Селівончыкам пачаў загадваць рэгістрацыяй аўтатранспарту па вобласці.

Не дазваляйце Хабарукам, каб іх сквапнасць сыходзіла з нячыстых рук.

## ДЗЯДЗЬКАВА ВЫНАХОДЛІВАСЦЬ

**П**рацавітасці Мірона Каракулькі шчыра зайздросцілі аднавяскоўцы са Смалярні. Няма тут нічога дзіўнага: Мірон валодаў прафесіяй сантэхніка-газаўшчыка — карацей, быў майстрам з залатымі рукамі. Суседзі ведалі: пачне выкідваць конікі вадаправодны кран ці газавая пліта, прыпыніць нечакана імклівы бег часу гадзіннік ці зломіцца швацкая машына, трэба клікаць Каракуль-

ку на дапамогу. І ўжо ён заўсёды давядзе да ладу неабходныя ў гаспадарцы рэчы. І меў ён з гэтага трывалы заробак, праўдпа, яшчэ займаўся і вытворчасцю кошыкаў, якімі паспяхова гандляваў на кірмашы ў сваім райцэнтры.

Цяпер шмат гамоняць пра выраб кошыкаў, мяркуючы, што гэта занятак сівых дзядоў, а здаравякі-мужчыны пры жаданні могуць знайсці больш прыбытковую працу. Спрачацца з тымі, хто так думае, — тое ж самае, што гарохам прабіваць падмурак.

Аднак дзядзька Мірон сур'ёзна ставіўся да падобнай дзейнасці: хадзіў у лес, шукаў адпаведнай даўжыні лазу, з дубцоў рабіў кольцы для днішча і дугі для ручак, ахайна пераплятаў сценкі, у выніку чаго атрымліваўся неблагі кошык. Кладзі потым туды грыбы, ягады ці бульбу і радуйся жыццю.

Пра дужасць і кемлівасць Каракулькі людзі распавядалі легенды. Вітаючыся, Мірон пацісне каму-небудзь руку, і той ажно Варшаву ўбачыць; стануць вымагаць на рынку грошы розныя нягоднікі, сутыкне іх наш герой ілбамі так, што болей не прычэпяцца ўжо з незразумелымі патрабаваннямі. Паспрабуе хтосьці з багацеяў падмануць дзядзьку, ён так «пажартуе», што круцель доўга будзе без гарачай вады ў катэджы.

Мірон, добры й вясёлы, часта трапляў у забаўныя сітуацыі. Вось мне і хочацца расказаць адну з прыгодаў сваяка.

Здарылася гэта за некалькі дзён да свята дваццаціпяцігоддзя вяселля Мірона і Таццяны. Жонка, наводзячы ў хаце парадак, заўважыла, што парадны абутак мужа рамонту не падлягае. Якраз і Мірон вярнуўся з сенакосу. Таццяна — да яго:

— Мой даражэнькі, твае чаравікі кашы просяць, а лепш — замены!

— Заўтра паеду ў Валожын, у краме нешта знайду для сябе, — упэўнена адказаў гаспадар.

— Для пляменнікаў купіш цукерак — пачастунак прыемны.

— Як жа без прысмакаў! Без гарэлкі чалавек можа жыць, а вось ад салодкага ніякі ласун не адмовіцца.

...Ледзь дачакаўся дзядзька раніцы. З першымі летнімі промнямі папраставаў на аўтобусны прыпынак.

Пад'ехаў аўтобус — і праз якія сорак хвілінаў Мірон ужо ў горадзе. Не спяшаючыся, забрыў ён у краму. Якія на паліцах ляжалі чаравікі, пералічыць немагчыма: доўгія і кароткія, шырокія і вузкія, чорныя, карычневыя... Ад выбару вачам млосна стане, адно меў бы пакупнік грошы.

Нарэшце прыдбаў дзядзька сабе абутак. З яго новымі чаравікамі ў сваты запісвайся, калі б не сыны жанатыя. Успомніў Мірон, што час зараз ліхі: злодзеяў багата, а ўправы на іх няма. Абуўся ў набытыя чаравікі, старыя паклаў у пакунак ды цыдулку напісаў: «Прывітанне зламыснікам. Прыміце сціплы падарунак. Мірон».

На зваротным шляху задрамаў Каракулька ў аўтобусным фатэлі. Азірнуўся навокал: пакунак сцягнулі. Не надта хваляваўся, бо прадбачыў такую небяспеку.

Прыязджае Мірон дадому. Таццяна сустракае яго і цікавіцца:

— Дзе ты бадзяўся столькі часу? Я згубіла ўсялякую веру: каробка ад абутку пад плотам ляжыць, а ты туляешся недзе... Падумала, што абрабавалі бандыты на дарозе.

— Як бачыш, жывы. Пойдзем паглядзім, Таня, якую трасцу ў агародзе знайшла...

Праз нейкі момант бярэ дзядзька пакунак у рукі, адтуль дзіравыя шлёпанцы вывальваюцца ды аркуш паперы. Прачытаў ён наступнае:

«Лепей не трапляць табе пад гарачую руку! Старыя знаёмыя».

Здзівіўся Мірон, што так лёгка адвучыў злодзеяў чужое красці.

## ПАШАНЦАВАЛА

Дарафея Верціхвоста шмат папракалі служачыя за камбінацыі з лічбамі, папярэджваючы, што жарты бокам могуць вылезці: з утульнага пакоя міністэрства на турэмныя нары — адзін крок.

На працы Верціхвост займаўся улікам развіцця сельскай гаспадаркі. Адным словам, ён загадваў аддзелам статыстычнай службы. У канцы месяца ствараў пісьмовыя справаздачы высокаму камандаванню, тым самым даказваючы, што дарэмна не працірае штаны да дзірак.

А ў жыцці Дарафей любіў добра і доўга пагуляць: жанчын ушаноўваў нятаннымі дарункамі, мужчын частаваў французскім віном і шашлыком. Часам ягоны кабінет гудзеў ад шуму шклянак, бутэлек, і тады дадому Верціхвост дабіраўся з дапамогай кіроўцы ці міліцыянта, у залежнасці ад стану здароўя на той момант. Калегі стараліся глядзець на грахі начальніка спакойна, ведаючы закон ісціны: таемнае некалі становіцца яўным.

У скураным фатэлі вясковыя праблемы не вырашыш, трэба ездзіць у камандзіроўкі, да чаго Дарафей не меў аніякай ахвоты. Навошта губляць час, калі жаданае можна выдаць за сапраўднае. Праверкамі яго не запалохаеш, таму адчуваў сябе новы гультай бяспечна і прыемна.

Становішча адноснага зацішша перад вялікай бурай працягвалася да пачатку чэрвеня, пакуль не запаліліся агеньчыкі скандалу. Выклікае Дарафея шэф, перад

носам паперкамі махае, быццам на дуэль запрашае абібока:

— Колькі гадоў на службе?!.

— Хутка два дзесяткі.

— Увесь час рыхтавалі для мяне ліпавыя факты?

— Не, упершыню. Камп'ютэр зламаўся, таму падлікі няправільныя.

— У падмятайлы адпраўлю, калі праз пяць дзён не атрымаю дакладныя звесткі. Дапяў?

— Вінаваты... Прабачце, калі ласка, — ледзь вымавіў Дарафей.

— З вачэй маіх далоў! — паказаў на дзверы галоўны чалавек установы.

Задумаўся аматар лёгкага заробку над тым, што поспехі з няўдачамі чаргуюцца, і вырашыў больш не трапляць на прыём да ўладара высачэзнага гмаху. Адразу пачаў рыхтавацца ў дарогу: кансервы й сухары набыў у краме, дыктафон пазычыў у сябра-журналіста, нататнік і аловак адшукаў у шуфлядзе.

Наступнай раніцай з чамаданам, напакаваным рэчамі, падаўся ў гараж, узяў там чорную «Волгу», начапіў чорныя акуляры — надзейны сродак ад людскога сораму, — і паехаў у вызначанае лёсам падарожжа.

Праз дзве гадзіны апынуўся ў сяле Старынкі. Даспадобы прыйшоўся двухпавярховы белы цагляны дом Максіма Падалякі. Старога будаўніка паважалі жыхары за шчырасць, дасціпны гумар і надзейныя сцены хацін. Паколькі сапраўдных абставінаў Верціхвост не ведаў, то яму закарцела хутчэй запісаць на стужку, як селянін спраўляецца з прысядзібнай гаспадаркай. Але падзеі разгарнуліся інакш, чым ён планаваў.

Прыпыніўшы аўтамабіль каля дома Падалякі, Верціхвост тут жа завітаў да гаспадара. Не чакаў дзед няп-

рошаных гасцей, але прыняць не адмовіўся. Цікава з людзьмі паразмаўляць, даведацца, на якія навіны свет багаты.

Праўда, Максім Падаляка засумняваўся, з кім мае гонар быць знаёмым: з рэкецірам ці падатковым інспектарам. Але Дарафей Верціхвост супакоіў старога тым, што сам ён, маўляў, звычайны клерк, і вельмі імкнецца прайсці практыку фермерства ў Старынках. Аднак дзед уцяміў, што нячыстая сіла яму перашкодзіць, што трэба асцярожнасць, таму падсілкаваў Дарафея бульбай, шкваркай, капустай, прапанаваў адпачыць перад экскурсіяй.

Верціхвост згадзіўся, бо яшчэ ніхто не вывучаў сядзібу Максіма, акрамя дзедавых сваякоў, якія штодзень рупяцца аб дабрабыце.

Павёў Падаляка статыста на двор паказваць забудовы, якія селяніну патрэбны, як свежае паветра.

— Вось хлеў, тут месца для скаціны.

— Які хлеб?

Максім усміхаецца: «Захацеў булак пан».

Адчыняе стары брамку, дзе сена для рагулі ляжыць, кажа:

— Гэтае памяшканне называецца пуняй.

— Што за куля! Дзед, можа, і арсенал у цябе ёсць?

Працягвае аповед будаўнік:

— Пад павеццю захоўваю дровы, а калі пашанцуе — і вугаль.

Не дачуў чынадрал слоў Максіма, зноў атакуе:

— Дык ты клеткі вырабляеш?

Не звяртае ўвагі вясковец на выбрыкі Дарафея, далей тлумачыць:

— Побач з павеццю — лазня, дзе косці ад хваробаў пазбаўляю.

Верціхвост лыпае вачыма, яго свідруе думка:

«У сталіцы я ўжо вязень. Выдатна поўз угару, цяпер кар'еру на тармазах спусцяць і прыкрыюць медным тазікам».

Падводзіць Максім Дарафея да калодзежа, паведамляе:

— Калі няма вады ў трубах, бяру яе са студні.

— Гаспадар, няўжо ты варыш студзень?

Здымае замок з дзвярэй сховы, дзе ўраджай узімку ляжыць, тлумачыць:

— Склеп — мая скарбніца. Сырадой, памідоры, гуркі ў слоіках — усялякаму тавару месца на паліцах ёсць.

Верціхвост пяць капеек устаўляе:

— Аслепнеш, пакуль запомніш.

Дзед белага сцяга не падымае, далей шчыруе:

— Выпі малачка, ды снамі напаўняй кошык.

Баіцца апальны куцель, фантазіруе, што ў палон чараўніка трапіў, адкуль уцячы немагчыма. З жахлівымі думкамі заснуў ён на пярыне ў зале. Дзед Максім у суседнім пакойчыку адпачываў.

Усю ноч Дарафею не давалі спакою кашмары. Якія толькі страхі ўгледзіў: стрэльбу, што грыміць, ажно шыбы дрыжаць; ільва, які з фіранак на коўдру ляціць; грукат жалезных дзежак пад вокнамі...

Ледзь дацярпеў да ранку. На золку закрычаў:

— Ратуйце!..

Максім Падаляка суцяшае начальніка-няўдачніка:

— Не ўсё табе кіраваць, няхай табой пакіруюць. Герой, трасца яму ў скулу, спужаўся майго храпу, неўзлюбіў катка і сабаку.

Напэўна, чытача зацікавілі дзед Максім і статыст Дарафей Верціхвост. Найбольш пашанцавала старому Падаляку: за займальную экскурсію па сядзібе старшыня калгаса ўзнагародзіў яго грашовай прэміяй. Не пак-

рыўдзілі й Верціхвоста: цяпер ён — галоўны падмятайла ў Мінску.

## ВАЙСКОВЫЯ ЎДАЧЫ

Седзячы з вудай на беразе маленькага возера, упрыгожанага раскіданымі дзе-нідзе бярозамі, ля вёскі Заблукі, ловячы карасёў, акунёў ды што трапіць на чарвяка, пачуў, як хтосьці лаяўся, на чым свет толькі трымаецца, на турыстаў. Здаецца, і прычына хутка адшукалася: уключыўшы магнітолу, аматары лёгкага адпачынку забаўляліся на ўлонні прыроды, бы тыя маленькія дзеці з трашчоткамі.

Голас адчайнага рыбака гучаў сярод пеністых хваляў вады, цёплага подыху вятрыскі:

— Невукі патлатыя, каб на вас лівень з маланкай! Дзіравым ботам запусціць з дна ў гультаёў, якія шчупакоў ганяюць пад бугі-вугі.

Зразумець настрой людзей, якія сваёй працай на возеры забяспечвалі сем'і харчаваннем, нескладана: цяжкім рокам звядзеш рыбу — клёву не будзе.

Да мяне набліжаўся сівы дзядуля. Выпраўка яго нагадвала армейскага афіцэра ў мінулым. Плячысты. Моцнага целаскладу, з загарэлым тварам. Рукі былі падобныя на казачныя молаты. Шчырая, лагодная усмешка.

— Ці шанцуе табе сёння? — запытаў стары.

— На юшку набярэцца, а на патэльню, можа, і не хопіць, — сціпла прызнаўся я.

— Не хвалюйся, праз тры гадзіны вернемся з някепскім уловам. Не засумаваў, Генадзь?

— Не паспееш азірнуцца, як трэба цягнуць карася, таму з сумам не сяброую, лепей не быць з ім знаёмым, Міхась Леанідавіч.

— Таксістам працуеш?

— Так. Езджу па Беларусі. Пасажыры — народ цікавы, гаваркі. Колькі легендаў назбіраў, варта пра кнігу падумаць.

— Чаму ж марудзіш?

— Адразу не адкажаш. Грошай неабходна шмат, паперы, ды ў друкарні пажадана мець сяброў. Куды сунешся з заробкам у васемсот тысячаў.

— Хочаш, Гена, дапоўніць рукапісы натхнення гісторыяй з маёй маладосці?

— Не адмоўлюся. Цікава слухаць старых, вопыт жыцця вялікі, а мова чароўная, сакавітая... Ні ў якое параўнанне з мовай сучаснай моладзі не ідзе.

— Ну, тады слухай... — І Міхась Леанідавіч пачаў распавядаць: — Здарылася гэта ў першыя дні вайны пад Лідай. Чырвоная армія з баямі адступала на ўсход. Сто першая стралковая дывізія служыла прыкрыццём для адыходзячых войскаў. Будучы са ўзводам у разведцы, байцы заўважылі, што надта высока кружыць фашысцкі самалёт, «рама», і хто праверыць, якія чэрці коўзаюцца ў паветры разам з каршунамі й сокаламі.

Прапаноў наконт сустрэчы з няпрошаным «госцем» нашкрэблі столькі, хоць корпус злодзееў на шматкі разнясем, калі з'явяцца на гарызонце. Прыпыніліся на тым, што з кулямёту абстраляем сталёвага драпежніка, а экіпаж возьмем у якасці «языка». Задумана — зроблена.

Выбраўшы палянку, што нечым нагадвала аэрадром, заселі ў хвойніку. Гадзіна мінула, другая. Згубіўшы арыенціры, выскачыў самалёт якраз туды, дзе мы пастку падрыхтавалі. Я націснуў гашэтку — гучна празвінелі стрэлы.

Глядзім: прызямляецца вінтакрылы бандыт, ліха яго матары. Нямала здзівіліся, угледзеўшы на борце чырвоныя зоркі. Адтуль выпаўзаюць, што мядзведзі з бер-

лагу, пілоты ў камуфляжы, нешта гамонячы па-руску пра пашкоджаны рухавік. У мяне ажно дрыжыкі па спіне прабеглі. Ахайна акружылі, нават без шуму. Хлопцы ўзводзяць вінтоўкі й карабіны, загадзя папярэдзіўшы: «Рукі ўгору, а то рэшата застанецца!»

Маўчаць фрыцы, паспрабуй толькі паварушыцца — родная маці не пазнае.

Шыбуюць насустрач штабныя машыны з дывізіі ды палкоў. Бацюхна, няўжо трыбунал? Бі сваіх, каб чужынцы ад радасці лямантавалі ваўкамі. Штосьці тут не так. Трэба даказаць начальству, у якога на каўнярах гімнасцёрак шпалы й ромбы. Дзякуй Богу, выратавалі лётчыкі з суседняй дывізіі, сцвердзіўшы: «Машына і хітрыкі — гітлераўскія, а зоркі нашы прычапілі».

Напружанасці не паменшылася.

Залез у кабіну аэраплана. Бачу, патроны востраносыя, доўгія, што тыя паплаўкі. І белых аркушаў, хоць загады крэмзай. Узяўшы адзін ліст, папрасіў, каб салдаты прынеслі збан з вадой. Сам выцягнуўся на вынікі адным вокам зірнуць, можа, што-небудзь і атрымаецца. Яшчэ з фінскай кампаніі помню, як па законах фатаграфіі выява выходзіла. Каб толькі не памыліцца, бо смех запануе і бяду не скосіш. Значыць, практыка не падвяла, калі жахнуўся не на жарт, паглядзеўшы, што ворагі збіраліся Мінск бамбіць, таму карцінак гарадскога пейзажу наштампавалі. Там на добрую выставу іх.

На душы палягчэла, бо даведаўся, што гора-ваякам хвост падціснулі. Напалеонаўскімі шляхамі прарубілі дзіркі на гарніцы, ды, відаць, мала ім гневу справядлівага — яшчэ захацелася. Не па зубах акупантам беларуская зямелька. Не чапляй бітым носам чужое проса.

Мне падзяку аб'явілі. Чаго ж болей марыць чалавеку, які вайну з нянавісцю ўспрымаў, не шкадуючы жыцця, змагаўся, нават у партызанах атрадам каман-

даваў. Калі па грыбы пойдзем, тады табе падарунак будзе — цікавыя аповеды пра Айчынную вайну. Што скажаш? Згодзен?

— Канешне... Знакаміты вы чалавек, дзед Міхась. Для ўнукаў — гонар, для сям'і — радасць!

Заводзячы старэнькі «Жыгуль» — зноў заччхаў матор — пераканаўся, што Міхась Леанідавіч — вялікі майстар на жарты. Склаўшы вуды, пасміхнуўся:

— Падвязеш да лецішча, каб жонка спакой не страціла. Жанчыны ўсе аднолькавыя, калі мужыкі да хаты спазняюцца.

## АДПЛАТА ЗА ГРАХІ

Маргарыта, шчаслівая і спакойная, вярталася з экзаменаў. Чаму ж не быць вясёламу настрою, калі сесію здала на выдатна, калі зараз можна два тыдні адпачыць, не думаючы пра заняткі ў педагагічным вучылішчы. Колькі часу вольнага ёсць, каб і бабулю ўМіёрах наведаць, і з сяброўкамі ў Купалаўскі тэатр злётаць на п'есу «Хто смяецца апошні», і з Алесем пабываць на танцах у Доме афіцэраў.

З думкамі надзеі ў жыцці й чысціні пачуццяў у каханні прывабная студэнтка ішла па тратуары старажытнай Нямігі. Светлыя, нібы марскі пясочак, валасы відаць былі з-пад шапачкі. Карыя вочы песцілі позіркі прахожых чуласцю і мілатою душы. На стан таямнічы, падобны на постаць князёўны Рагнеды, заглядваліся хлопцы, што шыбавалі насустрач.

Маргарыце здавалася, што свет у адну гадзіну змяніўся ў лепшы бок, бо ведала, што толькі прыгажосць і выратуе людзей ад здзеку і войнаў.

Нечакана ля красуні рэзка затармазіў «Мерсэдэс», чорны і доўгі, як драпежніца-акула. З легкавіка выцяг-

нуўся дзежкападобны, чорны, быццам апалены маланкай дуб, мужчына. Яго чорнае паліто закрывала хараство студзеньскага дня, кароткая прычоска палохала прысутных. Крокамі, цяжкімі й недаверлівымі, бы тая завіруха, набліжаўся чалавек у чорным да Маргарыты.

Дзяўчына пачула абразлівы камплімент:

— Гэй, канарэйка, давязу на кані цябе з хуткасцю бусла!

— Мне з вамі не па дарозе!..— смела адказала дзяўчына.

Нібы гром з даждлівага воблака, загрукатаў голас пасажыра з легкавіка:

— Ты чуеш, Карп? Яна не хоча ехаць са мною.

На што ўладар «Мерсэдэса» выказаўся:

— Калі не жадае, то бяры яе сілай, Ягор! Нельга варон вачыма страляць, а прыгожых дзяўчынак не заўважаць.

Не паспела Рыта даць лататы ад нахаб-грубіянаў, як чыесьці моцныя рукі схапілі яе і заштурхнулі ў салон аўтамабіля.

Дзяўчына сядзела між двума амбаламі, убачыўшы якіх, ёй прыйшла згадка наконт пасткі страшыдлы. Сапраўды, толькі цмокі з'яўляюцца жахам для бездапаможных. «Мерсэдэс» нёсся па вуліцах сталіцы, нібы воўк са здабычай. На пярэднім крэсле, павярнуўшыся да Маргарыты, мітусіўся, бы на вострых цвіках, гаспадар легкавіка. Пераканаўшыся, што з чарговай пасажыркі нават слова не выцягнеш, зацятыя ліхадзеі доўга думалі, як спадабацца ёй. І вырашылі спачатку пазнаёміцца са студэнткай педагагічнай вучэльні. Паколькі мова заможных грамадзян нагрувашчана больш лаянкай, чым трапнымі выразамі, з пыхаю яны пачалі весці перамовы з незнаёмкай:

— Як цябе завуць? — запытаў Ягор.

— Рыта, — глуха прашаптала прыгажуня.

— Значыць, ты вучышся ў школе? — зацікавіўся Карп.

— Можа, і так.

— Мяне бацькі назвалі Карпам, — хвалебна, пасміхаючыся, сказаў Ягораў начальнік. — Я ўзначальваю фірму, а гэта мае сумленныя працаўнікі: шафёр Роберт, ахоўнік Давыд і мой намеснік Ягор.

— Спадары, дзіркі вам у колы, алей з мінай у бензабак, куды вы мяне везці збіраецеся? — няглездзячы на магчымыя непрыемнасці, задумліва зазвінеў голас студэнткі. — Прыпыніце машыну!

— Я так не дамаўляўся, Рыта. Перш-наперш, да мяне ў госці завітаеш, — бадай залямантаваў «бізнесмен». — На шашлык і віно.

— Вяду цвярозы й спартыўны лад жыцця... Абед ты сам з'ясі, дубіна пякельная! — рашуча сказала дзяўчына. — Калі я траплю ў шпіталь, то ты, прайдзісвет, — на могілкі.

— Глядзі, напалохала! — здзекліва шумнуў Ягор.

— На смех курам, — падтрымаў яго Давыд.

Праз колькі хвілін аўтамабіль вужакай завярнуў да дзевяціпавярховага будынка.

Пакідаючы «Мерсэдэс», хеўра на чале з Карпам, ведучы пад канвоем Маргарыту Афанасьеву, паднялася на трэці паверх, дзе размяшчалася кватэра так званага дзелавога чалавека. Ахова засталася ў пярэднім пакойчыку, а «бізнесмен» і дзяўчына зайшлі ў велізарную, пакояў на шэсць, кватэру, вартую параўнання з танцпляцоўкай.

Рыта, пераступаючы праз парог, здзівілася, адчуваючы сябе нібы на экскурсіі, бо ніколі не бачыла столькі рэчаў. Усюды ляжалі кнігі, касеты з запісамі, дзесяткі

два замежных магнітафонаў, некалькі мікрахвалёвых печак, у кожным пакоі — па тэлевізары й па тэлефоне. Дываны віселі, быццам сцягі на вуліцах, і было бачна, што новы багацей зусім не трымаецца парадку.

Карп, скіраваўшы ўсю ўвагу на дзяўчыну, прагаварыўся:

— Ты сягоння стала залатой рыбкай у акіяне багацця, таму свабодны выхад у мора зачынены, як ўваход да нас.

Калі перавесці гэты сказ на даступную мову, атрымлівалася, што Маргарыта станавілася ці жонкай, ці палюбоўніцай для «бізнесмена» Карпа без яе згоды.

Зразумела студэнтка: ашукаў яе ненавісны гаспадар «Мерсэдэса». Яна адчувала: паратунку шукаць няма як, таму ўважліва назірала, спрабуючы знайсці выйсце, каб як найхутчэй пакінуць злога прадстаўніка сажалкавых рыб. «Ведаю твае хітрыкі, анёл рагаты, толькі грошай ды іншага багацця не хопіць, каб выплочваць за кожную пакутную хвіліну... Бацька і матуля ўжо хвалююцца, а брат Андрэйка ўвесь горад пераверне да гары нагамі, калі да пяці гадзін вечара не буду дома. А калі Алесю стануць вядомыя выбрыкі вар'ята, дык і скончыцца браканьерства Карпа, і варту адолее страх...»

Галава фірмы, чытаючы планы ягонай госці, уключыў музыку, каб патаньчыць з Рытай, але і тут будучая настаўніца пачатковых класаў не дазволіла дакрануцца брудным лапам «бізнесмена». Карп, схапіўшы за рукі дзяўчыну, пацягнуў да сябе. Збіўшы з ног, ён паваліў яе на канапу. Вядома, прачнуліся звярыныя інстынкты...

Што было далей, Маргарыта не помніць, бо прыйшла ў прытомнасць на бальнічным ложку. У яе моцна балела цела, круціла сутарга рукі й ногі, тэмпература даходзіла да 39 градусаў.

Горад гудзеў, як узбуджаны вулей. Каб сярод белага дня скрасці, а потым ссільнічаць дзяўчыну — такое ў пачварным сне не ўбачыш.

Дактары ўвесь час знаходзіліся ля хворай. Сваякам і бацькам гаварылі, што ачуняе іх дачка, арганізм малады, але небяспека захоўваецца адносна цяжарнасці. Бацькі Маргарыты не маглі супакоіцца, пакуль зламыснік не будзе пакараны.

Увечары, калі Алесь укладваўся спаць, трывожна загучаў тэлефон. Хлопец падняў трубку:

— Добры вечар, слухаю.

— Алеська, я ў шпіталі на Нямізе. Прыйдзі, калі ласка, сумна мне на душы.

— Маргарыта, што здарылася?

— Скажу, але гэта не тэлефонная размова.

— Заўтра раніцай буду ў цябе.

Алесь чацвёрты год вучыўся ў Ваеннай акадэміі, марыў аб афіцэрскіх пагонах, аб тым, у якім кутку Беларусі давядзецца служыць. Хлопец свядома абраў шлях дэсантніка, што радавала бацькоў, аднакласнікаў, сяброў... Малады чалавек быў моцнага целаскладу, ніколі не смуткаваў. Сінія вочы чаравалі дзяўчат. Любая праца гарэла ў руках хлопца. Ягоныя камандзіры ведалі, што Алесю можна даручыць самае складанае заданне, і ён з ім справіцца.

З Маргарытай хлопец пазнаёміўся ў школе, дзесьці ў восьмым класе. Нават за адной партай разам сядзелі. Там і прыйшло першае каханне, вернымі якому засталіся і Алесь, і Маргарыта. Пасля адзінаццаці класаў ён паступіў у Акадэмію, а яна — у педагагічнае вучылішча. Малады чалавек памятаў словы клятвы, што даваў на выпускным балі ў школе: «Прыходзіць на дапамогу

ў хвіліны й часы няўдач, дзяліцца апошнім, разам змагацца з няшчасцямі, якія з'яўляюцца нечакана, радавацца поспехам аднакласнікаў, не падымаць асабісты нос вышэй, насцярожана ставіцца да выскачак...»

Раптам паўтарыўся тэлефонны званок:

— Курсант Алесь Дарафеенка, — пачулася ў слухаўцы. — Заўтра ў 11 гадзін раніцы з'явіцца ў гарадскую вайсковую камендатуру.

— З чым гэта звязана? — пацікавіўся хлопец.

— Ваш факультэт пераводзяць на надзвычайнае становішча.

— Таварыш маёр, загад зразумелы, дазвольце прыступіць да выканання.

— Выконвайце, таварыш Дарафеенка.

Параўноўваючы апошнія звесткі, малады дэсантнік аналізаваў іх, шукаючы ісціну. І чалавеку, не звязанаму з вайсковай службай, стане зразумела, што роту курсантаў падымаюць адразу ў сувязі з гэтым нялюдскім здарэннем. Алесь задумаўся: хто пакрыўдзіў Маргарыту? Якую мэту ставіў гвалтаўнік?

«Няўжо не знайду выйсце?»

Пытанні, пытанні, але адказы прыходзяць не хутка, бо час сыграе з табой злы жарт, калі не апярэдзіш захады магчымага праціўніка.

Набліжалася шэрай кошкаю ноч. Горад засынаў, журботна струменілася завея.

Устаўшы з сонейкам, Алесь хутка апрануўся ў зялёную вайсковую форму: блакітны берэт ззяў ласкавымі промнямі, кажух, цёплы й мяккі, саграваў хлопца, штаны з мноствам шырокіх кішэняў і высокія, нібы батфорты паляўнічага, боты лагодна ўпрыгожвалі знешні выгляд будучага афіцэра.

Выходзячы з дому, Дарафеенка завітаў у краму, купіў

букет чырвоных ружаў і накіраваўся да Маргарыты, паколькі ў камендатуру ён не спазняўся. Калі зайшоў у бальніцу, яго правялі па маўклівых калідорах да патрэбнай яму палаты.

Убачыўшы каханага, дзяўчына шчыра пасміхнулася. Яе воблік сведчыў аб веры ў ацаленне, што пакіне востраў суму — так Рыта называла бальнічны пакой. Алесь, паклаўшы ружы на стол, пяшчотна пацалаваў яе руку. Зайшла медсястра. Хлопец з цікавасцю запытаў, колькі яму дазволяць гаварыць з Маргарытай, і сеў насупраць ложка на зэдлік. Жанчына сказала, што працяглыя размовы яго сяброўцы пакуль забароненыя.

Маргарыта, крыху ўсхваляваная, пачала закідваць пытаннямі свайго каханага.

— Як жыццё, любы? — спытала яна амаль шэптам.

— Нармальна, — коратка адказаў ён. — Чаму пазнаёмілася са змрочнымі сценамі й калідорамі адзінoцтва?

— Доўгая гісторыя, Алесь. Ужо трэці дзень самотна без цябе. Здала апошні іспыт у вучэльні, спяшалася дадому, але не дайшла да роднай хаты. Трапіла ў бяду, баюся цяпер, што разлучаць нас.

— Што было далей? — ласкава прагучаў голас каханага.

— Захацеў мець мяне палюбоўніцай зухаваты магнат, а можа, і злодзей... Яго завуць Карп. Я помніла нашы спатканні, на здраду табе не пайшла. Тады гэты лысы пень дабіўся сілай задавальнення паганых патрэбнасцяў... І вось я тут.

— Дарагая, адплачу дзікуну па першае чысло. Гарэць будзе ў пекле за твой боль.

— Алесь, мне жахліва ад тых умоваў, якія паставіў Карп...

— Чаго ён ад цябе патрабуе?

— Прапанаваў замужжа, наабяцаў рабскую пакору да труны! Я адмовіла яму, але гэты нягоднік запалохаў сям'ю, таму я не ведаю, як жыць далей?

— Карп можа дапяць, што ў яго ёсць супернік?

— Магчыма... Аднак ён мае і ахову, і грошы, і зброю, і сувязі ў кожнай дзірцы... А ў нас нічога няма.

— Любая Рыта, не сунецца дзялок на прафесійнае войска Беларусі!

— Для Карпа няма законаў...

— Абяцаю, управу знойдзем на авантурнага дзеяча жаху.

— Мой брат Андрэйка збірае рушэнне сяброў, каб неспадзявана наведаць Карпа з ягонай хеўрай...

— Скажы брату, няхай без майго загаду нічога не робіць... Лепш звесткі збірае пра гэтую рыбу, часова знаходзячыся ў рэзерве.

— А не зацягнецца з помстай?

— Будзем Карпа браць лікам і ўменнем... Чым хваліўся твой крыўдзіцель?

— Казаў, што ён камерсант...

У абдымках маўкліва стаялі Алесь з Рытай. Кожны думаў пра сваё: малады дэсантнік спадзяваўся як найхутчэй знайсці гвалтаўніка, а яго каханая — аб тым, што пасля сканчэння вучобы вернецца працаваць у школу, будзе выхоўваць дзяцей з павагай ставіцца да малых і дарослых; яе суджаны застанецца жывым і здаровым...

На развітанне каханыя абмяняліся пацалункамі.

Рыта з радасцю паведаміла, што наступнае спатканне будзе ў яе...

Патруль, дзе за старшага прызначылі Алеся Дарафеенку, праставаў цёмнай ноччу па мікрараёне, што

быў па правы бок шашы Мінск — Брэст. Непрыемна-халодны вецер біў па шкле, быццам агонь па сухім галлю. Падаючы на зямлю, мітусіліся ў палёце, як збянтэжаныя, сняжынкі. Мароз дужэў, нагадваючы злога джына, якога выпусцілі з гарлача.

Дэсантнікі, размеркаваўшы сілы, працягвалі берагчы спакой і сон грамадзян, якія адпачывалі перад працоўным тыднем. Хлопцы разумелі: варта якому здарэнню адбыцца ў горадзе — і ўсе курсанты забываюць на адпачынак, пра сваё адносна спакойнае жыццё ў казармах... Служба ёсць служба.

Тым і адрозныя парадкі ў войску ад цывільнага жыцця.

Раптам пачуўся свіст, нечым падобны на гнеўнага Салаўя-рабаўніка, потым — звон разбітага шкла, а яшчэ праз імгненне — крык.

Чацвёра патрульных заўважылі: ім напярэймы бяжыць стары, які спрабуе ратавацца ад змрочнага выгляду бадзяг. Мужчына прасіў:

— Дапамажыце, бо заб'юць нявіннага... Унучку шкада!

Алесь Дарафеенка прыкмеціў: за дзедам гоніцца шайка бандзюкоў, дзесьці, прыкладна, з чатырох чалавек. Хлопец скамандаваў:

— Завадзілу на сябе бяру, і вам — па аднаму нахабніку... Пакажам ім, на што мы здольныя.

Сілы бадай роўныя, калі ўлічыць, што ў курсантаў узбраенне напагатове. З чым на іх пойдзе процілеглая групоўка, лясун таго не ведае.

Алесь і не здагадваўся, што правадыром у адшчапенцаў быў той самы насільнік, пра якога ўдумлівыя чытачы ведаюць з пачатку апавядання. І вось гэты Карп вырашыў паказырацца перад ваеннымі, паказаць ім, хто дужэйшы.

— Ідзіце, служывыя, туды, — вытыркнуўся ён з «Мерсэдэса», — дзе заўсёды гуляеце, чэрці нябітыя... Інакш мае штурмавікі накіруюць вас да д'ябла.

Алесь прыняў выклік на сябе, каб тым часам яго калегі маральна падрыхтаваліся да хуткай бітвы. Пацікавіўся ў Карпа:

— Што благое зрабіў вам стары, якога вы збілі без прычыны?

Высунуўся з адказам Ягор, баронячы гонар свайго гаспадара:

— Унучку не аддае ў нявесты... На прыгожых дзевак сёння вялікі дэфіцыт. А гэты, бач, артачыцца — на даляры плюе. — І да сваіх хаўруснікаў: — Роберт і Давыд, хадземце растлумачым ваякам, чаму мы тут. — І выйшлі з машыны.

Да паплечнікаў Алеся, Васіля і Антося, пасунуліся два бандыты, каб памерацца сілай з курсантамі. Але двубой не надта зацягнуўся, і ўжо было відаць, што не абернецца ў сутычку са зброяй. Хлопцы за долю секунды паклалі нягоднікаў тварам у снег і звязалі канатам, які прынеслі з сабой ахоўнікі Карпа.

Алесь тым часам змагаўся з Карпам, пакуль ягоны сябар Сярожа займаўся Ягорам. Праз колькі хвілін Карп і Ягор апынуліся пераможанымі, у выніку чаго мусілі распавесці дэсантнікам, па якой прычыне яны пераступілі мяжу чалавечых законаў...

Праз паўгода пасля згаданых падзеяў Маргарыта Афанасьева і Алесь Дарафеенка святкавалі вяселле, шлях да якога каштаваў вялікіх выпрабаванняў, цярпення і нават баявых дзеянняў з боку маладога і ягоных сяброў. Адзначыць перамогу над злом былі запрошаныя бацькі жаніха і нявесты, сябры, аднакласнікі й аднакурснікі, а таксама выкладчыкі нашых герояў.

Радасць ад вяршэнства дабра і справядлівасці заўсёды не згасае, нягледзячы на спосабы яго дасягнення.

## ТАЦЦЯНА

### *Ад аўтара*

*Падзеі, пра якія вядзецца размова ў творы, адлюстроўваюць рэчаіснасць. Можна па-рознаму ставіцца да ўчынкаў герояў апавядання, не забываючы, што яны ходзяць сярод нас, паважаныя сучаснікі, смяюцца, пакутуюць, змагаюцца з праявамі зла і гора, выказваюць шчырыя пачуцці.*

*Гэтым я імкнуся даказаць, што каханню і таварыскасці служыць справядлівасць у стасунках, ім непадуладны маланкі нахабства, дажджы непаразумення і завірухі супярэчнасцяў.*

### 1

Працуючы пяты год у школе, я шанаваў натхненне настаўнікаў-славеснікаў, якія адкрывалі крынічныя стрункі таленту дзіцячай душы, адчуваючы, што з маіх вучняў будуць новыя Багдановічы й Гарэцкія, Буйніцкія і Глебавы... Цяжкасці не абмінулі на пачатку асветніцкай дзейнасці, ды хутка адляцелі ў нябыт, як зграя чорных груганоў у пякельны жвір. Не здрадзіў я клятве знакамітым дзеячам педагагічнай нівы, таму здзейсніў поўнасцю небяспечную задуму (на час напісання апавядання) — дзяліцца ведамі з тымі, хто зойме ў свеце пачэснае месца сярод адукаваных і выхаваных людзей, быццам міфалагічны Апалон, — каб роднае слова звінела з вуснаў сыноў і дачок Беларусі.

Пасля кантрольнай па мове забрыў у настаўніцкую на адпачынак — быў надзіва спякотны дзень.

Васьмікласнікі пісалі дыктоўку за паўгоддзе.

Убачыўшы Станіслава Фёдаравіча, каржакаватага мужчыну гадоў пяцідзесяці, магутнага, бы клён у росквіце, які, радасна ўсміхаючыся, заканчваў школьную энцыклапедыю на зімы палову і вясны пачатак, сціпла павітаўся з ім. Нарэшце завуч — жартам яго называлі Анёл дысцыпліны, — заўважыўшы мяне, зацікавіў неверагодным адкрыццём:

— Сяргей Сяргеевіч, вы як дабраволец накіроўваецеся метадычнай радай для збору допісаў па дыдактыцы да пачаткоўцаў-калег на малодшыя паралелі. Адну ці дзве чвэрці, як атрымаецца, — на даследчую работу. А там, глядзіш, пераможца стане ў «Настаўніцкай газеце» рэдактарам рубрыкі. Спадзяюся, што прапанова для вас у самы раз!

Не спяшаючыся з адказам, доўга і ўдумліва разважаў я над абставінамі лёсу, якія ў імгненне мяняюць асабістыя і грамадскія нагрузкі, могуць і выратаваць, калі змікіціш сутнасць справы, а то і падштурхнуць на скалы няпэўнасці. І я даверыўся залатому сумленню знакамітага педагога. Зразумела, пытанняў да завуча нашкроб столькі, колькі дрэў у Мікалаеўскім лесе. І гэтым жэўжыкам-пытанням карцела на нязведаныя прасторы, як маладым на заручыны:

— Станіслаў Фёдаравіч, расклад хістаецца гарачымі блінамі на патэльні: ці магчыма ўзяць яго за лейцы, нібы жарабя ў хамут паслухмянасці?

— Сяргей, за хвасты хвалявання і расчаравання лепш не чапляйся. Табе пашанцавала: пасля абеду — на выкладанне.

— Акрамя навукі, якія класы дасцё?

— Пятыя і шостыя.

— Здаўна марыў рызыку салаўём абхітрыць... Эх, неўзабаве стану выконваць рамансы й серэнады!

— Сур'ёзныя тоны... Як пачаў я выкладаць фізіку, і, ведаеш, не паспеў азірнуцца: ужо і дзяўчыну ўпадабаў. На наступны год — вяселле.

— Ясна. Да каго бегчы на спатканне ў пачатковую школу?

— Да Таццяны Вераб'ёвай, выхавацелькі першачкоў.

— Мой сябра, хачу з табой параіцца.

— Калі ласка. Настаўнік без парады, як казак без скакуна.

— Калі фортка выцягнецца на дарогу роздуму, дапамагай Таццяне Аляксандраўне, каб не гублялі настрой у творчых справах. Мартын Лявонавіч цябе ахоўным лістом узброіў, заўтра і бярыся за пошукі невядомага хараства, чым багата прыгодаў калясніца.

Любая нечаканасць — свята. Пачуўшы шчымліва знаёмае прозвішча, студэнцкія ўспаміны сагрэлі неспакойную душу. Значыць, адолеем вал непрыемнасцяў, з асалодай правядзем вольныя гадзіны, спазнаючы навакольле пачуццяў у шчэбеце сяброўства і шэпце кахання. І клопаты бадзёрасці запоўнілі сэрца.

Танюша, ласкавая і вясёлая, нібы багіня Лада, вабіла хлопцаў-аднакурснікаў непаўторнымі жартамі, яскравай чуласцю, выдатнымі практычнымі работамі. Гнуткі стан, падобны на прыгажуню-каліну, чароўныя рукі, дабрынёй ззяючыя сінія вочы, цёмныя стужкі валасоў, якія ліюцца рачулкамі пекнасці, музычны галасок, дыхаючы вясновым настроем тварык... Як слова вымавіць, прыслухоўваешся, ловіш таемныя гукі захаплення. Рукой правядзе — уяўляеш сябе на балеце маладосці. Здавалася, сустрэнешся з квяцістай ружай радасці — пакутамі можна палеткі араць.

Прыгадваю выпадак з часоў вучобы, калі мы, юныя і бестурботныя, ішлі па шляху служэння Волі ды Веры

ў лепшае. Засталіся пасля заняткаў у вучэльні, правяралі сачыненні, каб яшчэ ўзяць за чубы шматступенчатыя залікі, да якіх — рукой падаць.Таня, седзячы побач, зачытвала рукапіс, назіраючы за тым, ці выплывуць якія-небудзь недакладнасці. Угледзіўшы, што ў сшытку няма чаго правіць, ціха запыталася:

— Сярожа, чым для цябе з'яўляецца мелодыя шчасця, чыстая і верная, як кропелька цеплыні?

Пяшчотна абняўшы за плечы мілую сяброўку, перакінуўся словамі:

— Жыць для адзінай каханай, мужна пераносіць цяжар расстанняў, берагчы ад тайных і яўных рэўніўцаў.

Дзяўчына лагодна засмяялася, ад чаго пацяплеў халодны пакой. Напаўголаса сказала, нібы зорачкай засвяцілася:

— Толькі разам асілім кручыністыя вятры, не адступаючы перад разлукамі й адзінотай.

Прыйшлося дапоўніць думку пра вечнае:

— Таццянка, каханне не памірае ад няшчасцяў, мацнее на арэлях палымянасці, зіхаціць вясёлкай надзеяў на нястомным небе будучыні.

Раптам мая субяседніца загаманіла пра гісторыю зносін з хлопцамі:

— Доўга не ўзыходзіла сонейка, змрочныя хмары плылі навокал. Насіўся за мной гусаком, па якім чыгун смуткуе, Фларыян Сякера. Ганарысты, быццам мамант з банцікам, заможнасцю хваліўся. Забяжыць, бывала, што той крыжак: бацьку дарыў то малаток, то напільнік; маці — тканіну на хустку. Я ж калекцыяніравала ў шафу ўсялякія яго бязглуздзіцы. Каяўся: сумненні ўтапіў у дрыгве, а калі даведаўся, што зусім абыякавая да ягонай каліты, адсцябаў Фларыян папругай. Не памыляўся стары: «Гэтая вужака атруціць давер людзей!.. Дзе пан,

там і падман. Здарылася: круцельствам падпёр пасёлак, потым уцёк кудысьці ў Друскенікі. Маці мне спачувала, пажадала, каб сяброў выбірала па розуму, а не толькі па багаццю. А потым я паступіла вучыцца, дзе Бог і злучыў нашыя непарыўныя сэрцы.

Прыемна слухаць дзявочыя прызнанні: аздабляецца ўсмешкамі свет, варажбіць князёўна-прырода, шалясцяць поспехамі ўзвышанасці дзень і ноч, раніца і вечар.

Напрыканцы спаткання вусны збліzіліся ў трапяткі пацалунак, а целы зліліся ў дзівосных абдымках, як Бярэзіна з Дняпром. Праляцелі гады жаўрукамі ўдач. Выпрабаванняў камяні не зламілі першага кахання, чорным ценем адчаю не выпаўзла здрада.

Закончыліся ўрокі ў Палацы Ведаў. Ідучы па шырокім тратуары велізарнага праспекта, абапіраючыся на маю руку, Таня дзялілася промнямі ўражанняў:

— Яшчэ заўчора, калі вы з выкладчыкам фізкультуры ездзілі ў выдавецтва па набытыя падручнікі, Мартын Лявонавіч згуртаваў настаўнікаў на перапынку, каб паведаміць жах: прыскачуць, як на бабулін крупнік, чыноўныя пеўні з міністэрства. Пачынаючых педагогаў схапіла дрыжыкаў ліха: каго ж нячысцік прынясе?

— Што было далей? — асцярожна запытаў я.

— Дырэктар гаворыць: нечага баяцца канцылярскіх прыслугачоў, бо ўсё роўна смятанку з'ядуць — сырадой пакінуць, — сумна пажартавала сяброўка.

— Канешне, крытычнай стрэльбай ласуны тлустых пенак валодаюць па-майстэрску: адзін стрэл — дзесяць ложкаў у шпіталі занята, — адгукнуўся іранічна я.

— Супакоілася на наступны дзень, калі абмянялася позіркамі з табой, Сяржа, — замілавана аддзячыла настаўніца. Крыху падумаўшы дадала: — Ззаду

лысымі чарцякамі пляліся дармаеды з партфелямі з кракадзілавай скуры. Прыпыніў крыўды дурняў без паганаў, калі страляніна глупства не змаўкала. Прадбачыла: закрыеш грудзьмі дзот зайдрасці, абараняючы шчыры гонар.

— Памятаю абяцанне юнацтва, вельмі падобнае на сцяг свабоды, таму і танцаваў пад кулямі насмешак дзядзькоў-бюракратаў, — нягледзячы на вогнішча алебардаў, спакойна адказаў дзяўчыне.

Жаночая павага! Яна акрыляе на подзвігі мужчын. Вось чаму радуецца васількамі непераможная Ісціна.

## АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА

### 1

Губляючы верных сяброў у віхуры жыцця, адчуваеш, як маркоціцца ў адзіноце свет, смуткуе ў палыновым настроі неба, скуголіць горкімі слязьмі бездапаможнасці зямелька. Думкі плывуць па хвалях чалавечай душы, журботныя, маўклівыя, спачувальныя.

Успамінаю сустрэчу ў скверы ля Плошчы Свабоды ў Менску, дзе цяпер мастацкая галерэя на свежым паветры, з Піліпам Дамашовым, маім аднагодкам. Невялікі, з багатырскімі плячыма, залацістымі, быццам сонечныя промні, валасамі, з далонямі, якія заўсёды ў шурпатых мазалях, з лагоднай усмешкай, карымі, спакойнымі вачыміа — такім зблізку бачыў сябра. Пасля атрымання позвы ў войска распавядаў хлопец пра пуцявіны непрадбачнага лёсу, знітаваныя шматлікімі перашкодамі:

— Здаецца, з нараджэння з пакутамі пазнаёміўся. Дзе старэйшыя дзеці ў сям'і, там і клопату болей. У

школе выдатна вучыўся, нават залаты медаль прыдбаў. Далей — працяг вясёлых гадоў у аўтатранспартным тэхнікуме. Не паспеў дыплому руку пацiснуць, упершыню чарада няшчасцяў напаткала: каханую Алесю прымусам узяў у жонкі вясковы багацей, сквапны да золата Яшка Чарток, гаспадар шынка. З заробку механіка куры смяюцца, адрамантуеш каму-небудзь з жыхароў грузавік, дык падаткі спаць не даюць, лезуць, быццам гусі на частакол. Усюды кпіны й здзекі цкуюць сабакамі нянавісці, якім ланцуг — лепшы начальнік. Супраціўляешся нахабству камянём, адчайнай сілай, каб канчаткова сумленне перамагло. Апрача мяне, трох малодшых братоў бацькі гадуюць у Лядах.

— Дзе? — нечакана здзівіўся я.

— У маленькай вёсцы Ляды, што ўздоўж шашы Бабруйск — Жлобін цягнецца. Антось, скажы, можа, ведаеш глухія мясціны каля рэчкі Ала?

— А як жа! Кожнае лета тамтэйшым мядзведзям у канкурэнты запісваюся па маліне, затое з варэннем зімой гарбату п'ю.

— Кім цяпер робіш?

— Уладкаваўся вартаўніком у гасцініцу. Штоноч на службе: пільнуй за парадкам ад прыхільнікаў Бахуса на здароўе. Не вельмі задавальняе, з праграмістаў — у вартаўнікі, але ж дзеткам, Васільку і Паўлюку, грошы на малако патрэбны, таму і круцішся вавёркай у колах галечы й раскошы. Жонка хвалюецца, бо небяспеку хоць пасві на вогненым лузе. Святлану не складана зразумець: у выхавацелькі дзіцячага садку нерватрусу не меней.

— Не крыўдзяць тваю абранніцу ўсялякія дурні з тварамі, што варта ў накаўт пусціць?

— Бывае, ліхаманка ім на язык. Дапяўшы, што падобныя жарты бокам выйдуць, з дрыжыкамі прабачэнняў

не суюць свае насы, калі да хірургаў на прыём і так чарга. Перавыхаванне хуткае. За маральны й духоўны дабрабыт сям'і змагацца прыемна.

Уважліва слухаючы маналог Піліпа, задумаўся аб прычынах несправядлівасцяў, што блукаюць цёмнымі зданямі на неабсяжных прасторах Бацькаўшчыны. Колькі іх, немагчыма нават уявіць, сэрца скаланецца ад рашучага гневу, пякучага болю і пагарды да вар'яцкай няроўнасці, дзе дробка гультаёў тлусцее, а мужыцкая грамада бяднее.

Хлопцы звярнулі ўвагу на шэры будынак, што пачварным кракадзілам палохаў наваколле, мабыць, чакаючы новых ахвяраў, таму ніколі не мяняўшым колер помсты й жорсткасці.

Механік сур'ёзна запытаў:

— Ці ведаеш установу змроку, што імкнецца закатаваць Беларусь у кайданы прыгону?

— Лепш не прыгадвай, упэўненасці няма ў тым, што не апынемся служыць невядомым інтарэсам чужой дзяржавы. У пятым калене сваяцтва пасля нас скажуць: дзе ж гонар продкаў, калі ганьбе і здрадзе ў ногі кланяліся. Гонар з разумнай рызыкай, як брат з сястрой, шкада, што скапыціў заўчасна.

— Неяк сорамна прадчуваць няўдалы вынік. Спадзяюся, адштурхнем навалу падазронасці ў ручай святла.

Мы дамовіліся аб ліставанні, узяўшы загадзя адрасы. Піліп папрасіў з мяне клятву, каб наведаў яго бацькоў, калі паштовыя галубы не даляцяць з войска.

Хіба мажліва было прадбачыць, што, сёння пагутарыўшы пра ідэі волі й свабоды, праз два гады размовы з Піліпам не адбудзецца. Па юнацкай наіўнасці верылі ў шчаслівую будучыню, якой не суджана здзейсніцца ў сяброўскіх мроях. Як мы памыляліся ў меркаваннях аматараў часаць языкі, што здольныя на салод-

кія абяцанні насуперак намаганням праўды. Ці знойдуцца мудрацы свету, якія не абыякавыя да чужых думак і праблемаў? Адказ недзе затрымаўся ў чыноўных норах — баюся, што застануся непачутым. Адно ясна: змяя рэчаіснасці адмаўляе пачэсныя задумы бедакоў, аддаючы перавагу магнатам хлусні.

Праз тыдзень, сябра апранулі ў зялёны мундзір танкіста, шырокія галіфэ, у кірзавыя боты ды чорны шлем і паслалі за межы роднай старонкі, у далёкія азіяцкія горы, дзе ўдзень смаліць сонца, а ўначы шалее вядзьмарказавіруха.

Раз на месяц у маім доме з'яўляліся радасныя нататкі механіка, калі з горным арлом — беркутам — ішлі аказіяй пісьмы. Не аднойчы Піліп забаўляў, што хутка адпусцяць у водпуск: маўляў, колькі салдата не частуй, кухар стоміцца ад нарыхтоўкі прысмакаў; маці ж задаволяць поспехі сына. Я пераконваўся ў прыездзе сябра ў сталіцу, калі зноў святочнымі стануць дні. Але якія б фантастычныя планы не будаваў, у свядомасці гудзелі імпульсы таго, што гэта быў апошні сход для двух аднадумцаў...

## 2

Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж. Нарэшце выбраўся ў Ляды. Кіламетровыя слупы мільгалі ліхтарамі турбот. Стройныя хвоі спявалі песні на жалобныя матывы. Бярозкі-красуні апрануліся ў лепшыя ўбранні, срэбранымі завушніцамі ззялі маленькія лісточкі. Доўгая дарога здавалася вандроўкай па легендарным краю.

Вось і вёсачка. Пяшчотная і ціхая. З дзесятак сядзіб упаўмесяцам глядзяць на рэчку. Дванаццаць хацін упрыгожваюць галоўную вуліцу. Шыбую па шырокім асфальтаваным гасцінцы. Насустрач ідзе паштар — дзядзька худы, сівы, як здранцвелы дубок на марозе.

— Здаравенькі быў!

— Дзень добры, чалавеча!

— Які настрой?

— Ні цукар, ні мёд.

— Дзе тут жывуць Дамашовы?

— Трэцяя хата адсюль, на рагу Сонечнай і Цэнтральнай.

— Дай Бог добрага здароўя вам!..

Двухпавярховы сіні драўляны дом, цагляныя хлеў, пуня, павець, з трохкутным дахам склеп — забудовы, што натхняюць мастакоў на пейзажы хараства прыроды. Шэрая ахайная агароджа адразу вылучае гаспадара з мясцовых майстроў на ўсе рукі, якому пад сілу падковы гнуць, абутак да ладу даводзіць, шнур араць — усё патрабуе мужчынскага вока. Нездарма паважаюць сяляне Захара Емельянавіча ў ваколіцах Лядаў; лепшага каваля не адшукаць на Бабруйшчыне. Вясёлы, гасцінны, славу старому прынеслі чараў спевы.

Ледзь дакрануўся да плоту — двор заліўся брэхам сабакі. Гляджу: бяжыць да веснічак Зміток — васьмігадовае дзіця Дамашовых. Ласкава шчабеча:

— Матулечка, татачка, да нас госцейкі прыехалі!..

Набліжаецца да мяне Захар Емельянавіч, высокі, каржакаваты мужчына. Сціпла гаворыць:

— Прывітанне, Антось! Стаміўся ў падарожжы? Працавітаму люду адчынены дзверы майго кураня.

— Так сабе.

— Якой навіной парадуеш?.. Калі ў адпачынак?

— Хваліцца не люблю, работа не дазваляе. Адпачынак па верасню сумуе.

— Слухай, Грак, калі й дзе сустракаў майго Піліпа?

— У Мінску перад прызывам, ля музычнага ліцэя. Пабалакалі... Дарэчы, потым перапісваліся. Ягоны архіў беражна захоўваю.

— Вось малайчына. Ажно на два фронты рупіўся. Эх, каб не страта сына, звінелі б вясёлкай вадэвілі, рамансы й маршы... Чаму мяне не паслухаўся, Пілiпка? Закарцела ведамі свет пераплюнуць, але позна...

— Няўжо? Што магло здарыцца? Меў намер яго чакаць у ліпені ў аэрапорце, бо чэрвеньскі дэмбель — вайскоўцаў у запас.

— Алена, дай сюды тэлеграму, што ўчора з газетамі прынеслі.

Мажная кабета накіравалася ў суседні пакой. Праз хвілін пяць чытаю белы аркуш, дзе друкаванымі літарамі скачуць у дзікунскім абліччы словы:

*«Паважаныя Захар Емельянавіч і Алена Сямёнаўна!*

*Ваш сын, шэрагавы Дамашоў Піліп загінуў смерцю мужных у Пянджы, абараняючы сховішча з паліvам Узброеных Сіл Расеі. Паведамляем, што байцу Дамашову П.Е. пасмяротна прысвоена званне яфрэйтар і Залатая Зорка Героя Расеі. Шчыра спачуваем Вашаму гору.*

*Камандзір танкавага палка маёр Барада.*

*29 чэрвеня 1995 года».*

Тэлеграма з маіх рук упала на падлогу.

У скронях загрукатала жалеззем.

Вайна! Пяць жудасных гукаў, за якімі схваны смерць блізкіх, нясцерпныя пакуты бацькоў, бясконцая і тупая, як дзіравы бот, страляніна, незгасальныя выбухі адчаю, узнясенне да нябёсаў поспехамі рыцарскіх турніраў на лакмусавай паперы прыдворных палкаводцаў, адсутнасць адказнасці міру перад нашчадкамі, холад, голад, абурэнне салдат, якія не ведаюць, для чаго і дзеля чаго іх, былых разьбяроў, муляроў, аратых, настаўнікаў, рабочых, трактарыстаў кідаюць у сутыкненне з пякельным агнём жахаў, з чаго маці набываюць сівізну ў ва-

ласы, жонкі — нядолю ўдоў, дзецям наканавана асэнсоўваць сіроцтва, бацькі застаюцца без надзейнай апоры на старасць...

Даруй, Пиліпе, што не змог выратаваць цябе ад крывавых прывідаў рэкрутчыны.

## БЯСКОНЦЫЯ ХІТРЫКІ

Габруся Цэдліка ведалі шмат жыхароў Мінску і бліжэйшых ваколіцаў. Прычынай павышанай увагі й сумнеўнай славы служыла тое, што Цэдлік з'яўляўся прафесійным спецыялістам па скаргах. Не падумайце, шаноўныя, быццам ён разбіраў спрэчныя і заблытаныя сітуацыі месцічаў, даваў пытлю неслухам, невукам ды іншым падшыванцам. Спадар Цэдлік выкарыстоўваў скаргі, каб палепшыць сваё матэрыяльнае, фізіялагічнае і духоўнае становішча. Зразумела, са скандальным характарам ад прыгодаў і цікавых здарэнняў не ўцячэш, апошнія могуць дагнаць і з цягам часу выставіць у смешным выглядзе заўзятара інтрыг, канфліктаў і непаразуменняў. Але Габрусь з падобнымі дробязямі не лічыўся: маўляў, неяк яго абмінуць, адно не трэба губляць пільнасці й трымаць вушы так, адкуль дзьме вецер.

Дзівацтвы Цэдліка заключаліся ў тым, што прыкладзі ён трошкі ўласных намаганняў пры вырашэнні разнастайных праблемаў, і злавацца, і абурацца няма чаго. Аднак Габрусь любіў чужымі рукамі хапаць за хвост славу, у выніку чаго губляў цярпенне і быў пачынальнікам усялякіх глупстваў.

Неяк Цэдлік набыў у шапіку «Белсаюздруку» часопіс па правазнаўстве, прынёс яго дадому. Пачаў гартаць крыніцу ведаў і раптам заўважыў: на некалькіх старонках — звычайныя белыя плямы. Задумаўся Габрусь:

куды падзеліся патрэбныя факты? Гэта ж, нібыта літары, словы й сказы карова паспрабавала. На ягоным месцы кожны разумны чалавек патэлефанаваў бы ў друкарню, папрасіў замяніць асобнік больш якасным, патраціў бы гадзіну-другую, каб выправіць недарэчнасць палюбоўна і без асаблівага шуму. Зусім інакш зрабіў наш герой. Ён вярнуўся да кіёска, аблаяў гандляра перыёдыкай вельмі моцна, што не варта ўзгадваць у апавяданні, накатаў на адным дыханні скаргу да больш высокага начальства, якое папрасіў прыціснуць адміністрацыйным рычагом сціплага работніка. Адчуваючы пэўную перамогу ў дасягненні аднаму яму вядомых мэтаў, уступіў у палеміку з супрацоўнікамі выдання...

Скончыўся канфлікт не на карысць мацюгальніка: рэдактары папярэдзілі, што аддадуць Цэдліка ў рукі дактароў псіхічнае лякарні, калі не супакоіцца цягам аднаго тыдня. Пасля вышэй згаданага прыкрага выпадку прадстаўнікі сферы абслугоўвання і гандлю пачалі называць Габруся чортам, сатаной, нячыстай сілай і шэрагам іншых мянушак, якія, на жаль, не захавала гісторыя.

Канешне, нягледзячы на магчымыя наступствы, Цэдлік не збіраўся спыняцца — наадварот, шукаў ідэі для новых дурнотаў, каб ашукваць даверлівых грамадзянаў. Завітаў прайдзісвет у аддзяленне банку з мэтай памяняць зашмальцаваную банкноту ў сотню вечна зялёных даляраў на беларускія рублі. Неспадзяванку сустрэў: чарга ў касу вялікая, стаяць няма ахвоты, а першым прасунуцца не атрымалася. Таму ён, скарыстаўшы момант, пачаў гандляваць месцамі ў чарзе. Адным словам, авантурнае дзеянне прынесла Цэдліку выдатны настрой, хвалю азарту ды значную колькасць даляраў прэміяльных. Але не паспеў круцель асэнсаваць асалоду ад адносна лёгкага махлярства, як нашага героя асцярожна выцягнулі за рукі з натоўпу міліцыянты

на ганак, пагрозліва махаючы велізарнымі кулакамі й не меншымі кіямі, абяцаючы па дарозе паказаць, дзе ракі зімуюць і ліха адпачывае. Нездарма кажуць, што ад раю да пекла — адзін маленькі крок, а здзяйсняць грахі ў заўсёды спакуслівым свеце каму толькі не хочацца. Апынуўся Цэдлік у пастарунку, ледзь не трапіў у парушальнікі закону, і замест пакарання заплаціў штраф са свайго нечаканага прыбытку.

Крыху сцішыўся Габрусь: навошта шматкроць свяціцца, калі вынікі прыносяць больш непрыемнасцяў, чымсьці якой-небудзь выгоды. Доўга і сур'ёзна разважаў вопытны майстар кепікаў, скандалаў, шукаючы занятак для заўсёды нястрыманай душы, жадаючы адначасова пажыць за чужы кошт і памянташыць языком. Нават сябрукі па бутэльцы, знаёмыя па круцельстве і ахвяры папярэдніх выбрыкаў прыкмецілі: кудысьці знік Габрусь Цэдлік без следу. Думалі ўжо, што пастка зачынілася і ад ашуканца засталіся хіба толькі ўспаміны.

Іншыя меркавалі: Цэдліка за рогі не возьме аніякі шальмец, і таму ён калісьці дасягне вяршынь багацця. Якім чынам?

За два месяцы запар у розных рэкламных выданнях з'явіліся фантастычныя абвесткі пэўнага зместу:

«Фірма «Сквапнасць» прапануе грамадзянам карысныя віды паслуг за невялікую плату, а менавіта:

збрахаць лепш за сабаку;
падкласці свінню, магчыма і парсюка;
забяспечыць алібі на ўсе выпадкі жыцця;
каўтнуць на траіх;
зірнуць крывым вокам, што і дзе кепска ляжыць;
зашмат іншага...

Выдаткі прымаюцца ў любой паўнавартаснай валюце. Наяўны й безнаяўны разлік. Тэлефон 110-08-87, званіць у любы час сутак. Не пашкадуеце!»

Вядома, раскруціўся Цэдлік сур'ёзна, не горш за славутага Астапа Ібрагімавіча. За які тыдзень зарабляе значна больш, чым людзі з чыстым сумленнем і самаахвярнай душой.

Аднак яго безмяцежнае сэрца часам скубуць чорныя коткі. Сны ліхвярскія пачварамі размаітымі палохаюць, запрашаючы падзяліцца па справядлівасці з працаўнікамі мазаля, гарба ды інтэлекту. Усведамляе хітруган магчымую небяспеку, варушыць звілінамі — каму, як і колькі ў лапу даць, каб адчапіліся з бязглуздымі праверкамі-інспекцыямі. Дагэтуль сухім выходзіць з агню і вады...

Ці варта браць жыццёвы прыклад з Габруся Цэдліка? Няхай пра гэта падумае разважлівы чытач сам.

## БЯССОННАЯ НОЧ

Кажуць, незвычайнае сустракаецца хіба толькі ў казках, а на яве праяўляецца жорсткая рэальнасць. Так гэта ці не, няхай разважаюць на здароўе філосафы й грамадазнаўцы, а мы паслухаем іхнія меркаванні.

Шанцавала Алегу Зубчаку церабіць досыць складанымі жыццёвымі шляхамі: рана застаўся без бацькі, а яго і малодшых братоў выхоўвалі матуля з бабуляй. Калісьці ў дзяцінстве дзіўнае захапленне выклікала вершаваная казка Алеся Якімовіча «Каваль-вернідуб», пасля чаго сур'ёзна зацікавіўся роднай старонкай, яе мовай, фальклорам, літаратурай...

Паспяхова вучыўся ў школе, быў сталым наведвальнікам спачатку школьнай, раённай дзіцячай, а потым і цэнтральнай гарадской бібліятэк сталіцы. Імкненне спазнаць таямніцы беларускай душы прывяло Алега на філалагічны факультэт БДУ, які наш герой скончыў без асаблівых праблемаў. Праз нейкі час, прыкладна праз

год, стаў суіскальнікам у аспірантуры. Нельга сказаць, што Алег не трапляў у розныя здарэнні: гэтага багацця на наш век хопіць і яшчэ застанецца. Калі не ўяўляеш жыцця без прыгодаў, апошнія прычэпяцца без твайго дазволу, аднак варта паказаць, на што ты здатны, і ад недарэчнасцяў застануцца рожкі ды ножкі.

Вядома, вакацыі малады чалавек праводзіў на лецішчы, да якога з Мінску рукой падаць. Няма больш прыемнага адпачынку, чым на ўлонні прыроды: свежае паветра, чыстыя крыніцы, адносна ўрадлівая глеба, спакойныя суседзі... Здавалася Алегу, быццам правядзе лета 200... года, як і было раней, калі б не яго вялікасць выпадак.

За дзень чаго толькі не зрабіў юнак: парэчкі й вішні сабраў, дровы пакалоў, папілаваў і склаў пад павець, пустазелле з каранямі прапалоў, каларадзікаў з бульбы пазганяў, адным словам, куды вокам не кінь на соткі — занятак можна знайсці па душы, мелася б цярпенне і жаданне змяніць свет у лепшы бок.

Паціху набліжаўся вечар, а сонечныя промні толькі асвятлялі зямлю, але не саргавалі яе. Павольна дзьмуў свавольнік-вятрыска. Неяк спакуслівa шумела лісце дрэў і кустоўя, быццам падказваючы маладому чалавеку не губляць пільнасці.

Аднак Алегу да небяспек не прывыкаць, за свае дваццаць пяць гадоў давялося шмат пабачыць і перажыць: пакуты адзіноцтва, звязаныя са смерцю бацькі пасля чарнобыльскай навалы; няўдалае каханне, калі нібыта Алегава сяброўка Ганулля пакінула хлопца сумаваць па прычыне таго, што ён пакуль не дасягнуў росквіту багацця вядомых дзялкоў; адказнасць за гаспадарку цалкам легла на ягоныя плечы... Маладзён трывала вытрымаў разматыя выпрабаванні часу, не скарыўся ліхадзеям і вар'ятам.

Цямнела. Змрок ахутваў вуліцу за вуліцай таварыства дачнікаў «Прамень надзеі». Запальваліся ліхтары ў сціплых доміках інтэлігентаў і значна ганарлівых цагельнях больш заможных грамадзянаў. Вечар змяняўся ноччу, цёмнай, з поўнай адсутнасцю зорак на небе, няўпэўненай і чымсьці таямнічай.

Пасля працяглага працоўнага дня малады аспірант заснуў трывожным сном. Ледзь паспеў пакласці галаву на падушку, як пачуў цікавую размову нейкіх злыдняў.

— Гэй, Сівы, тут столькі хат, якую прапануеш падняць!

— А хіба ёсць які-небудзь каштоўны выбар у пасёлку навукоўцаў? — насцярожана запытаў саўдзельнік Віцька Цяльпук.

— Паглядзі ўважліва на гэткую вулку: налева — тупік, направа — таксама, праз агароды дачнікаў убачым калгаснае поле, побач — лес... Пазіцыя выгадная — што днём, што ноччу! Бяры, не хачу, — настойліва пераконваў аматара заліць за каўнер Грышка Сівы.

— Ці не ляснуць па нас з гарматы абуджаныя гаспадары сотак? Яшчэ па шыі дадуць неспадзявана, — занепакоіўся Цяльпук.

— Не бяры да галавы ўсякае глупства — можа, гэта наш шанц выбіцца ў людзі, — з рашучай самаўпэўненасцю супакойваў паплечніка Грышка.

— Перад намі — пяць хібар. Самая сціплая — там за гаспадара прафесар, ён амаль жабрак. Другая, нядаўна адрамантаваная, належыць заможнаму камерсанту. Туды лезці няма жадання: аўчаркі разарвуць на шматкі. Побач — домік сантэхніка, больш-менш прывабны, але гэты чалавек не любіць няпрошаных гасцей. Як вынік: адзін паварот кулака — і ты ў бальніцы загараеш, у леп-

шым выпадку. Па суседстве з сантэхнікам жыве адстаўны вайсковы капітан, можна да яго завітаць — падзеліцца бутэлькай, калі ў добрым настроі, а калі — не, тады пакажа кузькіну маці.

— Мы забылі пра студэнта ці навукоўца, уладанні якога мяжуюць з фазэндамі прафесара і былога ваякі. Нарэшце, знайшоўся дастойны кандыдат — накіруем туды лапці, дзе пажывіцца не грэшна,— весела загаманіў Грышка, завадатар набегаў на чужыя сады, агароды й дачы, непрызнаны майстар апахмелу і агідных выбрыкаў.

Злодзеі шуганулі па градках, мяркуючы больш падрабязна даследаваць аб'ект крадзяжу. Грукалі па шкле, па дашчаных сценках хаты, зусім не падазраючы аб тым, што гаспадару сталі вядомыя планы бадзяг з вялікага гасцінца.

«Пачалося паляванне, але пастка замкнецца на іх саміх. Сустрэну дзікуноў належным чынам, каб не шукалі лёгкага хлеба і таннага спірту». Бадзёра падрыхтаваўся да блізкай бataліі Алег, выдатна асэнсоўваючы, што ад яго дзеянняў залежыць спакой і дабрабыт суседзяў. Дзякуй Богу, інвентар пад рукой, а спрыту і жвавасці маладому чалавеку ні ў кога пазычаць не трэба.

Як толькі Грышка закалупаўся ў замку хаты Зубчакоў, дзверы ў імгненне вока адкрыліся, і грабежнік з хуткасцю маланкі адляцеў на градку з цыбуляй. Віцька пацягнуўся ў дом Алега, але з будынку тут жа няспешна і выпаўз, скурчыўшыся ад болю — рэзкага, пякучага. Нечаканасцю для п'янтосаў стала трагікамічнае відовішча: хлопец трымаў іх на мушцы карабіна, абяцаючы ператварыць у сіта з безліччу дзірак, калі Цяльпук і Сівы яшчэ раз ажыццявяць напад на паселішча мірных садаводаў. Бандыты зараўлі гучна, збянтэжана, бездапаможна.

На лямант злыдняў збягаліся суседзі Алега. Дзядуля-прафесар па мабільнай сувязі выклікаў падмацаванне. Адстаўны капітан дзядзька Сямён прыбег з паляўнічай стрэльбай. Сантэхнік Міхась ішоў спакойна, стрымана, перакідваючы з рукі ў руку вялікі ключ, які гатоў быў пры неабходнасці апусціць на галовы ачмурэлых ад гарэлцы ашаломкаў. Прадпрымальнік Ігар ішоў з чорным нямецкім аўчарыкам, апошні брахаў так, быццам шумеў цягнік з грузам жалезных бочак. Зразумела, на тварах Сівога і Цяльпука адчувалася незадаволенасць, бо яны апынуліся ў ролі пераможаных, а не пераможцаў, як на тое спадзяваліся..

Мужчыны маўкліва сцягнулі са злачынцаў штаны, адсцябалі дубцамі, і так, без вопраткі, адпусцілі...

Кароткая, амаль бяссонная, чорная летняя ноч паступова аддавала правы светлай раніцы.

## ГАНАРОВЫ ХАБАРНІК

І зараз вядуцца спрэчкі адносна таго, што з'явілася раней: незаслужаная ўзнагарода патрапіла ў чыесьці брудныя лапы ці гэта былі шматхадовыя камбінацыі махлярства. Працяг няпэўнага становішча вызначыць можа Гасподзь Бог і Панна Гісторыя, калі незайдросныя факты трапяць на яе справядлівую спіраль.

Ці ведаеце вы Севу Чыстаплюя з Сонечнай вуліцы? Шкада, калі не. Нічога, будзеце яшчэ мець гонар пазнаёміцца з ім.

З пяшчотнага маленства ён засвоіў жыццёвы прынцып: рука руку грэе, трэба ўмець прасіць, астатняе з цягам часу папоўніць кашалёк ці наблізіць да нейкіх спакусаў. У школьныя гады Сева не саромеўся спісваць у сяброў-аднакласнікаў кантрольныя па матэматыцы, ла-

бараторныя па фізіцы й хіміі, дыктанты, пераказы па роднай мове...

Так і вучыўся Чыстаплюй, праціраючы штаны за партай. Не навучанне, а радасць: сваім розумам і блізка не варушыў, а выязджаў за кошт іншых. Неяк давучыўся да дзевятага класа, экзамены ледзь здаў на адны траякі, больш усё роўна не атрымалася б. Упершыню ўзнікла праблема перад Севам, што рабіць далей: ісці ў ПТВ ці каледж, ці на вольныя хлябы накіравацца?..

Пачухаўшы патыліцу, ён навастрыў лыжы ў вучэльню, дзе рыхтуюць кіроўцаў аўтамабіляў. Зноў для Севы пачаўся адносны рай: з тэорыяй не надта сябраваў, а практычныя заняткі наведваў ахвотна. Юнак сцяміў, што без ведаў нікуды не даедзеш, таму без цяжкасцяў скончыў ПТВ, зразумела, з зусім не выдатнымі вынікамі.

Затым не без бацькавай дапамогі трапіў у сцены фінансавага каледжа. Паколькі вучоба не падабалася Чыстаплюю, то за яго рэфераты, кантрольныя ды курсавыя выконвалі прафесіяналы ад навукі. Скончыліся пакуты нашага героя: на адзін дыплом памножыўся скарб будучага авантурыста і хабарніка.

Пачаліся працоўныя будні. Па знаёмстве Сева Чыстаплюй заняў месца дырэктара гаспадарчай крамы на ўскрайку сталіцы. Зводзіў дэбет з крэдытам, а сальда ляцела ў кішэню, ясна, не ў дзяржаўную, а ў сваю. Нажыўся за якія шэсць месяцаў так удала, што забяспечыў сябе і сваякоў на добрыя пяцьдзесят гадоў бязбеднага жыцця.

Аднак на кожную рыбу свой крук знойдзецца. Чыстаплюя падаткавая інспекцыя за жабры схапіла, дзесятая частка прыбытку пайшла на штрафы, прэтэнзіі ды на розныя ўлагоджванні.

Наступным захапленнем, а потым і часовай пра-

цай з'явіліся спробы Чыстаплюя атабарыцца ў складзе адыёзнай партыі. Уплывовыя людзі даверылі яму весці бухгалтэрыю — адным словам, фінансы запелі рамансы на самай высокай актаве. Усё было б добра, але ў арганізацыі бясконца змагаліся за партфелі ды камандзірскі жэзл. Таму Чыстаплюю з радасцю паказалі на адчыненыя ў пустэчу дзверы.

Засумаваў ліхі чалавек: трэба ж так упарта паўзці ўгару, каб з касмічнай хуткасцю ляцець уніз. Час назад не павернеш, і Сева перабраўся на аўтабазу, дзе працуе кіроўцам грузавіка па вывазу смецця з кантэйнераў.

Зноў Фартуна ўсміхнулася хлопцу — пашанцавала зачапіцца за адносна неблагі маршрут, на якім, быццам у казцы, і булкі, і кумпячкі, і селядцы, і чырвонае віно... Усяго гэтага дабра — не абрацца. Дастаткова Севу пад'ехаць да пэўнага прадпрыемства, націснуць на клаксон, як перад ім з'яўляецца натоўп залежнікаў. І Сева падымае лямант не горш за ерыхонскую трубу:

— Людзі добрыя! Частуйце, чым можаце, інакш бруд застанецца на вашым сумленні!

Бяды ніхто не хоча, грошы таксама лішнія не бываюць, а з Чыстаплюя, што з качара вада, — пакуль сухім застаецца. Толькі як доўга ён будзе хабарам жыць, меркаваць цяжка.

## КАРОТКІ ШЛЯХ НА ПЕНСІЮ

**М**айстар Мікола Церпа удумліва і памяркоўна разважаў, якім чынам сустрэць прадстаўнічую і вельмі агрэсіўную праверку. Мужчына ведаў: яго падначаленыя сумленна працуюць, дапамагаюць жыхарам дзевяціпавярховікаў і меншых дамкоў адчуваць камфорт, зацікаўленнасць, клопат з боку ЖЭСу. Мікола заўсёды ўхіляў-

ся ад канфліктаў і спрэчак, у выніку чаго аўтарытэт амаль трох дзесяткаў ягоных супрацоўнікаў і нашага героя ўзрастаў, гэта і радавала.

У мікрараёне не сумняваліся: праравецца водаправодная труба, пачнуць надрыўным рогатам ляскаць краны, на электрычнасць якая-небудзь трасца пасунецца, нечакана забрудзяць смеццем пасля гульбішчаў п'яных падлеткаў пад'езды, — тэлефануйце, калі ласка, Міколу. Выратаванне хутка паспее. На працягу некалькіх хвілінаў з'явяцца сантэхнікі, зваршчыкі, электрыкі, прыбіральшчыцы, давядуць да ладу сапсаваныя ці зламаныя агрэгаты, прыбяруць да бляску памяшканні... Адным словам, навокал запануе дабрабыт.

Узгадайма бездакорную дзейнасць дворнічых і прыбіральшчыц, пераважную большасць якіх складалі прыгожыя, працавітыя дзяўчаты, спакушальныя маладзіцы й сталыя кабеты. Ад іх працы, цяжкай, рызыкоўнай, бо ніколі не ведаеш, з якім д'яблам ці маньякам можна сутыкнуцца на лесвіцы, залежыць дабрабыт грамадства.

Вясной, летам, восенню яны ледзь не тонамі прыбіралі друз, а ўзімку яшчэ даводзілася чысціць снег, збіваць скрабкамі лёд, сыпаць пясочак на ходнікі, каб суайчыннікі маглі хадзіць без бояззі трапіць да дактароў.

Майстар разумеў, што асабліва хваліцца няма прычын: у яго на ўчастку парадак падтрымліваецца, дзякуй Богу, ды ўсе калегі зацікаўлены, каб меней існавала скаргаў, непаразуменняў. Толькі для нябеснай канцылярыі аніякія законы не пішуцца.

Сэрца Церпы скалынулі яскравыя ўспаміны: у дзяцінстве спасцігаў дакладныя навукі, вельмі любіў фізічныя вопыты і хімічныя практычныя заняткі, у тэхнікуме праславіў сваё прозвішча пэўнымі ўдасканаленнямі па электрарухавіках і сантэхніцы, два гады аддаў войску, по-

тым — працяг вучобы ў Політэхнічным інстытуце, і, як вынік, — годнасць інжынера і працаголіка.

Дзе толькі не давялося Міколу рупіцца: і на электрамеханічным заводзе зборшчыкам абсталявання, у аўтасэрвісе — рамонтнікам. Нарэшце, пашанцавала: дзесяты год майстрам у ЖЭСе. І не шкадуе. Шчаслівы муж, спакойны бацька, абачлівы начальнік...

Цішыню раптоўна парушыў тэлефонны званок.

— Мікола Ўладзіміравіч, надвор'е рэзка пагаршаецца, чаго толькі не абяцалі: дождж, моцны вецер, вялікі снег. Наша брыгада будзе змагацца, пакуль сонейка не схаваецца за небасхіл.

— Святлана, чакаем няпрошаных гасцей, каб на іх ліха, у гэную пагоду разумны гаспадар не выставіць сабаку на двор... Верагодна, да нас нячысцік нахопіцца.

— Трымаемся надалей. Сустрэнем... Не бярыце да галавы, шаноўны Мікола, і значна горшых перавыхоўвалі, — паведаміла дзяўчына.

— Не вешаць нос, бяда сама ўцячэ, — падбадзёрыў брыгадзіра Церпа.

Пачуліся цяжкія крокі ў пад'ездзе, жалезныя дзверы прыёмнай нашага героя жалобна загаманілі. Неўзабаве сюды завітала Прузына Кашчэева, вялікі аматар кантролю над усімі й кожным. Яна прыдзірліва ставілася да тых людзей, якімі кіравала, часта грэбавала меркаваннямі іншых, без усялякай нагоды пазбаўляла прэміяльных, заробкаў, нават выганяла са службы тых, каму не падабаўся яе жудасны стыль кіравання. Агульную мову з Прузынай знайсці было складана, паколькі лічыла сябе адмысловым спецыялістам і пішчом лезла ва ўсе дзіркі, а мацюгалася так моцна, што магла замяніць узвод п'янтосаў каля крамы.

Выглядала Кашчэева не надта, аднак знешнасць кідалася ў вочы: доўгае і дарагое футра, высокія карыч-

невыя боты з тонкім абцасам, чорныя скураныя штаны, махнаты капялюш, падобны на птушынае гняздоўе. Незадаволенасць твару надавалі пафарбаваныя чырвоным колерам вусны, чорныя вочы ззялі пякельным агнём, вельмі ваяўнічым быў ейны позірк.

Асаблівую нянавісць мела Прузына да мужчын, незалежна ад таго, з'яўляліся тыя халасцякамі, жанацікамі ці разведзенымі. Невядома нам, чаму муж Кашчэевай не вытрымаў папрокаў, здзекаў і знявагі ад яе дый навастрыў лыжы да больш разважлівай асобы. Ледзь стрымлівала сябе, каб не пайсці ў лабавую атаку на Міколу. А ён павітаўся з ёй і прапанаваў адпачыць. Пасля пазнаёміў з дакументацыяй і чакаў, што будзе далей.

Скончылася цярпенне мажнай кабеты — палезла на ражон да майстра:

— І чаго вам не хапае, спадар Церпа?

— Я цалкам задаволены тым, што маю. З ранку да вечара кручуся, як вавёрка ў коле, і жывы, здаровы. Таго і вам, Прузына Маркаўна, зычу.

— Чаму маіх загадаў не выконваеш, палову лайдакоў трымаеш, не ганяеш іх, як трэба?

— Да мяне гультаі ды ашавуркі розныя самі ісці не хочуць, бо няма ў іх жадання-радасці да заняткаў карысных.

— Колькі вакол цябе спадніц завіхаецца?

— Адна жонка любая, якой я ўдзячны за вернасць і паводзіны сумленныя.

— Не ўцяміў, відаць? Я пра тваіх работніц кажу.

— Удакладняйце пытанні, Прузына Маркаўна, і праблем не будзе. На падначаленых скардзіцца няма прычыны: навошта іх залішне турбаваць, калі яны на ўсе рукі майстры й майстрыхі?

— Хацелася б на іх паглядзець — ці праўду гаворыш.

— Хлусам ніколі не быў, а ісціну ў мяху не схаваеш.

— Дык паказвай гаспадарку, не цягні ката за хвост!

— Калі ласка, у добры шлях.

Шыбуюць Мікола Церпа з Прузынай Кашчэевай няспешна, бо слізка, холадна і няўтульна. Бачаць, што Святлана і яе памочніцы адчайна адольваюць стыхійнае бедства — вычышчаюць ад лёду і снегу ходнікі, дарожкі ля пад'ездаў, завулак для аўтааматараў... Зачэпкі для канфліктаў няма, папрокаў тым больш.

Нешта незвычайнае здарылася з правяраючай, закарцела ўладу паказаць — на Міколу, Святлану і іншых сполаху нагнаць. Залямантавала так, што глухі пачуе, сляпы відушчым стане.

— Зірніце на гадзіннік, каралевы венікаў і швабраў: няўжо дома вас ніхто не трымае?!.

Вясёлы шчыры смех збіў яе з панталыку, а рэплікі рабочых ледзь не сталі прычынай страты прытомнасці для Прузыны.

— Жаданні дбаць пра бліжніх, не гнявіць Бога і людзей, выкладвацца на сто працэнтаў і болей...

— Змяніце футра на скрабло, тады паглядзім, да чаго вы здатныя.

— Лёгка языком кіраваць, ды цяжка працаваць.

— І за малы заробак вялікія справы здзяйсняюцца.

— Не шукайце яміну для нас, каб самі там не апынуліся.

— Па дурной галоўцы пачастуем рыдлёўкай...

На Кашчэеву дрыжыкі набеглі, яна паціху асэнсоўвае: занадта крута паступіла, крыкам сябе зганьбіш, яшчэ адзін грэх прыбавіцца — няўжо лепшых спосабаў няма?

Пад гару ўзбіралася, падэшва ботаў сыграла злы

жарт і згубіла раўнавагу — у гурбу заляцела. На паратунак паклікала. Выцягнуў яе Мікола з бяды, адразу літасці папрасіла за зусім не зразумелыя паводзіны й дзікунскія ўчынкі.

Брыгадзе Святланы дырэктар ЖЭСу выпісаў павышаную прэмію за экстрэмальныя ўмовы працы, а цярпенне Міколы было ўзнагароджана каштоўным падарункам.

Так Прузына Маркаўна Кашчэева дасягнула вяршынь крыху інакш: самым кароткім шляхам адправілі яе на пенсію нервы лячыць.

## СУД У БЕРАЖКАХ

Мадэст Нупрэйчык сябе Астапам Бэндэрам ніколі не лічыў, хоць падмануць мог і чорта з ляснoй багны...

Калі чалавек хваліцца любіць і не трымае сваіх слоў, зразумела, не кожны паверыць яму. Але наш герой пераканаў грамадзян у адваротным. Вы спытаеце, а як гэта ўдалося Нупрэйчыку? Адказ зусім просты: з неблагім дыпломам фінансіста, гнуткасцю розума ды сквапнасцю да бляску золата за імгненне не такія авантурныя выбрыкі плануюцца, а потым і здзяйсняюцца.

Часта туляючыся па вёсках, мястэчках і гарадах Беларусі, Мадэст ганарыўся, што забяспечыць дастойнае жыццё юнакам і дзяўчатам, калі моладзь пералічыць грошы й стане сябрамі ўтворанай ім арганізацыі. Нават пра назву паклапаціўся будучы бізнесмен: неўзабаве ўзнікла таварыства «Абяцанкі-цацанкі».

Вядома, Нупрэйчык адчуваў, што дасягнуў вяршынь славы й дабрабыту: рэклама пра «Абяцанкі-цацанкі» друкавалася ў газетах. Мадэст набыў шыкоўны

лімузін, пабудаваў велізарны палац у гатычным стылі, навербаваў у паплечнікі жадаючых засвоіць прафесію кар'ерыста і лізаблюда. Здавалася, працяг вясёлай гісторыі нічым асаблівым не вызначыцца, калі б не раптоўны выпадак...

Пасля «ліхіх» гастроляў у вёсцы Беражкі, дзе аблапошыў да ніткі й малых, і старых, махляр дапяў: чакаць літасці ад сялянскага абурэння — марная трата часу і рызыкоўны занятак для чорнай душы. Ведаючы, што пакрыўджаныя вяскоўцы жарты ладзіць не збіраюцца, ён вырашыў за лепшы паратунак уцячы на возера Нарач. Дзелавы чалавек спадзяваўся, што за трыста кіламетраў ад Беражкоў яго не дастануць мазольныя рукі.

З касмічнай хуткасцю ляцеў па бальшаку Мадэст на «Міцубісі», ажно з-пад колаў сыпаліся іскры, быццам апілкі ад цыркулярнай пілы. Махляр заўважыў, што яму насустрач едуць грузавікі з бярвеннем. «Камусьці пашанцавала мець матэрыял на зруб. Някепска замовіць слова, каб прыдбаць круглякоў на лазню», — натхнёна прашаптаў аматар пагуляць за чужы кошт.

Але мары Нупрэйчыка не ажыццявіліся: ягоны аўтамабіль сутыкнуўся з прыдарожным тэлеграфным слупом, які мірна стаяў пры шашы. Цяпер Мадэсту не да смеху, калі жалезны конь рамонту не падлягае, а ў гаспадара легкавіка ледзь сэрца ў пяту не збегла ад жаху. Шкада, што рацыю дома забыў, памочнікі з неба не зваляцца, колькі горла не дзяры.

На сваё шчасце, вялікі камбінатар прыкмеціў старога паляўнічага Мікіту, спакойнага і памяркоўнага дзядка са стрэльбаю за плячыма. З ім быў і дванаццацігадовы ўнук Апанас. Пачуў ён іх цікавую размову:

— Што ж скажа бабуля Ганна, убачыўшы нас без трафеяў?

— Не заўсёды людзям шанцуе.

— Дзядуля, паглядзі, там нехта трапіў у аварыю.

— Выратуем небараку.

З гэтае нагоды ўзрадаваўся Мадэст Нупрэйчык, залямантаваў:

— Людцы добрыя, выцягніце з пякельнага металу!..

Умомант Мікіта з Апанасам дапамаглі няўдачніку.

— Чым жа вас аддзячыць, слаўныя хлопцы? — запытаў хітруга.

— Скажыце, з кім мы пазнаёміліся? — папрасіў дзед Мікіта.

— Са старшынёй таварыства «Абяцанкі-цацанкі» панам Мадэстам, заможным і ўплывовым чалавекам, — упэўнена сцвердзіў Нупрэйчык.

— Прайдзісветам і драпежнікам, злыднем і рабаўнікам, — дапоўніў нечакана Апанас.

— Маўчаць! — раззлаваўся круцель.

Прагучалі два стрэлы ў паветра. Мікіта папярэдзіў сваякоў, каб сустракалі нечаканага госця. Праз некалькі хвілінаў звязанага нахабніка паклалі ў грузавік.

Мінулі тры гадзіны.

Апынуўся дзялок сярод жыхароў Беражкоў. Чухаў патыліцу Мадэст, асэнсоўваючы сваё складанае становішча, акружаны з усіх бакоў узбуджанай вясковай грамадой. Награшыў, што больш нікому не пажадае ашукваць.

Беражкоўцы часу не гублялі: рыхтаваліся судзіць нягодніка, каб іншых адвучыць хлусіць ды ў чужы кашалёк заглядваць. Сабралася рада дзядоў, запрасіла вясковага старасту — яны й вызначылі лёс аферыста: прымусова падзяліцца фінансамі з ахвярамі правінцыйнага МММ, інакш звернуцца да ўчастковага міліцыянта.

Даў волю кулакам упарты Мадэст, аднак моцна памыліўся. Збілі яго на горкі яблык мужыкі, запэўніўшы, што памагатых яго разгоняць пры першай магчымасці. Мала таго, у сажалку на перавыхаванне кінулі пана Мадэста...

Хапіла прыгодаў у Нупрэйчыка: зараз ён працуе сціплым рахункаводам у горадзе, зорак з неба не ловіць, але старымі справамі ўжо не займаецца.

## ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ ДА ЗОР

Міхась Карчэўскі — чалавек бывалы. За свае трыццаць з хвосцікам зведаў благое і добрае. Не так даўно, пасля здачы іспытаў атрымаў ступень кандыдата тэхнічных навук, уласнае прозвішча праславіў разнастайнымі вынаходніцтвамі: удасканаленнем магутнасці электрарухавіка такарнага варштата, пабудовай арыгінальнага коміна ў катэджы сучаснага заможнага чалавека, пасля чаго заказы сыпаліся быццам з рога абаранкі. Шмат можна пералічыць яшчэ рэчаў і прадметаў, якія з безнадзейнага стану, вартымі хіба сметніка, давёў да ладу наш герой, апошнія маглі канкурыраваць з новымі. Рацыяналізатарскія ідэі прыносілі карысць вядучаму інжынеру з навукова-даследчага інстытута. Нечаканым бедствам для Міхася стала інфляцыя і закрыццё ўстановы з-за недахопу фінансаў, дзе ягоны талент не згасаў ні на хвіліну.

Міхась Карчэўскі — не аматар сядзець рукі склаўшы, таму давялося ў пошуках заробку і шчаслівай долі паваандраваць па Польшчы, па Расеі, дый на радзіме знаходзіў заяўкі, звязаныя з рамонтам, цікавымі доследамі ў машынабудаванні. Адным словам, адчуваў сябе спакойна і ўпэўнена, мяркуючы з часам заняцца прыватным бізнесам. Падлічыўшы здабыткі, нажытыя інтэлек-

там і мазалём, у прыгарадзе беларускай сталіцы прыдбаў невялікі цагельны дом з гаражом, майстэрняй і сарака соткамі, запрасіў бацькоў з няўтульнай хрушчоўкі да сябе, значную суму замежнай і айчыннай валюты паклаў на банкаўскі рахунак: запас бяды не чыніць.

Пры дапамозе сваякоў і сяброў адшукаў на аўтарынку ў Малінаўцы прыгожы белы «Фальксваген», зарэгістраваў легкавік у ДАІ.

Каб мець пасведчанне прыватнага прадпрымальніка з ліцэнзіяй на пасажырскія перавозкі, трэба стаць заўсёднікам з дзесятак, калі не больш, чыноўных пакояў, не губляць цярпенне і перамагчы перашкоды настойлівасцю і мужнасцю.

На сустрэчу з уладарамі тлустых жыватоў з пустымі рукамі не пойдзеш, бо ў царстве папяровых рашэнняў заблукаеш у невядомым накірунку. Міхась са стосам даведак з выканкаму, падатковай службы, страхавой кампаніі, з пасведчаннем кіроўцы ўсіх катэгорый, з медычнай характарыстыкай, з дакументам ад участковага міліцыянта, што па судах і пастарунках не цягаўся, смела рушыў наперад. Разгледзелі хадайніцтва вынаходніка мудрагелістыя дзядзькі ў шэрых гарнітурах, напісалі рэзалюцыю ледзь разборліва: «Парушэнняў няма, згодны выдаць пасведчанне і ліцэнзію тэрмінам на пяць гадоў. Ніколі не забудзем».

Апошняя фраза надта здзівіла Карчэўскага, толькі чаму жадаюць марнатраўцы й абібокі яшчэ і жартаваць з ім: паглядзім, ці варты яны таго.

Абсталяваў інжынер «Фальксваген» жоўтым плафонам з чорнымі квадрацікамі, зялёным вокам ліхтарыка, справядлівым электронным лічыльнікам. І возіць пасажыраў па Менску ды ваколіцах. Кліентаў дастаткова днём і ноччу, без прыбытку не застанешся. Ад волатаўскай постаці Міхася рэкеціраў дрыжыкі бяруць,

паспрабуй яго зачапіць, здароўе больш каштоўнае, чым разліковыя білеты.

Мінула з той пары чатыры месяцы. Неўзабаве вярнуўся Карчэўскі з начной змены, як да яго малодшая сястрычка з канвертам падыходзіць.

— Што новенькага чуваць? Чым вясёлым парадуеш? — задумліва ў дзяўчыны пытаецца.

— Зірні на падарунак паскоранай пошты. Выклікаюць, мой браце, за даведкай з інстытута наконт грабежніцкага падаходнага падатку. Каму належыць аўтарства цыдулкі? — турбуецца Вольга.

— Ну, старыя знаёмыя, каб яны на асле падарожнічалі! — бадзёра прагучаў бас Міхася. — Цяпер ясна, чаго ў сябрукі пішчом лезуць.

— Яшчэ пятнаццаць дзён тэрміну даюць, інакш на ініцыятыве крыж паставяць, — дапаўняе сястра.

На наступны дзень Міхась паехаў у бухгалтэрыю за неабходнай паперай. Крыху збянтэжыўся мужчына, што старэйшага работніка на пенсію накіравалі, цяпер незразумела, колькі валтузня прадоўжыцца. Параілі яму ў канцы тыдня, у пятніцу, заглянуць, можа, пашанцуе.

Другім разам зайшоў Карчэўскі — зноў напаткаў няўдачу. Прычына зусім смешная: нейкі дробны клерк паблытаў дзяржаўную кішэню з уласнай, зараз літасці ў суддзі чакае: у няволю нікому не хочацца.

Намякнулі супрацоўнікі інстытута шэфу, што іх калегу без дай прычыны тузаюць правяраючыя, без сумлення і спагады. Раззлаваўся дырэктар, дык яго падначаленыя за пяць хвілін склалі няшчасную даведку з круглаю пячаткаю...

Вы запытаеце, які далейшы лёс Міхася Карчэўскага? Пасля серыі прыгодаў і шэрагу пакутаў арганізаваў прыватны таксапарк, новыя легкавікі й мікрааўто-

бусы набыў, дае беспрацоўным сябе рэалізаваць. Вельмі ўдзячныя вынаходніку людзі — прыемна, калі чалавек неабыякавы да тваіх праблем.

Аднак Карчэўскі бюракратаў на кароткім ланцугу трымае, і небаракі палохаюцца яго горш за асабісты цень.

Руціна ў бізнесе і грамадстве — рэч непатрэбная.

## ЛІСТЫ КАХАННЯ

Люблю гартаць лісты надзеі й пяшчотнай дабрыні, якія прыносіць галубамі кахання каралева-пошта. Канверты нагадваюць цудоўную флатылію непарыўнага сяброўства, радкі пяюць мадрыгаламі чысціні, а словы, быццам казачныя дэльфіны, плывуць па чароўным моры спатканняў. Літары дыхаюць святлом пачуццяў, узвышаюць шчырыя душы й мужныя, заўсёды ветлівыя сэрцы.

Вядома, ад чытання пісьмаў радуецца вышынямі гор акаляючы свет, смяюцца з сонейкам вернасці каханыя, натхненне дае новыя сілы ў безлічы яскравых, неўміручых і спрадвечна вясёлых абдымкаў, таямнічых, жыццятворных і непаўторных, як сіняе неба, пацалункаў.

Канешне, мора спатканняў сустракае і штыль бестурботнасці, і хвалі акулы-рэўнасці, і штормы балючых няўдач. Стыхія сумнення спрабуе віжаваць за хараством, калі яно хаваецца ад злых клешняў электрычных скатаў, што парушаюць моц любові на цёплым дне царства жыцця, ды змаўкае кітом поспехаў. Цяжка ўспрымаюцца штармавыя вятры адзіноты, якія белымі чайкамі лётаюць ля вады, тым самым нагадваючы лёс Гамлета. Здаецца, не аднойчы маладыя праходзяць выпрабаванняў сур'ёзны іспыт, каб дасягнуць шчаслівых хвілін, што зліваюцца дотыкамі вуснаў і рук,

каб вяселляў гучалі мілыя званы, дзе абяцанняў маліт-вы святыя...

Жыццё працягваецца, і дай Бог караблю прызнанняў абмінуць калючыя рыфы адчаю і помсты.

## ОДА Ў ПРОЗЕ

**О**, мая жалезная сяброўка! Як прыемна кіраваць табой па звілістай шашы й па алімпійскай магістралі, церабіць шлях па вёсках і мястэчках, абмінаць заторы на шумных гарадскіх вуліцах. Не аднойчы выратоўвала гаспадара на няўдзячным бездарожжы, куды наўрад ці сунуцца новыя багатыя на шыкоўных лімузінах, каб атрымаць невылечную хваробу рухавіка ды нерваў у дадатак. Нямала ты, сціплая прыгажуня, зведала шляхоў з Мінску на лецішча, каб я мог зберагчы ўраджай і падрыхтавацца да сцюдзёнай зімы... На сэрцы радасна, што прыносіш карысць мне і іншым людзям: возіш звыш тузіна пасажыраў па сталіцы ды яе ваколіцах у гадзіны пік, калі пра паездку ў перапоўненым аўтобусе ці тралейбусе нельга марыць; знаёміш турыстаў з цудоўнымі краявідамі й знакамітымі мясцінамі сінявокай Беларусі; і ў гаспадарцы без цябе аніяк не абысціся.

У дождж і спякоту, у лютыя маразы, як і ў звычайную непагадзь, зіхаціш ты бялюткай чысцінёй, простакутыя ліхтары й аранжавыя павароты ззяюць, быццам дзявочыя вочы на спатканнях з хлопцамі. Ціха адчыняюцца дзверы, запрашаючы жадаючых у адметныя вандроўкі, а мяккія крэслы спакушаюць неверагоднымі прыгодамі й разматымі кліентамі, ад якіх можна чакаць незвычайных учынкаў.

З радыёпрыймача, зухаватага балбатуна і казачніка, ліецца музыка, што чаргуецца навінамі й аб'явамі. Навігацыйная сістэма ў выглядзе манітора не дазваляе

нявопытнаму кіроўцу заблукаць у невядомай яму мясцовасці, а білетадрукуючае прыстасаванне дзейнічае лепш за кантралёра,назаўсёды запамінаючы гасцей, якія хоць раз карысталіся маршрутным таксі. Гума вытрымлівае выпрабаванне цяжарам і дарогамі. Праз незамярзальнае шкло ваконцаў адбіваецца святло промняў сонца і месяца, а люстэркі ў салоне і па бакавінах дзвярэй ахоўваюць ад здарэнняў.

Тваё вогненнае сэрца — дызельны рухавік — спажывае салярку, а такое паліва не цяжка знайсці на калонках у любую пару года, дзякуючы чаму не эканомлю грошы на рамонт. Не кажы, што не даглядаю, час ад часу замяняю дробныя і не вельмі дэталі, выціраю ад пылу, а калі-нікалі нават мыю. Аберагаю ад злога вока ў цагляным гаражы з трывалай брамай, хоць незычліўцаў у цябе, руплівая працаўніца, дастаткова, але ў палон ім здавацца не збіраюся. Дзяцюкі ў плямістай форме, вельмі падобныя на галодных афрыканскіх тыграў, не спяць у шапку, каб зрэдку не спагнаць дзённы прыбытак на штраф. Аматараў хуткай нажывы палохае гучная сігналізацыя, што ўздыме на ногі цэлы квартал, калі раптам хто дакранецца да тваіх сталёвых нерваў.

Кузаў, колы, матор, акумулятар, гума зроблены беларускімі майстрамі з Ліды, якія на канвееры давялі да ладу маю жалезную сяброўку. Праўда, канструктары з нараджэння ахрысцілі цябе «Газеллю» за хуткасць, жвавасць і спрыт.

Нягледзячы на каларытную назву, ні аварый, ні трагедый у маіх умелых руках з табою не было, таму спакойна накручваеш ты кіламетры на спідометр з невычарпальнай лёгкасцю і асцярожнасцю, каб не трапіць у лапы ненажэрных даішнікаў ды астатніх неабыякавых злыдняў. Цябе абыходзяць за вярсту ўгоншчыкі, якія палююць за джыпамі, шасцісотымі «Мэрсэдэсамі» і вялікімі

лімузінамі з Заходняй Еўропы, бо мірная праца «Газелі» іх мала задавальняе. Любяць цябе малыя і дарослыя, што падарожнічаюць у гэтым цудоўным мікралімузіне.

Кажуць псіхолагі, быццам мужчыны вельмі старанна выбіраюць сябе сяброўак па жыцці ды аўтамабілі. Спрачацца з імі не хачу, бо ведаю, што ад правільнага выбару залежыць далейшы лёс чалавека.

Няхай вам пашанцуе.

## ЗДАРЭННЕ

Паслухайце сапраўдную гісторыю з жыцця дзеда Івана, жыхара маленькай вёскі Падгор'е Мінскага раёна.

Калі чалавек знаходзіцца ў добрым падпітку, то яго мары адразу становяцца рэальнасцю. Так здарылася са мной, былым салдатам Вялікай Айчыннай, і маім шваграм Андрэем, маёрам пяхоты сучаснага войска. Заліўшы за каўнер болей меры спіртовых напояў, выйшлі мы з хаты, каб падыхаць свежым паветрам. Паціху сыпаліся гарэзлівыя сняжынкі. У Андрэя з'явілася жаданне прагуляцца па зімовым лесе. Я з радасцю падтрымаў прапанову сваяка, да таго ж ведаў усе тутэйшыя сцежкі-дарожкі не горш, чым вінтоўку — рускую трохлінейку.

Шыбуем, азіраючыся па баках, каб раптоўна не заляцець у гурбу. За тыдзень завеі шмат снегу намялі. Гутарым пра гаспадарчыя клопаты. Пацягнуў чорт мяне за язык прыгадаць выпадак, калі восенню, на Пакровы, скралі з хлеўчука злодзеі карову, адзінае багацце сялянскай сям'і. Швагер і давай цікавіцца падрабязнасцямі, гатовы распачаць пошук крадуноў, каб іх качарга на тым свеце дагнала. Засумняваўся, як без стрэльбы ўзяць жывымі нягоднікаў, калі нас усяго толькі двое.

Афіцэр сучаснага войска супакойвае:

— Не хвалюйся, дзед, мы яшчэ паваюем!..

— Дзякуй за шчырыя словы, — адказваю.

А той зноў:

— Якой адзінкай камандаваў падчас вайны з немцамі?

З гонарам адказваю:

— У войску на пачатку вайны — аддзяленнем, у партызанах — ротай. А ты цяпер чым кіруеш?

— Палком.

— Вельмі выдатна.

Далей гамонім. Не даспадобы надвор'е, якое турбуе мае хваробы, але голас прарэзаўся, калі наперадзе, на палянцы, людзей угледзеў. Закрычаў, колькі хапіла моцы:

— Батальён! Першая рота — на правы фланг, другая — на левы, трэцяя — у тыл!

Андрэй дапамагае:

— Штурмавы ўзвод — у атаку! Разведгрупа! Праверце бліжэйшыя ваколіцы. Гарматы, мінамёты, кулямёты: простай наводкай — агонь!

Смелымі воклікамі напалохалі людзей, але, думаю, што і ўсе лясныя звяры ўцяклі туды, дзе ціш і спакой. Уражанне такое, быццам трапілі ў ваеннае ліхалецце на машыне часу. Неўзабаве апынуліся мы каля чыгуначнай станцыі Крыжоўка.

Чуем нешта знаёмае:

— Грамадзяне п'яніцы! Рукі ўгору, зброю на зямлю!

Прыцягнуўся «чорны воран». Бяруць пад рукі нас міліцыянты, кідаюць у арыштанцкае купэ. Прывезлі ў Заслаўскую кутузку. Месца выдзелілі ў каморы на дваіх. Павялі ахоўнікі на допыт да ўчастковага. У начальніка пытанняў да мяне з Андрэем столькі, колькі куранят у Дзяхноўцы на птушкафабрыцы. Цвярозымі сталі ўмо-

мант, калі небяспека ў твар галодным зверам глянула. Ледзь паспявалі адказы прыдумляць.

— Дзе вашы жонкі, няўклюды?

— Дома засталіся.

— Чаму лямантавалі так, што я ў сваім кабінеце пачуў?

— Каляды адзначаем.

Раззлаваўся не на жарт слуга закона. На пратаколе прысуд накрэмзаў: «Паўмесячны адпачынак з шуфлем».

...Вычысцілі мы за гэты час усе гарадскія вуліцы ад снегу. І больш ужо на святы з чырвонымі тварамі ніколі не паказваемся.

## СПАДАР ДУБ

Рэдактар прыватнай газеты «Сучасныя плёткі» быў незадаволены. Настрой яму сапсавалі кепскія звесткі: падпісчыкі не выказвалі вялікай любові да выдання, часам іх уражанні набывалі экзатычныя формы ад прачытанага — хоць хавайся ў бульбу. Па інфармацыі шпегаў нумары газеты выкарыстоўвалі для распальвання печак ды камінаў, здавалі на макулатуру, а то і проста нячытанымі выкідвалі на сметнік...

Прымусовая падпіска прыносіла больш стратаў, чым карысці: жадаючых верыць плёткам, скажоным да непазнавальнасці навінам, станавілася меней. Прызы ад рэдакцыі, занадта каштоўныя і шыкоўныя, да шараговага чытача не даходзілі, бо размяркоўваліся невядома дзе і каму. Аматары задарма чытаць прэсу з чужых скрыняў касавурыліся, калі цягнулі асобнікі «Сучасных плётак».

Рэдактар вельмі добра адчуваў, чым гэта скончыцца, таму не спяшаўся з высновамі. А вынікі, верагодна, давялі

б яго да істэрыі, фанабэрыі ці маральнага банкруцтва. Аднак спадара Дуба цікавілі не наступствы пералічаных з'яў, а звычайны сполах перад яго грашавітымі манархамі, якія з'яўляліся заснавальнікамі выдання, а таксама і героямі шматлікіх рэпартажаў, інтэрв'ю, нарысаў...

Дуб успамінаў сваю маладосць.

Як добра было раней: фельетоны й спартовыя агляды на старонках друку паднялі яго з пасады непрыкметнага рэпарцёра да рэдактара аддзела і вышэй, куды толькі магчыма ўзляцець у ружовых снах. Асэнсаваўшы выгоднае становішча, руплівы кар'ерыст не спаў у шапку — са скуры лез, адно каб утрымацца ў асяроддзі адметных асоб, якія аплочвалі выданне.

Яму пашанцавала: галоўны рэдактар выходзіў на пенсію, таму быў заняты пошукамі адказнага чалавека, здольнага замяніць яго. Пасля асцярожных і разважлівых ваганняў кандыдатуру Дуба палічыў перспектыўнай і не памыліўся ў выбары — Дуба прызначылі кіраваць газетай.

«Не стварай сабе куміра і не пакланяйся ідалам» — сведчыць біблейская ісціна. Новаспечаны чынадрал атрымаў адносна неблагі заробак, персанальнае аўто, пастаянныя прэміі й ганарары. Неўзабаве набыў дачу пад Мінскам.

Мяняліся кіраўнікі, грамадскія фармацыі й эпохі, а спадар Дуб акурат трапіў у рай — жыў і гора не ведаў. Да яго прыслухоўваліся, ставіліся жычліва і памяркоўна.

Выданне «Сучасныя плёткі» імкнулася пасварыць прыхільнікаў свабоды з заўзятарамі развітога сацыялізму. Паклёпы, інсінуацыі, абразы, здзеклівыя каментары, гнеўныя артыкулы й аднабаковая аналітыка... Методыка галоўнага рэдактара і яго ўбранзавелых пап-

лечнікаў дзейнічала выдатна — памылкі загадзя адсутнічалі, адчуваўся нябачны фінансавы канал таямнічых прыспешнікаў за шырмай быццам бы знешніх эфектаў уплыву. Выданне ўзнялося так высока, што зямля пад нагамі яго чытачоў, здавалася, пачала павольна пасоўвацца кудысьці далёка...

Падхаліма-рэдактара заўважылі, матэрыяльны дабрабыт павялічылі. Рэклама адыёзнай газеты раскручвалася з хуткасцю пажарнага шланга-брандспойта.

Вядома, наклад газеты стаў значна большы: бадай кожны тыдзень жыхары сталіцы мелі ў сваіх паштовых скрынях бясплатны асобнік «Сучасных плётак» з каляровым дадаткам.

Спакой рэдактара парушыў грукат, шум, рогат, хор з альтоў і басоў, па змесце крыху падобны на навальніцу, брэх беспрытульных цюцькаў і сакавіцкія спевы катоў адначасова. Ад нязвыклага ляманту спадар Дуб падумаў, што Свіслач выйшла з берагоў і пачаўся грандыёзны патоп.

«Якая трасца вярнулася з нябыту? Няўжо трэба чакаць стыхіі, катастрофы ці трагедыі? Можа, нейкія самаўпэўненыя тэрарысты жадаюць узяць мяне закладнікам? Альбо няўдзячныя чытачы імкнуцца намыліць мне шыю?..»

Невясёлыя думкі не пакідалі нашага героя, які, вядома ж, не хацеў ён апынуцца ў ролі ахвяры ў крымінальнай хронікі, асабліва цяпер, калі ўсё ішло-ехала наўздзіў нармалёва!

Аднак шум не спыняўся.

І спадар Дуб, ухапіўшы тэлефон, набраў адпаведны нумар. Працяглыя гудкі падказвалі: з сувяззю парадак.

— Добры вечар, гэта міліцыя?.. Вас турбуе рэдактар Дуб. Э-э, мне трэба кваліфікаваная дапамога... Ра-

зумееце, таварыш дзяжурны... Пад вокнамі маёй кватэры надакучліва і падазрона хтосьці вые... Мне страшна, баюся... А раптам гэта мае няўдзячныя чытачы рыхтуюць на мяне замах — жадаюць скрасці, каб аплаціць па рахунках... Ратуйце!

## У ПОШУКАХ СУБЯСЕДНІКАЎ

Дзіцячая гамонка вабіць сэрцы дарослых. Галасы самых маленькіх грамадзян зліваюцца з птушынымі спевамі ў вольным паднябессі, з подыхам калосся перад жнівом, з бурлівым шумам рачулак.

Седзячы на прыступках пад'езда аднаго з гарадскіх шматпавярховікаў, трохгадовыя Алесік і Васілёк радасна вітаюць людзей, якія праходзяць побач.

— Дзядзя, дзядзя! — замілавана шчабеча Васілёк у бок падлеткаў і юнакоў.

— Дзеда, дзеда! — дапаўняе сябрука Алесік, ухваляючы сівізну паважаных у акрузе дзядуляў.

— Цёця!

— Цёця! — усхвалявана крычаць хлапчукі да дзяўчат, каб апошнія звярнулі на іх увагу.

— Бабы, бабы, дзе цукеркі? — таямніча жартуе Васілёк з бабулямі, мяркуючы падсілкавацца салодкімі прысмакамі.

— Мама, мама! Там — яма, — з чароўнай усмешкай паведамляе Алесік.

— Тата ў хаце! — імкнецца перахапіць ініцыятыву Васілёк.

Нейкі момант адбываецца спаборніцтва паміж дзеткамі, у каго найбольш моцныя галасавыя звязкі. Убачыўшы чалавека ў блакітнай форме, з чырвонымі пагонамі, у фуражцы з велізарнай цэшкай на аколышы, з чорным дручком на поясе і цёмнага колеру кабуром, а

гэта быў звычайны малады міліцыянт, раптам нашы героі хаваюцца за лаўку, адкуль рагочуць, выпускаючы ў паветра чараду гукаў, змест якіх цяжка расшыфраваць.

— А-а-а-а!.. — пявуча цягне Алесік. — Ме-ент...

— Ме-е-ент!.. — дапамагае яму Васілёк.

Праз хвіліну-другую малыя пабеглі да сваіх матуляў, якія бадай адначасова нечага выхапіліся раптам на вуліцу, але, калі ўбачылі міліцыянта, рашуча спыніліся і ветліва заўсміхаліся прадстаўніку закона.

## МЕРЫ БЯСПЕКІ

Сцяпан Гузік з Харытонам Хмарай — аматары напіцца да чорцікаў у вачах. Неспадзяванка атрымалася ў паплечнікаў Бахуса: грошай у дзіравых кішэнях днём з агнём не адшукаеш, ад ахвоты да вогненнай вады не пазбавішся. Чухаюць патыліцы небаракі, збіраючыся падзарабіць, каб хапіла на пляшку.

— Пойдзем вагоны разгружаць, можа, мільён-другі з неба ўпадзе, — балабоніць Сцяпан.

— Трасца табе ў скулу, — не згаджаецца Харытон. — Лепш запішамся вартаўнікамі, банкноты самі будуць ліпнуць да пінжакоў.

— З чырвонымі тварамі не ўладкуешся, — замітусіўся ў адчаі Сцяпан.

...Мінула тры месяцы пасля гэтай сустрэчы. Усміхнулася Фартуна хлопцам: узялі іх на працу. Харытон пачаў ахоўваць склад са сталярным інструментам, а Сцяпан, зразумела, цягае скрыні з фруктамі ды гароднінай з чыгуначнага вагона ў аўтафургон.

Знешне змяніліся нашы героі: вопратка больш-менш па модзе, цыгарэты замежныя паляць; калі-нікалі на абед індыка падсмажаць; сталі затрымлівацца грошы ў кашальках — невялікія, праўда, але ж усё роўна пры-

емна. Жыццё — любата. Сцяпан з Харытонам часова пра мінулыя няўдачы з выпіўкай забыліся. Ці надоўга?

Пасля добрай і смачнай вячэры захацелася Хмары з Гузікам заможнымі стаць, каб штовечар гарэлку жлукціць ды з прыгодамі знаёміцца. Вырашылі сябры наведацца ў рэдакцыі беларускіх часопісаў і газет, спадзеючыся ўдачу злавіць за хвост. Не думайце, што падпісчыкамі, аўтарамі ці распаўсюднікамі прэсы яны намерыліся стаць. Не. Начытаўшыся казак з «Тысяча і адна ноч», сабутэльнікі вырашылі, што можна разбагацець за адну ноч. Задумана — зроблена.

Стомленыя за дзень ад спякоты, жыхары сталіцы бачылі з тузін сноў, калі неўтаймоўныя п'яніцы рушылі на несумленную, з пункту гледжання закона, афёру.

Начапіўшы чорныя акуляры, апрануўшыся ў такія ж пальчаткі, капялюшы й плашчы, узяўшы чамаданы з наборам адмычак, Хмара і Гузік накіраваліся у цэнтр сталіцы. Вядома, не пешшу, а на таксі, акурат як і цывілізаваныя людзі.

Праз колькі хвілін дабраліся да вызначанага загадзя будынка. Не спяшаючыся адчынілі дзверы, другія, трэція, і пайшло — паехала, ды так, што спыніцца ні Сцяпан, ні Харытон не маглі. Пашкодзілі літаральна ўсе дзверы пакояў, папсавалі замкі, у шуфляды нос сунулі, шафам ручкі скурочылі, а калі сейфы атакаваць паспрабавалі — зараўла сігналізацыя. Наўцёкі кінуліся злодзеі.

...Раззлаваліся не на жарт карэспандэнты й рэдактары на наступны дзень, калі з'явіліся на працы. Згадзіліся нягоднікам шыю намыліць без абмеркавання, праклінаючы, прыкладна, гэтак: «Няхай у прайдзісветаў рукі адсохнуць ад чужога дабра». Мала гэтага — надрукавалі ў выданнях абвестку:

«Грамадзяне рабаўнікі, вярніце непатрэбныя вам рэчы на месца. Прэмія — скрыня гарэлкі «Два буслы»!

Пакрыўджаныя журналісты й раззлаваныя рэдактары».

Спакусіла розум Гузіка і Хмары ці то гарэлка, ці то аб'ява, ліха яго ведае. Пашыбавалі Сцяпан з Харытонам, не губляючы надзеі нашармачка выпіць. Аднак неўзабаве апынуліся там, куды нікому не зычаць трапляць.

Шаноўныя калегі, узброеная аўтаматамі ахова, браніраваныя дзверы пакояў, сучасная сігналізацыя — гарантыя вашай бяспекі й вашых твораў!

## СЕНСАЦЫЯ ПЕРАПІСУ

Едуць у аўтобусе два сябры, перакідваюцца словамі — не сумаваць жа ў доўгай дарозе.

— Мікола, чаму ты такі стомлены? На якія дыстанцыі крос здаваў?

— Ты ж ведаеш, Казімір: адбыўся перапіс, дзе я цэлыя два тыдні працаваў лічыльнікам. Даволі цікавая прафесія, столькі навін у рукі трапіла, ледзь паспяваю аналізаваць апошнія факты.

— Дык чаму маўчыш? Чым вясёлым парадуеш?

— Колькасць халасцякоў перавышае лік замужніх жанчын і маладзіц... Цяпер сцяміў, што нам пагражае?

— Чакайма ў госці падатковага інспектара, не забудзем яму чарку паставіць і да чаркі чаго растарацца, каб хутчэй адчапіўся.

## ПРЫЕМНЫЯ СЕТКІ КАХАННЯ

На Заслаўскім вадасховішчы пасля ўдалага ўлову гутараць рыбакі:

— Янка, на што падобна жаночае каханне?

— На кручок з прыманкай на шчупака. Не паспееш азірнуцца і— цябе цягнуць вудай дзяўчаты альбо ты іх ловіш на спінінг. Зухаватасць адразу — на дно.

— Спрачацца не стану: кожны хлопец марыць, як трапіць у прыемныя абдымкі дзявочых сетак, з якіх зваротнага шляху няма.

— Няхай жа нам пашанцуе на прыгожых і разумных каханак, спакойных і мудрых жонак!

## НЕЧАКАНЫ ПАСАЖЫР

**Ц**іхі летні вечар.

Па праспекце Францішка Скарыны ў бок гарадскога аэрапорта рухаецца маршрутны аўтобус. На прыпынку побач з Політэхнічным універсітэтам натоўп людзей увальваецца ў велізарны салон, імкнецца авалодаць зручнымі пасадачнымі крэсламі. Разам з імі заскоквае маленькі чорны сабачка і хутка хаваецца пад фатэль.

Цвёрдаю хадою ідзе кандуктар, не забываючы правяраць і прадаваць білеты. Уважлівы позірк жанчыны спыняецца на новым пасажыры, які, высалапіўшы язык, глядзіць на месцічаў, шукаючы ў іх падтрымкі.

— Грамадзяне, чый сабака? — цікавіцца кантралёр.

— Цяжка сказаць, каму належыць цюцька, — уздыхае пенсіянер, заступаючыся за братоў нашых меншых.

— Ці знойдзецца дабраахвотнік, які аплаціў бы праезд свойскай жывёліны? — працягвае кабета.

— Не хвалюйцеся. Вось! Бярыце дзве тысячы, — рупіцца маладзён з мабільнікам. — Не выкідаць жа сабачку за борт.

## «ДОКТАР, НА ВЫЕЗД!»

На ўзбярэжжы Свіслачы сустракаюцца двое літаратараў-пачаткоўцаў. Спрачаюцца так, ажно пыл пад нагамі курэе ды чубы трашчаць.

— Ведаеш, Лявон, я адкрыў новы літаратурны напрамак, не паспяваю на званкі адказваць.

— Няўжо? І як жа, шаноўны, называецца твая тэорыя неверагоднасці?

— Транслагізм. У-у, дык ты яшчэ не пазнаёміўся з маім адкрыццём?

— Чуў пра творчую бязглуздзіцу, нават чытаў... Шкада мне цябе... «Хуткую дапамогу» заказамі загрузіш на пяць гадоў наперад, у дзяжурцы пачнуць выгукваць праз кожныя дзесяць хвілін: «Доктар, на выезд!»

І зноў нейкі час курэў пыл пад ступакамі суразмоўцаў. Гэты раз, праўда, нахапіўся міліцэйскі «варанок», і патрульныя міліцыянты запіхнулі разгарачаных інтэлектуалаў у салон машыны з закратаваным акенцам.

## ГАДЗІНА ПІК

Дапытлівы пляменнік цікавіцца ў дзядзькі:

— Чаму на тваім паліто гузікаў не хапае?

Малога здзіўляе адказ сваяка:

— У перапоўненым тралейбусе вяртаўся ў гадзіну пік з працы.

## УЦЁКІ АД ПРАЎДЫ

— Хто такі?

— Постмадэрніст адчайны й бясслаўны.

— Ад каго так шпарка ўцякаеш?

— Ад рэаліста, чорт яго пабяры.

— Чаму баішся калегі па пяру, небарака?

— Крытыкуе надта праўдзіва, зямлі пад нагамі не адчуваю.

## РУЛЕТКА ВІНАВАТА

Жыў-быў Начальнік. Меў ён не надта вялікую і зусім не маленькую, але адказную пасаду: загадваў маёмасцю будынка, дзе змяшчаліся рэдакцыі часопісаў і газет.

Захапленнем яўна не беднага чалавека была калекцыя мэблі: крэслы, шафы, сталы, зэдлікі, без якіх немагчыма ўтульна аддавацца журналісцкай працы. Пакладзе Начальнік вока на новы стол, быццам юнак на каханую, і на наступны дзень рэчы на ранейшым месцы няма.

Каб не апынуцца скандалістам на старонках прэсы, уладар нерухомага багацця браў грошы з залежных ад яго карэспандэнтаў, прычым — не саромеўся сваіх учынкаў. Ад лаянкі ўпартага кручкатвора звінелі шыбы ў пакоях і абуджаліся ад сну немаўляты ў суседніх дамах. Здавалася, гармідару канца чакаць не прыйдзецца, калі б не адно здарэнне, дзе не апошнюю ролю грабежніка сыграў наш герой.

Блукаючы ў пошуках прыгодаў па даўжэзных калідорах, завітаў няпрошаны госць у літаратурны штотыднёвік «Маладыя галасы». Угледзеўшы ў далёкім куце шафу, зароў ад сквапнасці:

— Вызваліць вось той антыкварыят. Паўгадзіны на роздум, інакш застануцца голыя сцены!

Рэдактара добра ведалі аўтары, калегі й чытачы за арыгінальную газету, дзе друкаваліся творы юнакоў і дзяўчат, што робяць першыя крокі ў Краіну Літарату-

ры. Нямала пабачыў знакаміты пісьменнік і выдавец ашуканцаў, што не спяшаліся сустракацца з ім. Сабе горш стане: не пашкадуюць рознакаляровых фарбаў мастакі на карыкатуры, лепшай славы на антырэкламу не пазычыш больш нікому.

Рэдактар спакойна запытаў у нахабніка:

— Хто вы? Чаму лямантуеце без прычыны? Няўжо справу нельга вырашыць без лішніх турбот?

У махляра скончылася цярпенне, і ён стаў раскідваць мацюкі налева і направа:

— Выконвайце, што патрабую!

Пісьменнік, прадчуваючы, што спрэчка з бюракратам — лішняя трата часу і нерваў, з іроніяй сказаў:

— Бярыце, толькі памятайце: ваша сквапнасць — калом у горле стане!..

Начальнік куляй выляцеў з «Маладых галасоў». Не прадбачыў тарбахват памылак у драпежніцкіх разліках, а тут няўдача атрымалася. Папярдзілі яго, што ліхія жарты могуць бокам вылезці.

Рэдактар задумаўся: як адвучыць абармота, каб падобныя гастролі не паўтараліся ў будучыні. Ён падняў слухаўку тэлефона, набіраючы патрэбныя лічбы:

— Інфармацыйны аддзел! Праверце, каму і куды сцягнуў рэдакцыйную шафу круцель. Звесткі паведамляйце ў любы час, зранку і вечарам, днём і ноччу.

Супрацоўнікі газеты падрыхтаваліся да небяспек, якіх заўсёды хапала. Колькі яшчэ няшчасцяў чакае наперадзе — наламаў дроў чыноўнік вагон і малую фурманку.

Падзеі нагадвалі дэтэктыў з камічным сюжэтам.

Ды развязка здзівіла Рэдактара: зразумела, прайдзісвет прагуляў у казіно значную суму грошай, а крэдыторам заплаціць не было чым, таму аддаў у заклад сціплы прадмет мэблі... Ясна, не сваёй.

У апраўданне Начальнік скардзіўся гучна:
— Рулетка вінавата!..

## НЕЎМІРУЧАЯ КАРЫКАТУРА

Дзесьці далёка, у Краіне Густых Лясоў, жылі-былі Воўк-Ураднік і Сабака-Кандуктар. Як хто з іх хвастом ці іклом павернуць, дык свінцовыя дажджы ідуць. Час адгукаўся маланкамі гневу: куды ні паглядзіш, зямля ўздрыгвалася ад пакутаў, здзекаў, падаткаў, якія адно аднаго жудасней.

Лесуны-Прарокі, размаўляючы з нямоглымі й жабракамі, нашэптвалі markdown рознай дробязі, як пазбегнуць ахвяраў у якасці снедання альбо абеда для ненажэрных гаспадароў, калі мроіш аб свабодзе ў родным гародзе.

Аднойчы на Паляне Гумару на драўляны шчыт, побач з тэатральнымі аб'явамі, павесілі ў дубовай, нібы шыбеніца з катам, рамцы партрэт. Жоўты фон надаваў яму ёмісты выгляд: вочы свяціліся пірацкім біноклем, чорны чуб прыгадваў мокрага пеўня, выцягнутага са спякотнай лазні. Нізкі, падобны на бярлог мядзведзя, лоб гаварыў, што ўладар неглыбокага розуму, кідае булаву ў багну глупства, адкуль, вядома, не вяртаецца на паверхню сумленне, не дасягае вышыні ў цяжкіх лясных справах. Кручкаватым доўгім носам пужалі немаўлятаў; сківіцы яго, тлустыя і круглыя, гарэлі кіслым яблыкам нянавісці й жорсткасці. Шырокія, ажно пачырванелыя ад гарэліцы, вусны сведчылі, што страшыдла не супраць расшпіліць пояс дзяўчыны-вавёркі...

У левай лапе ваўкалака дрыжала дубальтоўка з крывым ствалом, якая біла і па сваіх, і па чужынцах. Нездарма шчабечуць, што, маўляў, палохай зайцоў, каб салаўі лётаць баяліся. Правая лапа трымала венік з морквы, аздоблены лісткамі капусты. Унізе, на мармур-

овай дошцы, невядомыя майстры пакінулі прысвячэнне: *«Дражайшаму паляўнічаму ад няўлоўных зайцоў!»*

Чаго ж болей жадаць ад касых, калі за імі па акрузе ганяешся вядзьмаком, а вынікі — на дзірку ад бубліка. Дык не ж, падкацілі чароўны камень пад шчыт, выбіўшы пад колер аблокаў верш:

Шэры, шэры — велькі зух.
Ой, і трапіш на кажух!

Вось сустракаюцца на Паляне Гумару злыя да чорцікаў у вачах нашы героі. Жахліва назіраюць навокал, баючыся выпадкова трапіць на міну ці ў засаду. Здзівіўшыся новаму малюнку, гутараць між сабой:

—Ты сябе ўбачыў ці мяне?.— асцярожна цікавіцца Сабака.

— Здаецца, не паважаюць блакітныя пагоны й шэрыя кукарды, — прагугнявіў Воўк. — Дасі крамоле волю — пачастуюць віламі нядолі.

— Можа, разбярэм пародыю ў жартах, каб баяліся чорнай варты, га? — прапанаваў, узяўшы ўпэўненасць за бокі, рабаўнік-кандуктар.

— Давай паспрабуем. Удачу з вудай гарантую, — перасмыкнуў вуснамі галодны да нечаканасцяў драпежны Ўрадлік.

Адцягнулі камень, і гэты асілак як пабяжыць за сябрамі па няшчасці, ажно пяткі ззялі на вузенькіх сцежках і мацюкі чуліся ъ лесе. Старыя папярэджвалі: не суйся з цагляным носам на багаты сенакос.

Вырашылі пашукаць дубіну лёсу яшчэ раз. Знялі партрэт, каб агонь яго спаліў. Мінуў дзень, як зайграў Ілля ў барабаны. І тут ужо не да ваярскай славы — прыляцела жураўлём карціна на Паляну. Калі полымя фарбы за жабры не бярэ, Няптун яе хвалямі задзярэ.

Штурхнулі ў сінюю ваду, наклікалі на дурныя галовы чарговую бяду.

Разлілася ласкавая рачулка, у палацах сядзець мулка, чарпакамі выносяць снег палясоўшчыкам на смех. Зазвінеў рогам Пярун, змоўклі на гадзіну балбатуны.

Стаміўшыся ад бясконцай вайны, засмуткавалі ліхвярства чыны. Седзячы на печцы, гамоняць сустрэчным:

— Лямантуй на святы месяц — застанешся слупам спрадвечна.

Возерам радасці пяе легенды мараль:

— Творы мастацтва доўга жывуць!

## КАЗКА ПРА БЕЛАРУСЬ

**З** пакалення ў пакаленне перадаюцца казкі, легенды, паданні, песні. Вусная народная творчасць дапамагае людзям захоўваць духоўную і генэтычную памяць, зберагаць душы ад зла і нянавісці, іншых адмоўных якасцяў. Казка — найцікавейшы скарб для летапісцаў, фалькларыстаў, мовазнаўцаў, паэтаў, празаікаў.

З незабыўнай радасцю слухаюць казкі дзеткі. Нашы маленькія грамадзяне дакранаюцца да неспазнаных яшчэ таямніцаў чалавечага жыцця, імкнуцца заняць пачэснае месца ў ім, шукаюць адказы на пытанні, марадь пра ўласныя прыгоды са шчаслівым канцом.

Мае шаноўныя сябры, паслухайце яшчэ адну казку пра родную старонку...

Яшчэ з даўніх часоў, калі мы з вамі пакуль не ўбачылі белы свет, на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі нашы далёкія продкі — крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Гэта былі мужныя людзі. Яны нічога не баяліся, руплівa працавалі на зямлі, здабывалі падчас палявання дзікіх звяроў, якіх дастаткова было ў пушчах, дубровах, лясах;

захоўвалі агонь, гадавалі сваіх дзетак, на вогнішчах рыхтавалі розныя прысмакі.

Крывічы, радзімічы й дрыгавічы верылі, што багі ёсць на небе, на зямлі, у вадзе і ў паветры, таму імкнуліся сваімі верай, паводзінамі ды ўчынкамі не раззлаваць іх, а ўсяляк берагчы капішчы, дзе панавалі святыя для кожнага з плямёнаў. У нашых продкаў існавала цэлая сістэма пакланення багам; адпаведна кожны бог меў уласнае імя.

Крывічы, дрыгавічы, радзімічы схілялі свае галовы перад Пяруном, найгалоўным бажаством.

Пярун у адной руцэ трымаў лук (вясёлку), у другой — стрэлы. Па волі Перуна неба разразалі маланкі, ішлі праліўныя дажджы, узімку стаяла халаднеча і марозы — лепшыя сябрукі гаспадара неба не давалі спакою забыць самага небяспечнага бажаства.

Калі дзеці выпадкова губляліся ў лесе, іх бацькі малілі Лесавіка, каб злітаваўся над малымі, хутчэй адпусціў дадому. Вельмі часта гаспадары ўважліва назіралі за рэчамі, толькі б нічога не знікла без следу. Прыкмеціўшы разбіты збан ці кавалкі місы, звярталіся да Дамавіка, каб гэты дух паправіў іх становішча і больш не свавольнічаў.

І дзеці, і дарослыя не мелі прычыны сустракацца з нячысцікам.

Такі спалох, недавер да чорта не ўяўляўся чымсьці незвычайным, бо ўсе ведалі: ад нячыстай сілы нічога прыемнага чакаць не даводзілася, акрамя гора, пакутаў ды няшчасцяў.

Аднак зрэдку Пярун, Лесавік, Дамавік, дый чорт таксама, прыходзілі. Хто на дапамогу, а хто... Так, ад чорта дапамогі не дачакаешся!

Прыслухайцеся да гоману дрэваў у лясах, гаях, прыслухайцеся да шуму рэк і ручаёў, да сімфоніі крын-

ічак, да птушыных спеваў у паднябессі, да мелодыі жытнёвых каласоў на палетках, да гармоніі цуду вакол нас. Каб не скарыцца разнастайным заваёўнікам, што ішлі рабаваць жыхароў зямлі беларускай за ўсю трагічную гісторыю, нашыя далёкія продкі прасілі, каб згаданыя вышэй героі сваімі чарамі прымусілі адступіць войскі чужынцаў, гэткую чорную навалу на белым абрусе.

Марам наканавана здзяйсненне. Пярун асвятляў табары захопнікаў, а дрыгавічы, крывічы й радзімічы ў супольным змаганні не давалі магчымасці ворагам вярнуцца жывымі. Неба пакрывалася гурбой стрэлаў, што лёталі ў розныя бакі. Час ад часу падалі на дол параненыя заваёўнікі. Усюды ваяры-захопнікі шукалі паратунак, але нідзе яго не знаходзілі.

Тады Галоўны Дружыннік заваёўнікаў сцяміў: можа, пашанцуе ўнесці ногі да паселішча, побач з ускрайкам лесу... З часткай ацалелых вояў чужынскі валадар сунуўся быў да першых шалашоў, ды трапіў пад гарачую руку Дамавіка. Ворагі, не паспеўшы й крока зрабіць, адчулі: спякотна прыйдзецца ім тут. Дамавік імгненна раскідаў нечаканых аматараў грабежніцтва на дзесяткі метраў ад паселішча. Пачухаўшы патыліцы, гора-ваякі вырашылі перачакаць чарговую непрыемнасць у лесе, сабраць усіх, хто застаўся непаранены і здольны трымаць зброю, каб пасля кароткага адпачынку паўтарыць нашэсце на продкаў сучасных беларусаў.

Адпачываючы ў лясной глушэчы пасля шэрагу няўдач, самаўпэўненыя чужынцы, каб не дарэмна бавіць час да заходу сонца, рыхтавалі стрэлы, лукі, мячы да новай баталіі. Не жадаючы скурчыцца ад халодных подыхаў ветру, сабраўшы ламачча, паціху распальвалі вогнішчы. Крыху пазней, калі першыя жахі скончыліся, настралялі дзікоў, касуль, ласёў ды смажылі іх — не заставацца ж галоднымі ў незнаёмых мясцінах. Неспад-

зявана згаслі вогнішчы, быццам нейкі асілак дзьмухнуў так моцна, напэўна, жадаючы паказаць, хто ў гэтым лесе сапраўдны гаспадар.

Паціху цямнела. Сонца схавалася за небакраем... Раптам пачуўся трэск дрэваў. Высачэзныя сосны валіліся вакол раці незнаёмцаў, што па волі лёсу хацелі ўзяць сабе багацці краю лясоў і азёр.

Мужны волат, трымаючы велізарную дубіну, ішоў напрасткі да прыціхлых і знямелых рабаўнікоў. Яго ахоўваў панцыр са скуры лася, які не здолее прабіць аніякая страла. Грабежнікі падрыхтаваліся да абароны, але было позна. Лесавік пачаў перакідваць доўгую дубіну з адной рукі ў другую, запрашаючы Галоўнага Дружынніка на двубой. Першы з заваёўнікаў, не ведаючы, як не памыліцца і не трапіць у палон да ляснога гаспадара, маўкліва згадзіўся...

Пачаўся двубой.

Спачатку загрымелі дзіды. Лесавік, нягледзячы на каржакаваты выгляд, лёгка выбіў з рук дружынніка ягоную зброю. Дзіда, выслізнуўшы з рук захопніка, ляснулася на спарахнелы пень, аскепкі яе апынуліся невядома дзе.

Потым пайшлі ў ход дубіны. Як ні круціўся танклявы правадыр чужынцаў, спрыт не прынёс карысці няўклюдзе. Замест смелага наступу, каб зведаць хітрыкі Лесавіка, Галоўны Дружыннік сваю моц выкарыстаў на абарону, але неўзабаве ён быў збіты на горкі яблык. Збіраючыся да канца задаволіць помсту Лесавіка, чужынец выняў з похваў меч, каб апошнім націскам узяць перамогу над нязломным асілкам.

Адным словам, Галоўны Дружыннік у бойцы на мячах занадта паверыў у сілу вастрыні ляза, вось чаму кожны рух яго выклікаў здзіўленне Лесавіка. Разважаючы, чаму незнаёмцу не шанцуе, Лесавік абязброіў захопніка і забіў яго чужынскім мячом.

Варожыя воі, застаўшыся без камандзіра, кінуліся наўцёкі, хто куды, каб застацца жывымі ды пасля расказваць, чаму не трэба ісці ў паход на землі крывічоў, дрыгавічоў ды радзімічаў. Доўга гнаў Лесавік няпрошаных гасцей па ўладаннях, не хацелі ўспамінаць сустрэчу з лясным асілкам няўдалыя грабежнікі.

Палова заваёўнікаў, згубіўшы апошнія сілы, пераблытала сцежкі. Узрадаваўся чорт, па кім пекла слёзы пралівае, сцебануў пугай паветра. Чужынцы паспелі закінуць думку пра доўгачаканую свабоду, аднак скокнулі ў дрыгву. Да цяперашняга дня чорту смалу возяць і не скардзяцца: хоць у пекле адпачынак знайшлі.

Астатняя частка ўцекачоў-чужынцаў больш-меньш паспяхова вярнулася ў свае землі. І ўжо не хочацца ім вяртацца са зброяй на Беларусь, бо ведаюць: трэба свой розум мець, каб з суседзямі сябраваць, а не ваяваць.

І я там быў, мёд-віно піў ды гэты аповед на бярозу запісваў.

## СІЛА ДЗЯВОЧАГА ПРАКЛЁНУ

### (Антыўтопія)

**Н**еабсяжна Краіна Ведаў, дзе безліч люстэркавых рэк і багатых на ўраджай палеткаў. Неверагоднае тут жыццё: зранку спяшаюцца на заняткі школьнікі, лятуць, бы на крылах, на лекцыі студэнты, хуткай хадою шыбуюць на працу выкладчыкі. Бібліятэкары знаёмяць дзяцей і дарослых з новымі кнігамі пісьменнікаў.

У Горадзе Няўдач жыў-быў Настаўнік. Назва паселішча ўзнікла ад пакутаў насельнікаў за свавольствы чыноўнікаў. Людзі ведалі здольнасці маладога чалавека: заўсёды заступіцца за іхніх сваякоў перад пракурорам і паліцыянтамі, чыя служба мала адрозніваецца ад

звычайнага рабаўніцтва; малых выхаванцаў падрыхтуе да вучобы так, што яны пасля будуць удзячныя за атрыманыя навукі; улетку дапаможа дзядам і бабулькам на прысядзібнай гаспадарцы, старыя потым распавядалі хлопцу займальныя эпізоды з асабістай біяграфіі. Ветлівага, дабразычлівага і надзіва ўраўнаважанага юнака паважалі мясцовыя дзяўчаты за спакойны нораў, стрыманасць у паводзінах і шчырае сэрца. Здавалася, з падобным характарам наш герой мог прыносіць карысць гараджанам на ніве асветы, калі б на яго творчым шляху не сустрэўся Дырэктар.

Дырэктар праславіўся на ўсю Краіну ашуканствам, кпінамі й інтрыгамі, дзе канфлікты — з'ява штодзённая, чаго не кожны педагог вытрымліваў. Прайдзісвет любіў прыгадваць прымаўкі ў цяжкія хвіліны паспяховай кар'еры: загады ствараюцца не для абмеркавання, а для выканання; з немагчымага стварыць магчымае; адных Бог надзяліў розумам, другіх — уладай… Зразумела, гэтага начальніка імкнуліся абыходзіць за вярсту, каб раптоўна не апынуцца беспадстаўна вінаватым.

Закончыўшы універсітэт на выдатна, маладзён паспрабаваў знайсці плён у руплівай дзейнасці выкладчыка. Аднак лёгка справа задумваецца, толькі марудна вырашаецца.

Прадчуваў Настаўнік шэраг непрыемнасцяў. І не памыліўся.

Перад пачаткам верасня завітаў мой калега ў школу. Пацікавіўся памочнік Дырэктара ў хлопца, што патрэбна незнаёмцу.

— З вашым шэфам паразмаўляць, — не разгубіўся з адказам юнак.

— Пачакайце крыху, цяпер ён заняты, — прамармытаў хітры намеснік.

Праз гадзіну выклікае былога студэнта кіраўнік школы да сябе ў пакой.

— Сядайце ў крэсла, — гасцінна запрашае Дырэктар. — Чым можаце мяне парадаваць?

— Жаданнем пазнаёміць вучняў з мілагучнай роднай мовай, са славутымі старонкамі айчыннай і сусветнай гісторыі, літаратуры.

— Прыемна бачыць таленавітага Настаўніка. Заўтра пойдзеце на ўрокі. Калі папрацуеце месяц без аніякіх заўваг, узнагароджу заробкам.

У дзве змены стараўся малады чалавек. Спраўляўся адзін, дзе і тром выкладчыкам было б не пад сілу. З праверкамі да яго чапляўся Завуч, толькі змікіціў, што ад справядлівасці не ўцячэш. Завуч ужо скарыўся абставінам, згодны нават уласнае паражэнне прызнаць. Але Дырэктар засупярэчыў, а такія выкрутасы куды горш за артылерыйскую кананаду.

На перапынку ўгледзеў хлопец свайго крыўдзіцеля, сказаў:

— Абяцанкі абяцанкамі, але дамоўленасць за вамі.

Залямантаваў служка Мамоны на ўвесь калідор:

— Пакуль не адрамантуеш за тры месяцы старую вежу, пра грошы й адпачынак забудзь.

Задумаўся над трагічным лёсам Настаўнік. «Вось і давярай словам апошняга нягодніка. Хацеў мяне маральна знішчыць, а вынік нулявы. Сілай не возьме, лайдаку з пячорным інтэлектам гусей на лузе пасвіць, а не ў школе камандаваць. Пацешыўся з мяне, а я да яго з жартам дабяруся».

Паколькі часу над аднаўленне вежы дастаткова, то юны педагог пайшоў у лес па грыбы. Крок за крокам, хвіліна за хвілінай, гадзіна за гадзінай, і баравікоў — поўны кошык. І неўпрыкмет заблукаў хлопец у лесе. Ідучы па сцяжынцы, нечакана напаткаў дзяў-

чыну незвычайнага хараства: блакітныя вочы ззялі ўпэўненасцю, чорныя локаны валасоў марскімі хвалямі апускаліся на плечы, стан прыгадваў пяшчотную бярозку, ласкавая ўсмешка ўпрыгожвала чароўны твар...

Позірк за позіркам — і завязалася гутарка між імі:

— Вы хто?

— Фея Радасці... Дапамагаю падарожнікам.

— Мабыць, пазбаўляеце бедакоў ад гора?

— Канешне. Няўжо, сябра, цябе напаткала ліха?

— Падмануў аднойчы мяне Дырэктар, у другі раз збіраецца з кімсьці на вайну, таму хоча мець надзейную фартэцыю. А без цэглы, камянёў і цэменту і сцяны не складзеш.

— Тваю душу сагрэе каханне, за астатняе не хвалюйся!

— Дзе ж вас мне знайсці, Фея?

— Запомні, як малітву: каля ляснога возера красуні водзяць карагод, варажбяць на шчаслівы вянок.

Супакоіўся хлопец, падбадзёрыўся: цяпер можна і д'ябла за рогі ўзяць.

Падзякаваў Настаўнік і рушыў дадому.

Не абмішурыла Фея маладога чалавека — з руінаў вырасла наъздзщъ велізарная хароміна абарончага значэння.

Вядома, адразу не кожнаму ахламону ўгадзіш. Вось Дырэктар з хаўруснікамі чарговай бязглуздзіцай свет здзівіў. Закарцела ўладару ўпартасці сваю асобу прыраўняць да царскай, каб яго ўхвалялі ў дзяржаве, а дзеткі баяліся. І паперку не паленаваўся сабе накрэмзаць, дзе выслухоўваў толькі станоўчае. На адмоўнае і ўвагі не звяртаў. Усім работнікам школы ўмову паставіў: праз паўгоддзе чакайце дарагіх дарункаў, калі пад маю дудку спяваць будзеце.

Наш герой не ўмеў крывіць душой перад началь-

ствам, ад падобных учынкаў сумлення больш не стане. Аднак хлопца выратавала прадбачлівасць. Неяк заглянуў да яго Дырэктар. Цікава распавядаў юнак пра класікаў роднай літаратуры, толькі нічога не сказаў пра кіраўніка школы.

Раззлаваўся нахабнік:

— Тваё месца ў астрозе!

Настаўніка не запалохала пагроза. Усміхнуўся малады педагог, прашаптаў цудадзейны пацер: «Каля ляснога возера красуні водзяць карагод, варажбяць на шчаслівы вянок.» Раптам рассунуліся фіялетавыя хмары, спыніўся халодны дождж., сціх вецер — на небасхіле зазіхацела промнямі восеньскае сонейка. І з'явілася перад Дырэктарам Фея Радасці.

Тут ужо круцялю не да гумару.

Задрыжаў ад жаху бюракрат. Маўчыць, быццам магніт праглынуў. Дзяўчына дапытвае небараку-махляра:

— Колькі разоў схлусіў людзям?

— Можа, тройчы.

— Колькі пачынаючых выхавацеляў аблапошыў?

— З дзесятак набярэцца... Толькі аднаго ніяк не здужаю.

— Будзеш і далей псаваць моладзі настрой?

— Рату-уйце!.. — колькі хапіла сілы закрычаў Дырэктар. — Што са мной будзе?

— Праклён і забыццё. Няўжо не надакучыла здзекі ўчыняць?

...Мінулі гады. Пабраліся Настаўнік ды Фея Радасці, яшчэ шмат добрага зрабілі жыхарам казачнай краіны. Пра Дырэктара ніхто болей не ўспамінаў. Кажуць, дзесьці грахі ўласныя адмывае.

Не ажыццяўляйце горшага іншым, потым не раз пашкадуеце самі.

# «ВЯСЁЛЫЯ» ПРЫГОДЫ ТВОРЦЫ

Жыў ды быў у Краіне Мастацтваў Творца. Яго-ны дом знаходзіўся ў мястэчку Жывапіснае Слова. Сам аўтар з'яўляўся чалавекам бедным, сціплым, але надзіва вясёлым, верным сябрам. Пра талент Творцы ведалі жыхары: яго аповесці, апавяданні, казкі займалі не апошняе месца на кніжных паліцах, а санеты ды мадрыгалы, нібы ружы з Батанічнага саду, зачароўвалі мястачковых красунь. Радавала і знешнасць Творцы: высокі, зграбны, шыракаплечы, з кучарамі чарнявых валасоў, сінія ж вочы зіхацелі невераемнай дабрынёй, спагадай да цяжкай працы сялян, рамеснікаў, рабочых, што жылі ў казачнай краіне. Твару надавалі саліднасці й загадкавасці акуляры, зробленыя з незвычайнага шкла: паглядзіць ён у вочы дый скажа, які чалавек перад ім — сумленны ці не, добры ці злы, здольны да творчасці або да цёмных справаў...

У Краіне Мастацтваў вялікую пашану меў і Рэдактар, які жыў у Мястэчку Талентаў. Некалі ў маладосці гэты знакаміты чалавек заснаваў штотыднёвую літаратурную газету «Веснік натхнення», дзе змяшчалі свае творы паэты, празаікі, драматургі, крытыкі, фальклярысты й мастакі. Рэдактара ў дзяржаве баяліся рознакаліберныя прыстасаванцы, хабарнікі, аматары ляноты, бруднаслоўя, п'янства, бо ведалі, што могуць трапіць у мышалоўку: праз нейкі час іхнія вобразы зоймуць пэўную плошчу на старонках газеты, а то і на сцэне мясцовага тэатра, і будзе столькі смеху, жартаў, кпінаў ды знявагі, што бяры ногі ў рукі ды ўцякай, быццам драпежнік пасля няўдалага палявання.

Аўтар напісаў новую паэму «Гімн каханню» і спадзяваўся пачуць ад Рэдактара праўдзівую крытыку, а не падробкі пад яе.

Паколькі шлях доўгі да рэдакцыі — трэба ісці пешкі аж тры дні, Творца загадзя падрыхтаваў неабходныя ў такім падарожжы рэчы: ручнік з ініцыяламі, атрыманы ад Каханай, шаблю веры, падораную Сябрам, і цудадзейны ліхтар ад Майстра з Жывапіснага Слова. Веснавой раніцай ён паклаў усё гэта ў торбу, схаваў паэму ў падкладку плашча і рушыў па Дарозе Няшчасцяў у Свет Ружовых Надзей.

Тым часам дзеячы мастацтва вялі жахлівую гістарычную вайну са злодзеямі слова. Да хаўрусу нячыстых на руку належалі: Зайдроснік, які, калі бачыў раптам у «Весніку натхнення» працу аўтара, гатовы быў зарэзаць таго адно за тое, што сам не меў творчых здольнасцяў; Плагіятар толькі і чакаў моманту, каб сцягнуць рукапіс твора і апублікаваць пад уласным прозвішчам; Цэнзар жа знішчаў думкі ў творах таленавітых людзей, як костку барбос падчас вячэры...

Памятаючы засцярогі ды наказы Каханай, ведаючы ўрокі Сябра па карыстанні шабляй, добрую інструкцыю Майстра, Творца ішоў хутка і спакойна. Ён разумеў, што пазбегнуць спаткання з вар'яцкай тройцай немагчыма, таму ўсе страхі й думкі пра няшчасці адкінуў як нешта нецікавае і сумнае. Ведаў: з ім нічога не здарыцца, бо таленты выжывалі нават і ў міжусобіцы князёў і каралёў, і пры грамадзянскай вайне...

Стомлены за паўдня хады, малады пісьменнік прылёг на палянцы пад сасной і хутка заснуў. Не прайшло і гадзіны, як пачуўся дзікі свіст і тупат капытоў.

«Пачалося! — спрасоння падумаў Творца. — Хто ж гэта першым патурбаваў мяне?» І тут жа згледзеў: яму напярэймы ляціць атрад вершнікаў на чале з Плагіятарам. За якія два крокі аматар чужых твораў закрычаў да маладога аўтара на ўвесь голас:

— Гэй, пісака! Я — Чорнае Вока!.. Аддавай свае

паперы ды йдзі сабе далей!.. Пяць хвілін на роздум! Ясна?!.

Творца з гэтым не мог пагадзіцца — лепей загінуць, чым рукапіс Чорнаму Воку збахрыць. Задумаўся.

— Твае хвіліны збеглі дажджом... Давай рукапіс, чарнільная душа! — сказаў здзекліва Плагіятар. — А не — знойдзеш смерць ад рукі маёй!

Творца і не думаў адчайвацца — дастаў з торбы ручнік ды торапка, напаўголаса, варажбу спрычыніў:

— Разгарніся сцяной, ручнік,
узніміся каменнем,
каб мухаю вораг знік!

І бачыць ён: апусцілася каменная сцяна на паляну, а Плагіятар з войскам сваім б'юцца пікамі ды алебардамі з перашкодаю нечаканаю...

Схаваў наш герой ручнік і далей спакойна пайшоў.

На другі дзень сонечным ранкам паснедаў Творца ды ўзгадаў вобраз Музы, што з'явіўся яму Сіняю Птушкаю. Аднак не паспеў нацешыцца думкаю пра дадзены менавіта ёю паратунак — падзьмуў злосны вецер, неба зацялася ў чорных хмарах, і проста яму насустрач скакалі клінам, падобным на парасячы лыч, тры атрады вершнікаў з Зайдроснікам наперадзе.

— Дзеля жадання Крывога Сэрца прадай рукапіс, і ўвойдзеш у маю армію. Тры хвіліны на роздум. Дапяў?!.

Зайдроснік загадаў акружыць падарожніка.

Творца і гэты раз не схіліў галавы, сказаў, як адрэзаў:

— Не! Рабі са мной, што хочаш, чаго прагне твая крывая душа ды сквапная зайдрасць...

— Адсекчы яму галаву! — залямантаваў махляр.

Гайдукі Крывога Сэрца кінуліся пакараць Творцу, але той выхапіў шаблю з ножнаў і выгукнуў:

— Шабелька маладзецкая,
пакажы моц баецкую!

Гадзіну змагаўся, другую, трэцюю — разбіў ворага ў шчэпкі.

На трэці дзень, калі дабраўся да Палаца Літаратуры, дзе размяшчаўся «Веснік натхнення», надумаў Творца паабедаць, і яшчэ не сеў, як зноў няшчасце звалілася: з пяццю атрадамі пяхоты ды вершнікаў лучае ўзяць яго ў палон Цэнзар. Крычма крычыць да сваёй паліцыі:

— Схапіць Творцу на інквізіцыю!

— Здавацца не збіраюся!

У левай руцэ Творцы зіхотка заззяў цудадзейны ліхтарык.

— Ліхтарык-камарык,
надзеяй свяці —
Цэнзара асляпі!

Дрыжыць зямля, маланкі неба крэсляць. Цяжка Творцу на полі бою. Верная шабля злыдняў сячэ, адбівае вострыя шаблі варожых палашоў. І пачулі звон Сябра ды Майстра — заспяшаліся на дапамогу Творцу...

Дзень героі б'юцца, другі, а праблiску на перамогу няма — панайшла дапамога да Цэнзаравай харугвы ад рэшткаў Плагіятара і Зайдросніка. Скончылася цярпенне Творцы — плюнуў ён Цэнзару ў вочы, і адкаціўся той з войскам сваім ад дарогі.

Нарэшце заходзіць Творца з Сябрам і Майстрам у рэдакцыйны пакой. Каханая іх сустракае, убачыла, што

ў яе любага плячо параненае, позіркам павяла, бы святою вадой паліла, — перастала бруіцца кроў. Тут Рэдактар і ўсчаў хваласпеў:

— Малайчына, мужны хлапчына:
праз пекла ваяром праляцеў
і героем у Палацы сеў.
Гуляй вяселле,
ганяй чорнае зелле...
У Творцы — свята,
госцікаў мілых поўная хата...
І я там быў,
мёд-віно піў,
на вусны цякло,
ды ў рот не трапіла.
А мараль такая ў казкі:
праз пакутаў хвалі
прабіваецца талент — Музы каханне!
Нялёгка даецца чытачоў прызнанне...

## КАНТРОЛЬНАЯ РАБОТА

### (У пошуках новага жанру)

*У якасці прыкладу выкарыстана апавяданне Алеся Філіповіча «Фальклор», надрукаванае ў часопісе маладых літаратараў «Першацвет» (1995 г. № 11, с. 17-22).*

*А) На прыкладзе аднаго празаічнага твора выявіце: тэму, вядучую праблему, тып праблематыкі, ідэю, від (віды) пафасу.*

На нашу думку, тэма апавядання Алеся Філіповіча заключаецца ў назве твора, з чаго не складана зрабіць

высновy: гэта жыццяпіс аўтара і адначасова апавядальніка ў адной з глухіх беларускіх вёсак, дзе ён разам з аднагрупнікамі займаўся зборам вуснай народнай творчасці.

Вядучая праблема апавядання — апісанне жыцця сучаснай беларускай вёскі, захаванне спрадвечных нацыянальных традыцый, захапленне вяскоўцамі й моцная вера ў розных добрых і злых духаў, накшталт дамавікоў і лазнікаў.

Тып праблематыкі: знешні — паралелі і супярэчнасці паміж горадам і вёскай; унутраны — своеасаблівасць гісторыі з маленства дзядзькі Восіпа, што заснавана на рэальных падзеях, а не на выдуманых.

Сацыяльны — адмоўны ўплыў на дзейнасць жыхароў вёскі алкагольных напояў, у прыватнасці, самагону. Будзем справядлівыя ў ацэнцы твору: для аўтара ўжыванне «смагі» — гэта цяжар, пакуты, боль, таму адчуваецца праз элементы гумару асуджэнне згаданай з'явы.

Ідэя апавядання — праўда жыцця дзядзькі Восіпа выклікае давер да персанажа: запіс твораў жывога народнага мастацтва заўсёды меў здзяйсненне ў надзвычай складаных умовах, дзе шмат спакусаў і не менш выпрабаванняў, аднак без фіксацыі фальклору немагчыма далейшае развіццё нацыянальнай літаратуры.

Пафас апавядання «Фальклор», згодна з меркаваннем даследчыка, заключаецца ў наступным: нягледзячы на выпрабаванні эпох, вусная народная творчасць жыла, жыве і будзе яшчэ жыць столькі, пакуль на зямлі ёсць беларускі народ, яго родная мова, гісторыя, культура, этнаграфічная і геаграфічная прастора.

*Б) Мастацкія дэталі.*

Наяўнасць мастацкіх дэталёў выразна бачна ў апа-

вяданні, і іх дастаткова, каб асобныя закрануць пры разглядзе:

1) сустрэча студэнта з дзядком; спачуванне старога чалавека маладому ў тым, што няма чаго цікавага распавесці.

Заўважым, вобраз дзядка — гэта адначасова і фальклорны, і казачны, і літаратурны персанаж, адметнасць яго з'яўлення ў творы — адна з задумаў аўтара, дарэчы, вельмі ўдалая і бясспрэчная.

2) вясковы самагон разглядаецца ў якасці аб'екту мастацтва. «Самагон — гэта цэлае мастацтва, спрадвечная народная творчасць, якая заслугоўвае самага ўважлівага разгляду. І хто ведае, што было спачатку: першая песня ці першы келіх?» (С. 18).

3) адметныя назіранні дзядзькі Восіпа.

« — І не жаніся. Альбо не пі, — сказаў дзядзька Восіп і засмяяўся». (С. 20).

У прыведзеным прыкладзе праводзяцца паралелі паміж жаніцьбай і п'янствам, тым самым сцвярджаецца народная мараль: калі хочаш жыць спакойна і ў згодзе з жонкай, не ўжывай алкагольных напояў; калі захапляешся пляшкай з зеллем, жыві без жонкі.

4) наяўнасць чарцей у рэальным жыцці вяскоўцаў.

«Я спытаў:

— Цёця Маня, а ці бачылі вы калі чарцей?

— Ды кожны дзень бачу. У нас іх поўная вёска, пад плотам так і валяюцца...» (С. 22).

Можна смела сцвярджаць, што пад чарцямі неабходна разумець аматараў і прафесіяналаў выпіўкі. Вобраз дакладны, лаканічны іјзмястоўны.

*В) Вызначце хранатоп твораў, гэта значыць, асаблівасці адлюстравання часу і прасторы: хранатоп аб-*

*страктны ці канкрэтны, укажыце спосабы канкрэтызацыі, калі канкрэтны.*

У апавяданні хранатоп канкрэтны, да яго належаць узрост дзядзькі Восіпа, калі з ім сустрэўся аўтар (каля 50 гадоў); аповед Восіпа паказвае на той момант, калі з ім здарылася неспадзяванка-спалох — ці ад ката, ці ад дамавіка (недзе восем годоў).

Дакладнасць апісання падзеяў з гісторыі дзядзькі Восіпа не выклікае супярэчлівых поглядаў, паколькі ўцёкі на двор і знаходжанне там — прыблізна дзесяць хвілін — маглі рэальна быць.

Прастора — беларуская вёска. Можна меркаваць, што прыгоды дзядзькі Восіпа маглі адбывацца ў тым самым паселішчы, дзе праходзіў фальклорную практыку аўтар апавядання.

*Г) Выпішыце з тэкстаў словы рознага моўнага асяроддзя (варварызмы, архаізмы, жарганізмы, неалагізмы, аказіяналізмы), словы з прамым значэннем (антонімы, паронімы, сінонімы, амонімы), тропы і ўкажыце іх функцыі ў канкрэтным тэксце.*

У апавяданні досыць багата сінонімаў, да іх ліку належаць *фальклор, смага, самагон; аматар Бахусавага пітва, чорт; змрочна, у пекле. чартаўшчына, НЛА, палтэргейсты, дамавік, д'ябал; студэнт, вучоны чалавек...*

Для празаічнага твору характэрна наяўнасць параўнальных зваротаў:

«Рукі ў нас апусціліся, як селядцы. З вылупленымі ад жаху вачыма, я, бы злодзей, дасунуўся да дзвярэй і шуснуў у хату. Я нават адчуў, як гэтая пачвара смярдзіць. А ты ад яго, як ад д'ябла. Хочаш вер, хочаш — не».

*Д) Прааналізуйце архітэктанічную і ўнутраную*

*кампазіцыю твора (кампазіцыю сюжэта — экспазіцыя, завязка, развіццё дзеяння, кульмінацыя, развязка).*

Экспазіцыя апавядання «Фальклор» — апавядальнік разам з аднагрупнікам Славікам апынуліся на практыцы ў глухой вёсцы. Хлопцы ахоплены патрыятычнымі пачуццямі, яны не губляюць аптымізму, што дасягнуць пастаўленай мэты.

Завязка — знаёмства аўтара з жыхарамі вёскі — маюцца на ўвазе персанажы цёця Маня і дзядзька Восіп.

Развіццё дзеяння — нарэшце апавядальніку пашанцавала запісаць гісторыю дзядзькі Восіпа, аднак перад гэтым аўтар ледзь не напалохаўся сабакі гаспадара; непасрэдна прыгоды дзядзькі Восіпа ў маленстве.

Кульмінацыя — спалох Восіпа альбо перад катом, альбо перад дамавіком; барацьба з нячыстай сілай з дапамогай валёнкаў; уцёкі маленькага хлопчыка ад прывіду.

Развязка — паспяховы фінал прыгодаў, у выніку чаго дамавік больш не з'яўляўся ў хаце бацькоў Восіпа.

*Е) Пазасюжэтныя элементы адсутнічаюць у згаданым апавяданні.*

*Ё) Зызначце тып і від канфлікту і тып сюжэта ў апавяданні; укажыце, ці супадае ў ім фабула і сюжэт. Калі не, запішыце фабульную паслядоўнасць падзеяў, адлюстраваных у творы.*

Тыпы канфлікту: унутраны — зносіны паміж апавядальнікам і дзядзькам Восіпам адносна ўжывання алкагольных напояў; барацьба малога Восіпа з дамавіком; асуджэнне п'янства як ганебнай з'явы ў сучаснай беларускай вёсцы; знешні — існаванне добрых і злых істотаў рэальна сцверджана ў аповедзе дзядзькі Восіпа.

Від канфлікту — побытавы; тып сюжэта — прыгодніцкі, рэалістычны, з элементамі гумару; поўны, з наяўнасцю ўсіх структурных кампанентаў; у творы заўважаны чатыры сюжэтныя лініі, а менавіта: жыццё цёці Мані й дзядзькі Восіпа, аўтара апавядання і ягонага сябрука Славіка, найбольш падрабязна раскрыты тры з іх.

Не памылімся ў ацэнцы, што Славік — эпізадычны персанаж, ягоны вобраз ужыты дзеля стварэння гумарыстычнага эфекту.

*Ж) Ахарактарызуйце сістэму персанажаў у творы й спосабы іх стварэння.*

Як было заўважана раней, у апавяданні 4 персанажы. Яны сапраўды маглі апынуцца разам, аднак не станем адмаўляць таго, што гэта людзі з багатым жыццёвым вопытам, сваім светапоглядам, і хоць не аднойчы праходзілі розныя выпрабаванні, аднак ніколі не страчвалі лепшых чалавечых якасцяў. Ім характэрна шчырасць, спагада да бліжняга, радасць ад увагі й ад цікавых размоў.

Вобраз цёці Мані сімвалізуе сабой тып звычайнай вясковай бабулі, разважлівай і па-свойму добрай ды лагоднай. Яна не адмаўляе ў кватараванні апавядальніку і яго сябру Славіку, не ідзе на канфлікт з моладззю.

Вобраз дзядзькі Восіпа прываблівае тым, што гэты чалавек дастаткова багата пабачыў прыгодаў і здарэнняў у сваім віхурным жыцці. Ён знаходзіцца ў разводзе з жонкай, магчыма па згаданай прычыне і пакутуе ад алкагольнай залежнасці...

Традыцыі й наватарства захоўваюцца кожнымі пакаленнямі Творцаў, удасканальваюцца, перадаюцца ад прадстаўнікоў старэйшага пакалення наступным —

малодшым. І мы павінны быць удзячныя за гэта Гос-паду Богу і нашым літаратурным настаўнікам, якія ўкладваюць у нас свае сэрцы, душу, выхоўваюць і давяраюць, дзеляцца апошнім і радуюцца нашым поспехам, перамагаюць агульныя з намі нягоды.

## ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**МЕЛЬНІКАЎ Юрый Сяргеевіч**

**КАЛІ СНЫ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЦА...**

**Кніга прозы**

**Адказны за выпуск А. Рубіс**

**Рэдактар А. Масарэнка**
**Карэктар Н. Ружыцкая**
**Вёрстка А. Барысаў**
**Вокладка Т. Мельнікава**

Здана ў набор 17.06.2006 г. Падпісана ў друк 25.08.2006 г.

Фармат 84 x108x32. Друк афсетны. Ум.-друк. арк. 10,6. Ул. выд. арк. 11,3.

Наклад 120 асобнікаў.

ААА Выдавецтва «Эксмо»
127299, Масква, вул. Клары Цэткін, д. 18/5
Тэл. 421-68-96; 946-39-27

Надрукавана ў поўнай адпаведнасці з якасцю прадстаўленых дыяпазітываў у ААА «Мажайскі паліграфічны камбінат.

143200, г. Мажайск, вул. Міра, 93.



Тваёй усмешцы жытнёвай
анёл прынясе пярсцёнкі ружовыя;
няхай сон убачыць высокія зоры -
я сустрэну цябе на райскім парозе.

